

*Езус у цярновым вянку.*
*Ікона арэалу палескіх гаворак.*
*Канец XIX – пачатак XX ст.*
*Са збору Дзмітрыя Сабаніна.*

дамше им гдь бог Судью, оньже избелемше их
отруку вражиих. И тако вся Книга сия пишеть на
иболей обеззаконии и огресех людей Израилевых, но
работей Царем чуждим, и оволю и кгду богу,
и овеликом милосердии божием. Многобо лет
грех для своих работаша врагом, И скоро нера
щахуся высвобожены быв аша. Грехов убо ради их
укреплахуся врази, и покаяния для понижены быша

Што дано ест кнаби нам Хрестияном, егда
грешимо пред лицем божиим укрепляются врази
наши душевный яко суть диаволи, и телесный яко
суть поганы. И внегда каемся грехов своих, то
посылает нам гсдь бог Пастырей и Докторов, о
ниже научають нас противитися бесовским поку
сам. Теже князей и воевод добрых иже боронят
нас отрук поганских готовобо ест милосердие
божие всем призывающим его вцелом серци :~

Конец Предсловия :~

*Францыск Скарына.*
*З прадмовы да Кнігі Суддзяў.*


**У нумары 2/2017**

# НАША ВЕРА



**Да 100-годдзя Фацімскіх аб’яўленняў**

2 *Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ*
ТЭАЛОГІЯ ФАЦІМСКІХ АБ’ЯЎЛЕННЯЎ
І ІХ АКТУАЛЬНАСЦЬ У НАШ ЧАС

7 *Анджэй ГРАЕЎСКІ*
ПАПА, ЯКІ ХАЦЕЎ СПЫНІЦЬ ВАЙНУ

**Вялікія містыкі**

10 *Святы Ян ад Крыжа*
УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

**У святле Бібліі**

13 *Марына ПАШУК*
«ДАРОГА ЖЫЦЦЯ». ПА СТАРОНКАХ КНІГІ ТОБІЯ

**Гісторыя**

18 *Андрэй ВАШКЕВІЧ*
У ІХ БЫЎ СВОЙ ШЛЯХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Да 500-годдзя беларускага кнігадруку**

22 *Адам МАЛЬДЗІС*
ДЗЕ МОЖА ЗНАХОДЗІЦЦА МЕСЦА ПАХАВАННЯ
ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ?

25 *Алег ЧЫРКУН*
Я ЎДЗЯЧНЫ БОГУ ЗА НАТХНЕННЕ

**Мастацтва**

28 *Аркадзь ШПУНТ*
ІКОНЫ АРЭАЛУ ПАЛЕСКІХ ГАВОРАК

**Архітэктура**

36 *Тамара ГАБРУСЬ*
ПРЫГАЖОСЦЬ У ПРАСТАЦЕ

**Пераклады**

43 *Ірына БАГДАНОВІЧ*
СТАЎ САПРАЎДНАЙ ЛЕГЕНДАЙ...

44 *Габрыэля ПУЗЫНЯ*
КАСЦЁЛ У БЯЛЫНІЧАХ

**Мастацтва**

46 *Лідзія КАМІНСКАЯ*
У СУЛАДДЗІ З БОЖЫМ СВЕТАМ

**Успаміны**

50 *Янусь МАЛЕЦ*
СКАЗ ДЛЯ НАС І ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

**Спадчына**

53 *Ганна ШАЎЧЭНКА*
НА ШАЛЯХ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І МІЛАСЭРНАСЦІ

56 *Антон ГАРЭЦКІ*
СМЕРЦЬ ЗДРАДНІКА АЙЧЫНЫ

**Паэзія**

58 *Георгій ЛІХТАРОВІЧ*
ВЕРШЫ

**Літаратуразнаўства**

60 *Ева ЛЯВОНАВА*
«ЯК КВЯЦІСТЫ БЫЛІ ТВАЕ ПЕСНІ...»

**Прэзентацыя**

64 *Анатоль БРУСЕВІЧ*
СВЯТА ЎЗНЁСЛАГА СЛОВА

**Успаміны**

66 *Міхась СКОБЛА*
БУЙНІЦЫ І ДРАБНІЦЫ УЛАДЗІМІРА СОДАЛЯ

**Роздум**

69 *Данута БІЧЭЛЬ*
«ШЧАСЛІВЫЯ ЎБОГІЯ ДУХАМ...»



Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

# ТЭАЛОГІЯ ФАЦІМСКІХ АБ'ЯЎЛЕННЯЎ І ІХ АКТУАЛЬНАСЦЬ У НАШ ЧАС

## З даклада на сімпозіуме да 100-годдзя Фацімскіх аб'яўленняў (Жодзіна, 15 мая 2017 г.)

<...> У гэтым годзе свет адзначае 100-годдзе Фацімскіх аб'яўленняў, якія сталі адной з найбольш інтрыгуючых і прарочых падзеяў ужо мінулага ХХ стагоддзя. Праз месяц пасля іх завяршэння ў Расіі адбылася камуністычная рэвалюцыя, якая прынесла незлічоныя беды і пакуты людзям не толькі Усходняй Еўропы, у тым ліку і Беларусі, але таксама мела вялікі негатыўны ўплыў на ўвесь свет. <...>

Сёлета гісторыя дае нам добрую нагоду супрацьпаставіць гэтыя дзве гістарычныя падзеі, якія так моцна паўплывалі і надалей уплываюць на развіццё нашай краіны і свету. Яшчэ зусім нядаўна здавалася, што ідэі рэвалюцыі і атэістычнай ідэалогіі перамаглі, але гісторыя паказала, што не яны, а Бог кіруе светам. Гэта мы зведваем і ў Беларусі, хоць працэс як духоўнага, так і грамадскага адраджэння не з'яўляецца лёгкім і патрабуе шмат часу і высілкаў.

Фармальна мы выйшлі з няволі ваяўнічага атэізму, але яго наступствы яшчэ моцна трываюць у нас і перашкаджаюць на шляху да духоўнай свабоды, якая з'яўляецца падмуркам усялякай іншай свабоды. У нас яшчэ глыбока ўкаранёны тып *Homo soveticus* — савецкага чалавека, які часта не мае свайго меркавання і толькі ў калетыве, які за яго вырашае, адчувае сябе бяспечна. Ад такога тыпу чалавека, выхаванага на працягу трох пакаленняў таталітарнага камуністычнага рэжыму, нялёгка пазбавіцца.

Майсей вёў выбраны народ на абяцаную зямлю 40 гадоў. Гэта было неабходна для таго, каб народ стаў духоўна свабодным, каб цаніў свабоду больш за мяса, часнок ці цыбулю (пар. Ліч 11, 4–5). Падобна, што і нам неабходна набрацца цярплівасці, наследуючы Марыю ў Яе згодзе з Божай воляй і, будучы паслухмянымі Яе Фацімскаму закліку да малітвы і пакаяння, ісці на нашу беларускую зямлю духоўнай свабоды.

Фацімскія аб'яўленні складаюцца з трох частак, так званых трох Фацімскіх таямніцаў. Першая і другая апавядаюць пра жахі пекла, заканчэнне Першай

сусветнай вайны і распачацце Другой, а таксама заклікаюць да малітвы, навяртання, пакланення Беззаганнаму Сэрцу Марыі і прысвячэння яму Расіі. Трэцяя таямніца, якая была абнародаваная толькі ў 2000 г., прадстаўляе гісторыкатворчую рэчаіснасць XX стагоддзя з ганеннямі на веру і ў духоўнай перспектыве тлумачыць яе сэнс (пар. MF, с. 3).

Такім чынам, Фацімскае пасланне Марыі ўваходзіць у сучасную гісторыю Касцёла і чалавецтва, а таксама прадстаўляе новую візію для яе разумення. Просьба Марыі прысвяціць Расію Яе Беззаганнаму Сэрцу і развіваць гэты культ з'яўляецца ключом да разумення гісторыі сучаснага свету, якая на самай справе перадусім з'яўляецца «барацьбой духу свабоды і духу зняволення».

Дзякуючы Фацімскім аб'яўленням Касцёл здабыў у барацьбе са злом новыя формы духоўнасці, падмуркам якой з'яўляецца асоба Марыі, якая прадказала найбольш трагічныя падзеі XX стагоддзя і адначасова дала надзею на навяртанне.

Трэба падкрэсліць, што Фацімскія аб'яўленні Марыі з'яўляюцца найбольш правідэнцыяльнымі ў сучаснай гісторыі (пар. MF, с. 3), пацвярджэннем чаго служаць падзеі канца 80-х і пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі, як здавалася, непарушны савецкі рэжым развалíўся, нібы картачны домік.

Звышнатуральныя падзеі ў гісторыі чалавецтва часта здзіўляюць нас, аднак заўсёды неабходна памятаць, што іх змест не павінен пярэчыць веры. Такім і з'яўляецца Фацімскае пасланне, якое заклікае да малітвы і навяртання. Гэта сведчыць пра тое, што яно адпавядае духу



Евангелля, бо да гэтага заклікаў таксама Езус (пар. Мк 1, 15; Лк 18, 1). Святы Ян Павел II вучыць, што Касцёл прызнае Фацімскае пасланне перадусім таму, што ў ім змешчаныя праўда і заклік самога Евангелля (пар. http://w2.vatican.va/content/john-paul-ii/it/homilies/1982/documents/hf_jp-ii_hom_ 19820513_fatima.html).

Каб прадставіць тэалогію Фацімскіх аб'яўленняў, найперш неабходна згадаць аб тым, што Касцёл прызнае два віды аб'яўленняў — агульныя і прыватныя. Агульныя адрасаваны ўсяму чалавецтву і знаходзяцца ў Святым Пісанні Старога і Новага Запаветаў. У іх прадстаўлены жывы працэс уваходу Бога ў гісторыю чалавецтва, кульмінацыйным момантам якога з'яўляецца таямніца Богаўцелаўлення (пар. ККЦ, 65). Дзякуючы гэтаму Бог у Хрысце прадставіў чалавецтву самога сябе.

Аднак, як падкрэсліваў кардынал Ёзаф Ратцынгер, будучы папа Бэнэдыкт XVI, сам факт завяршэння Божага Аб'яўлення ў асобе Езуса Хрыста не азначае, што Касцёл можа глядзець толькі ў мінулае і што ён асуджаны на бясплённае яго паўтарэнне (пар. MF, с. 33). Другі Ватыканскі Сабор у канстытуцыі пра Божае Аб'яўленне вучыць, што Касцёл цягам вякоў няспынна ідзе да паўнаты Божай праўды, пакуль у ім не споўняцца Божыя словы (пар. DV, 8), а Катэхізіс Каталіцкага Касцёла падкрэслівае, што хоць Божае Аб'яўленне і завяршылася, аднак яно не да канца пазнанае і таму хрысціянская вера павінна імкнуцца да яго глыбейшага разумення (пар. ККЦ, 66).

У такім кантэксце неабходна разглядаць прыватныя аб'яўленні, якія адбываюцца пасля Новага Запавету. Пад гэтую катэгорыю падпадаюць і Фацімскія аб'яўленні (пар. MF, с. 34). Катэхізіс вучыць, што прыватныя аб'яўленні не прызначаны палепшыць ці дапоўніць Хрыстовае Аб'яўленне, яны неабходныя для таго, каб у канкрэтную гістарычную эпоху дапамагчы людзям больш поўна жыць Божаю праўдаю (пар. ККЦ, 67).

Адсюль можна зрабіць дзве фундаментальныя высновы. Першая: агульнае, ці Боскае, Аб'яўленне патрабуе яго бясспрэчнага прызнання як Божага слова. Другая: няма абавязку публічна выказваць сваю веру ў прыватныя і прызнаныя Касцёлам аб'яўленні, бо яны датычаць індывідуальнай веры, разумнай разважлівасці.

Для касцёльнага прызнання прыватнага аб'яўлення неабходныя тры ўмовы: яно не павінна супярэчыць веры і пабожнасці; павінна мець публічны характар і вызначацца разумным культам. Мэтаю прыватнага аб'яўлення з'яўляецца глыбейшае пазнанне

і перажыванне Евангелля, таму яго нельга ўспрымаць легкадумна.

Крытэрыем сапраўднасці прыватнага аб'яўлення з'яўляецца яго хрыстацэнтрычнасць. Калі яно аддаляе ад Хрыста, становіцца незалежным ад Яго або прадстаўляе неадпаведны Евангеллю план збаўлення, то яно не ад Святога Духа і не можа быць прынята як сапраўднае.

Вядома, што Касцёл у кожным часе атрымлівае ад Бога дар прароцтва, да якога нельга ставіцца легкадумна, як вучыць св. апостал Павел (пар. Тэс 5, 19-21). Аднак трэба памятаць і пра тое, што прароцтва ў біблійным разуменні не азначае прадказання будучыні — яно прызначана для тлумачэння Божай волі ў канкрэтны час гісторыі, а гэта воля ўказвае напрамак у будучыню.

У працэсе нашага збаўлення сутнасным з'яўляецца актуалізацыя Божага Аб'яўлення, бо прароцкае слова — гэта перасцярога або суцяшэнне, або і тое, і другое. У гэтым сэнсе можна казаць аб паралелі паміж харызмаю прароцтва і паняццем «знакі часу». У сувязі з гэтым нездарма Езус папярэджвае: «Крывадушныя, аблічча зямлі і неба распазнаваць умееце, як жа часу гэтага не пазнаеце?» (Лк 12, 56).

Неабходнасць чытаць знакі часу падкрэслівае і Другі Ватыканскі Сабор: «Касцёл заўжды павінен даследаваць знакі часу і інтэрпрэтаваць іх у святле Евангелля так, каб быць здольным кожнаму пакаленню даць зразумелы адказ на вечныя пытанні людзей пра сэнс цяперашняга і будучага жыцця і пра іх узаемасувязь. Таму трэба пазнаваць і разумець свет, у якім мы жывём, а таксама яго спадзяванні, памкненні і нярэдка яго драматычны характар» (GS, 4).

Чытаць і тлумачыць знакі часу ў святле хрысціянскай веры азначае не што іншае, як распазнаваць прысутнасць Хрыста ў свеце ў канкрэтным часе і ў канкрэтных абставінах. Менавіта так трэба разумець прыватныя аб'яўленні, у тым ліку і Фацімскія. Яны павінны дапамагаць у разуменні знакаў часу і ў пошуку адпаведных адказаў на іх у святле веры (пар. MF, с. 34-36).

Вышэйпрыведзеныя разважанні дазваляюць перайсці да тэалагічнай інтэрпрэтацыі Фацімскіх аб'яўленняў.

Як ужо было сказана, у першай і другой частках Марыя паказала фацімскім дзецям жахі пекла і распавяла аб цяжкасцях, якія чакаюць народы Усходу і ўвесь свет, калі Расія будзе распаўсюджваць у ім свае памылкі. Каб прадухіліць іх, Божая Маці заклікала да малітвы і навяртання, а шляхам да паратунку павінна быць набажэнства да Яе Беззаганнага Сэрца і прысвячэнне яму Расіі.

У біблійнай традыцыі «сэрца» азначае цэнтр быцця чалавека. Хрыстус вучыць, што чыстае сэрца ўбачыць Бога (пар. Мц 5, 8), таму пакланенне Беззаганнаму Сэрцу Марыі вядзе да такога стану чалавечага сэрца, калі, па прыкладзе Марыі, нашае *fiat* — згода з Божай воляй — становіцца фактарам, які фарміруе нашае быццё (пар. MF, с. 39).

У трэцяй частцы аб'яўленняў гучыць трохкратны заклік анёла да пакаяння. Гэты заклік суадносіцца са словамі Езуса: «Кайцеся і верце ў Евангелле» (пар. Мк 1, 15). Таму пазнанне знакаў часу азначае разуменне і прыняцце заўсёды актуальнай неабходнасці навяртання (пар. MF, с. 40). У сувязі з гэтым нельга казаць, што Бог нас карае. Наадварот, людзі самі становяцца прычынаю бедаў. Бог, які цэніць нашую свабоду, толькі цярпліва папярэджвае і заклікае да вяртання на вызначаны Ім шлях (пар. MF, с. 8-9).

Трэцяя таямніца прадстаўляе анёла з вогненным мячом у левай руцэ, які, указваючы праваю на зямлю, выразна кажа: «Пакаянне, пакаянне, пакаянне». Біскуп у белым, іншыя біскупы, святары, кансэкраваныя асобы праходзяць праз напаўразбураны горад і падымаюцца на высокую гару, на вяршыні якой знаходзіцца крыж. Там ад стрэлаў жаўнераў яны гінуць разам са свецкімі людзьмі. Пад крыжам два анёлы збіраюць сплываючую з крыжа кроў у крыштальныя келіхі (пар. MF, с. 21).

Некаторыя сцэны трэцяй часткі Фацімскіх аб'яўленняў патрабуюць асаблівай увагі (пар. MF, с. 40-43).

Найперш — заклік анёла з вогненным мячом у руках да пакаяння. Анёл знаходзіцца леваруч Марыі. Гэта не што іншае, як праграма навяртання, бо ўсе мы грэшныя. Сам жа анёл з мячом з'яўляецца апакаліптычным вобразам пагрозы Божага суда, які навіс над светам. Думка аб тым, што свет можа загінуць у моры агню, больш не з'яўляецца фантазіяй, пра што сведчаць новыя віды зброі масавага паражэння, сярод якіх — ядзерная. У той жа час аб'яўленне ўказвае на сілу, якая можа выратаваць ад гэтай пагрозы. Гэтай сілай з'яўляецца Марыя, якая заклікае да малітвы, пакаяння і пашырэння культу Яе Беззаганнага Сэрца.

Наступная частка трэцяй Фацімскай таямніцы прадстаўляе абрывістую гару, напаўразбураны горад і крыж. Гара і горад сімвалізуюць месца, дзе здзяйсняецца чалавечая гісторыя. Гэта гісторыя складанага чалавечага развіцця і адначасова небяспекі аж да яго зруйнавання. На гары як арыенцір чалавечай гісторыі ўзвышаецца крыж, які пераманяе разбурэнне ў збаўленне. Таму крыж з'яўляецца знакам надзеі.

Далей у трэцяй частцы Фацімскай візіі з'яўляюцца біскупы, святары, кансэкраваныя асобы і вернікі. Паводле фацімскіх візіянераў, біскуп у белым — гэта Папа, які ідзе першым праз напалову разбураны горад, ідзе

сярод забітых. Гэта не што іншае, як сімвал Крыжовага шляху Касцёла і рымскіх Пантыфікаў XX стагоддзя. Гэта гісторыя Касцёла ў мінулым стагоддзі, гісторыя ганенняў, мучанікаў, сведкаў веры, дзвюх сусветных і многіх лакальных войнаў, якія прынеслі шмат цярпенняў чалавецтву.

Гісторыя замаху на папу Яна Паўла II, якая мела месца 13 мая 1981 г. на плошчы св. Пятра, і яго словы пра тое, што траекторыю кулі змяніла рука Марыі, сведчаць, што не існуе нязменнага прадвызначэння чалавека, што вера і малітва, а не танкавыя дывізіі з'яўляюцца тымі сіламі, якія могуць змяніць свет.

Апошнія словы трэцяй часткі аб'яўленняў даюць надзею ў катастрафічнай сітуацыі, якую Марыя паказала на пачатку: анёлы пад крыжам збіраюць у келіхі кроў мучанікаў. Паколькі крыж увасабляе цярпенні Хрыста і Яго кроў, гэтая сцэна паказвае, што кроў Хрыста зліваецца ў адзінае цэлае з крывёю мучанікаў, каб дапоўніць Яго цярпенні, як кажа св. апостал Павел (пар. Клс 1, 24). Падобна да таго, як з крыжовай смерці Хрыста нарадзіўся Касцёл, так і смерць Яго сведкаў прыносіць багаты плён для жыцця Касцёла.

Такім чынам, трэцяя частка Фацімскіх аб'яўленняў вельмі выразна падкрэслівае значэнне свабоды чалавека ў яго жыцці — прыняць прапанову Марыі ці адкінуць яе. Гэта азначае, што будучыня чалавека залежыць ад яго самога, таму мэтаю аб'яўленняў не з'яўляецца паказаць «фільм» пра будучыню чалавека, вырашаную раз і назаўсёды, але мабілізаваць яго да духоўнага перамянення. Такім чынам, Марыя праз Фацімскія аб'яўленні кажа не толькі пра небяспеку, што чакае грэшнае чалавецтва, але таксама прапануе лек, каб іх пазбегнуць.

Прадстаўленая вышэй тэалагічная інтэрпрэтацыя Фацімскіх аб'яўленняў дазваляе сказаць:

- Яна з'яўляюцца прыватнымі, аднак у той жа час яны карысныя ў справе ўмацавання і развіцця веры, што вельмі важна ў наш час яе глыбокага крызісу. Кардынал Ёзаф Ратцынгер лічыць, што прыватныя аб'яўленні маюць асаблівае значэнне ў святле Святога Пісання, інакш кажучы, з'яўляюцца спецыфічным дапаўненнем ведаў пра Евангелле (пар. http://zbc.uz.zgora.pl/ Content/31902/ tom _24.pdf);
- іх трэба ўспрымаць праз іх выразную сімволіку: вогненны меч, напалову разбураны горад, стромкая гара, сплываючая з крыжа кроў і г.д.;
- яны моцна ўпісаліся ў гісторыю свету, у тым ліку і ў гісторыю Беларусі;
- яны перадусім датычаць барацьбы атэістычнай сістэмы з вераю і апісваюць цярпенні яе сведкаў у XX стагоддзі;
- калі ў свеце нарастала небяспека атэізму і варожасці да рэлігіі і ўсё больш людзей пачынала жыць «так, як быццам Бог не існуе», а чалавек быў агорнуты д'ябальскай дэзарыентацыяй, Марыя нагадала пра некаторыя фундаментальныя катэхетычныя праўды — малітву і навяртанне, а таксама пра развіццё Яе культу. Мэта чалавечага жыцця заключаецца ў збаўленні, якога нельга дасягнуць грэшным жыццём. Аднак рэчаіснасць нашага жыцця вызначаецца дынамічнасцю, і канчаткова нішто не прадвызначана. Паратунак прыходзіць ад Марыі, якая заклікае да малітвы, навяртання і пашырэння культу Яе Беззаганнага Сэрца.

Мы ведаем усе тры Фацімскія таямніцы і з'яўляемся сведкамі прадказанага Марыяй 100 гадоў таму навяртання народаў, прыгнечаных у часы камунізму. Аднак гэты працэс вельмі складаны і патрабуе шмат намаганняў, асабліва ўлічваючы выклікі секулярызму.

Сёння паўстае новае пытанне: ці актуальныя яны ў наш час?

Сучасны свет зусім іншы, чым быў 100 гадоў таму. Развіццё навукі і тэхналогій змяніла яго да непазнавальнасці. Калі б сёння ажыў памерлы 100 гадоў таму чалавек, ён быў бы моцна здзіўлены ўбачаным і не верыў бы сваім вачам. Аднак у маральным сэнсе праблемы не зніклі і не вырашыліся, а наадварот, сталі яшчэ больш актуальнымі.

Калі ў палове XIX стагоддзя Карл Маркс пісаў, што прывід камунізму блукае па Еўропе, то сёння па Старым кантыненце блукае не толькі прывід камунізму, але і секулярызм з дэхрысціянізацыяй. Еўропа ўсё больш страчвае сваю хрысціянскую тоеснасць і нават не імкнецца яе захаваць. Яна пастарэла, стала духоўна хвораю і апатычнаю, страціла некалі ўласцівы ёй дынамізм і не прыносіць духоўнага плёну.

Як вядома, грэх з'яўляецца перашкодаю на шляху чалавека да Бога. Сучасны свет, і асабліва Еўропа, мэтанакіравана выдаляюць Яго з чалавечай думкі і дзейнасці, а праз гэта выкрэсліваюць з еўрапейскай культуры, якая вырасла з хрысціянства. Не трэба дзівіцца, што сучасны свет перажывае мноства крызісаў — эканамічны, фінансавы, сацыяльна-палітычны, крызіс сям'і, дэмаграфічны і г.д. Войны і тэрарыстычныя акты становяцца рэальнасцю сучаснага жыцця. Хрысціянства, як і ў першыя стагоддзі, стала рэлігіяй, якая найбольш церпіць пераслед. Самы вялікі Божы дар, якім з'яўляецца жыццё, становіцца таварам, які можна купіць і прадаць, ім можна маніпуляваць і за яго абарону можна быць пакараным. Гэтыя і іншыя анамаліі сучаснасці нагадваюць пра тое, што над светам вісіць апакаліптычны дамоклаў меч.

Таму заклік Марыі да малітвы

і навяртання не можа ўспрымацца як аднаразовы. Ён павінен уздымацца з пакалення ў пакаленне згодна з выклікамі часу. Таму трэба заўсёды вяртацца да яго, як вучыць св. Ян Павел II (пар. http://w2.vatican.va/content/john-paul-ii/it/homilies/1982/documents/hf_jp-ii_hom_19820513_fatima.html).

Кардынал Ёзаф Ратцынгер — будучы папа Бэнэдыкт XVI — казаў, што меч анёла, які вісіць над светам, можа ўпасці ў кожную хвіліну. Фацімскія аб'яўленні нагадваюць нам пра свабоду, якая была дадзена чалавецтву для таго, каб надаць ёй адпаведны напрамак і мабілізаваць чалавечыя сілы да духоўнай перамены, магчымай толькі праз выкананне ўмоваў, названых Марыяй фацімскім дзецям (пар. http://www.niedziela.pl/artykul/26766/Fatima-%E2%80%93-naglace-oredzie).

У сувязі з гэтым для нас акрэслены вялікі абавязак веры: перажываючы сёння небывалыя выклікі і новыя знакі часу, мы маем абавязак сумлення пазнаваць іх і своечасова на іх адказваць.

Як вядома, Фацімскія аб'яўленні мелі месца ў асаблівым 1917 годзе — годзе бальшавіцкай рэвалюцыі. Менавіта яна прынесла вялікае жніво смерці, тэрору і агрэсіі сотням мільёнаў людзей на зямлі, перадусім ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, у тым ліку і ў Беларусі, краіне, якая стала палігонам атэізму. Як супрацьпастаўленне Кастрычніцкай рэвалюцыі Фацімскія аб'яўленні сталі пазітыўнай падзеяй, якая нагадала чалавеку пра яго трансцэндэнтнае вымярэнне і пра тое, да чаго вядуць атэістычныя і ліберальныя ідэалогіі.

Гісторыя паўтараецца. У наш час, калі свет ізноў становіцца перад выбарам веры або бязвер'я, Бога або злога духа, дабра або зла, неабходна сказаць, што пасланне Марыі з Фацімы з'яўляецца актуальным як для ўсяго свету, так і для Беларусі. Марыя нагадвае нам пра евангельскую праўду аб тым, што чалавеку для паўнаты шчасця патрэбны толькі Бог, які яго стварыў і імкнецца падзяліцца з ім сваімі дарамі і шчасцем. Чалавеку ж неабходна з усіх сілаў імкнуцца да еднасці з Ім, ідучы няпростай, вузкай дарогаю веры.

Фацімскія прароцтвы пра крызіс веры і маральнасці адначасова з'яўляюцца заклікам да малітвы і пакаяння, а таксама надзеяй на пераадоленне крызісаў і на лепшае заўтра. У іх святле Бог рыхтуе нам цудоўную будучыню. Неабходна толькі прыслухацца да словаў Марыі, якія з'яўляюцца сэрцам Яе Фацімскіх аб'яўленняў: «Калі будзеце маліцца і навяртацца, то ўсё будзе добра, калі не, то вас чакаюць праблемы» (пар. MF, с. 8-9).

Мы не маем права наступаць другі раз на тыя ж самыя граблі сёння, калі сучасны свет перажывае новую амаральную рэвалюцыю, якая руйнуе хрысціянскія традыцыі — падмурак еўрапейскай цывілізацыі. Сучасны свет усё глыбей акунаецца ў акіян рознага роду памылак і вынікаючага з іх зла, якое не было такім пагрозлівым 100 гадоў таму. Усё гэта вядзе да самазнішчэння хрысціянскай Еўропы.

Таму евангельскі заклік да малітвы і пакаяння, выказаны словамі Марыі, і надалей з'яўляецца актуальным (пар. http://w2.vatican.va/content/john-paul-ii/it/homilies/1982/documents/hf_jp-ii_hom_19820513_fatima.html).

Папа Бэнэдыкт XVI кажа: глыбока памыляецца той, хто думае, што прароцкая місія Фацімы завяршылася, бо Бог у сваёй міласэрнай любові адорвае свой народ новай будучыняй. Таму чалавеку патрэбна супрацоўніцтва з Богам, які ёсць Валадаром часу (пар. http://w2.vatican.va/content/benedict-xvi/it/homilies/2010/documents/hf_ben-xvi_ hom_20100513_fatima.html).

Такім чынам, Фацімскае пасланне мела і надалей мае вялікі ўплыў на гісторыю свету і Касцёла. Яно паказвае, што галоўным дырыжорам чалавечых лёсаў з'яўляецца Божы Провід, а Фацімскі шлях застаецца праграмаю маральнага аднаўлення чалавецтва, бо ў яго цэнтры знаходзіцца Марыя са сваім *fiat*. Гэта праграма актуальная для ўсяго свету, у тым ліку і для Беларусі.

Наша Бацькаўшчына, Беларусь, Марыйная зямля, якая перажыла шмат выпрабаванняў, цяпер цешыцца новымі магчымасцямі для ажыццяўлення фундаментальнага права чалавека на свабоду веравызнання. Гэта дар Божай міласэрнасці для нас і адначасова заданне быць вернымі нашаму хрысціянскаму пакліканню і сведчыць пра яго ў штодзённым жыцці.

Для гэтага найперш неабходна жыць згодна з Фацімскім пасланнем Марыі, каб захаваць мір, узаемную пашану паміж людзьмі розных поглядаў і пазбегнуць маральнай дэградацыі. Жывучы так, мы будзем утвараць Беларусь не ўчарашняга, а заўтрашняга дня, пабудаванага на вечна жывых і актуальных прынцыпах Евангелля, бо ў Хрысце мінула старое і прыйшло новае (пар. 2 Кар 5, 17).

Выкарыстаная літаратура:
1. Другі Ватыканскі Сабор. Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце «Gaudium et spes» (GS).
2. Другі Ватыканскі Сабор. Дагматычная канстытуцыя пра Божае Аб'яўленне «*Dei Verbum*» (DV).
3. Катехизис Католической Церкви (ККЦ).
4. Il Messaggio di Fatima, Tipografia Vaticana 2000 (MF).
5. http://w2.vatican.va/content/john-paul-ii/it/homilies/1982/documents/hf_jp-ii_hom_19820513_fatima.html.
6. http://w2.vatican.va/content/benedict-xvi/it/homilies/2010/documents/hf_ben-xvi_hom_20100513_fatima.html.
7. http://zbc.uz.zgora.pl/Content/31902/tom_24.pdf.
8. http://www.niedziela.pl/artykul/26766/Fatima-%E2%80%93-naglace-oredzie.





Цяпер, калі мы адзначаем 100-годдзе Фацімскіх аб’яўленняў, варта прыгадаць асобу папы Бэнэдыкта XV, які кіраваў Касцёлам з 3 верасня 1914 года да 22 студзеня 1922 года. На час яго Пантыфікату прыпала адна з самых крывавых войнаў — Першая сусветная. Бэнэдыкт XV, уражаны гэтым крывавым канфліктам, называў яго «самазабойствам Еўропы» і заклікаў шукаць ратунку ў Маці Божай. 5 мая 1917 года Папа дадаў у Ларэтанскую літанію заклік: «Каралева супакою, маліся за нас». Ён заахвочваў таксама маліцца навэнну на ўшанаванне Маці Божай, Каралевы супакою. У дакуменце, выдадзеным з гэтай нагоды, Пантыфік прасіў Найсвяцейшую Панну Марыю, каб Яна пачула плач дзяцей, крык маці і жонак і дапамагла закончыць страшную вайну. Адказ быў дадзены праз восем дзён у Фаціме. Папу Бэнэдыкта XV называюць «Папам Фацімы».

*Рэд.*

Анджэй Граеўскі

# ПАПА, ЯКІ ХАЦЕЎ СПЫНІЦЬ ВАЙНУ

*Вядома, што папа Бэнэдыкт XV адыграў важную ролю падчас Першай сусветнай вайны. Святы Айцец распрацаваў рэальны план яе заканчэння, арганізаваў гуманітарную дапамогу для палонных і мірных жыхароў, а таксама спрабаваў прадухіліць знішчэнне армянаў. Гэта адна з найважнейшых, але трагічна адзінокіх і недаацэненых постацяў таго часу.*

Ватыкан, 31 жніўня 1914 года. Кардыналы збіраюцца, каб выбраць наступніка Пія X, які памёр, думаючы пра тое, што не здолеў прадухіліць катастрофы. У складанай міжнароднай сітуацыі найлепшым кандыдатам на чарговага наступніка св. Пятра быў чалавек, які меў дыпламатычны вопыт. Такім аказаўся кардынал Джакома дэлла К’еза. Ён паходзіў з арыстакратычнай сям’і, працаваў у Дзяржаўным сакратарыяце. Калі 3 верасня 1914 года над Сікстынскай капэлай узнімаўся белы дым, што абвяшчаў Касцёлу і свету пра выбар новага Папы, які прыняў імя Бэнэдыкта XV, Еўропа ўжо палала ў агні. Ужо было вядома, што гэта будзе не «маланкавая вайна» і жаўнеры да зімы не вернуцца дадому.

**Масонская апазіцыя**

Невысокага росту Папа, якога называлі «малышом», лічыў вяртанне спакою найважнейшаю мэтаю свайго Пантыфікату. Аднак становішча Бэнэдыкта XV ускладняла не толькі вайна. З 1870 г., калі войскі Каралеўства Італіі занялі папскі Рым, статус папства не быў урэгуляваны. Італьянская дзяржава давала Папу толькі аднабаковыя гарантыі, але не прызнавала Ватыкан як незалежную і суверэнную дзяржаву. Бэнэдыкт XV расцэньваў гэта як «ненармальнае становішча», якое шкодзіла галаве Касцёла і было крыніцаю дыскрымінацыі католікаў у свеце. На практыцы Ватыкан у сваіх знешніх пачынаннях залежаў ад рашэнняў італьянскай дзяржавы. У выніку сфера публічных дзеянняў Апостальскай Сталіцы кантралявалася італьянскімі

**Анджэй Граеўскі** — польскі палітолаг, каталіцкі журналіст. Нарадзіўся ў 1953 г. у Бельска-Бялай. Скончыў факультэт сацыяльных навук Сілезскага ўніверсітэта, у 2001 г. атрымаў ступень доктара палітычных навук. З 1998 г. з’яўляецца намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Gość Niedzielny». Аўтар кніг «Расія і крыж. З гісторыі Праваслаўнай Царквы ў СССР» (1989), «Папа павінен быў загінуць. Тлумачэнні Алі Агджы» (у суаўтарстве, 2011) і інш.



ўладамі, якія, напрыклад, цэнзуравалі ватыканскую сувязь і часопісы, што распаўсюджваліся ў Італіі. Для Папы асабліва важным было захаванне нейтралітэту Італіі, якая ў жніўні 1914 года яшчэ не ўступіла ў вайну. Фармальна яна была саюзніцаю Аўстра-Венгрыі і Германіі (Траісты саюз), але мела тэрытарыяльныя канфлікты з Венаю. Яна дамагалася вяртання Трэнта, Трыеста і Далмацыі, што павінна было завяршыць аб'яднанне італьянскіх земляў пад кіраўніцтвам Савойскай дынастыі. Для італьянскай палітыкі вялікае значэнне меў таксама факт заўважнага ўплыву масонства на палітычную, фінансавую і інтэлектуальную эліту Італіі. Палітыкі ў Рыме баяліся, што актыўнасць Апостальскай Сталіцы на міжнароднай арэне змусіць распачаць перамовы пра статус Ватыкана. Антыкаталіцкія фобіі былі такія моцныя, што падчас перамоваў пра ўдзел у вайне на баку Антанты (Англія, Францыя, Расія) італьянскі ўрад запатрабаваў гарантыю таго, што Апостальская Сталіца і прадстаўнікі Папы не будуць дапушчаныя да Парыжскай мірнай канферэнцыі. Адпаведны запіс быў зроблены ў падпісаным у красавіку 1915 года Лонданскім пакце, што радыкальна звужала магчымасці папскай дыпламатыі. Калі восенню 1917 года «Альпійскі» фронт за 4 дні «распароўся» пад Капарэтта, як стары мех, і ў палон трапіла больш за чвэрць мільёна жаўнераў, італьянскі друк спрабаваў узваліць адказнасць за паражэнне на Бэнэдыкта XV. У прэсе сцвярджалася, што папскія мірныя пачынанні дэмаралізавалі жаўнераў, якія масава ўцякалі або здаваліся ў палон. У кастрычніку 1917 года па ініцыятыве італьянскіх масонаў на плошчы святога Пятра адбыўся вялікі сход. Нягледзячы на вайну, на яго прыехалі масоны з усёй Еўропы, каб пад сцягамі Люцыфера выступіць супраць Бэнэдыкта XV.

**Мірныя пачынанні**

Ужо на пачатку Пантыфікату, 8 верасня 1914 года, Бэнэдыкт XV у апостальскім лісце *Ubi primum* заклікаў спыніць вайну і неадкладна скласці зброю. Ён перасцерагаў, што працяг вайны стане катастрофаю для ўсіх. У той час у Еўропе яшчэ панавала эйфарыя. Натоўпы добраахвотнікаў ішлі на фронт, штабісты разлічвалі на хуткі поспех, а палітыкі — на заваяванні і ўмацаванне ўласнага ўплыву. Бэнэдыкт XV бачыў у вайне больш, чым толькі палітычны канфлікт. У энцыкліцы *Ad beatissimi Apostolorum*, апублікаванай 1 лістапада 1914 года, ён звярнуў увагу на тое, што вайна з'яўляецца вынікам паступовай варварызацыі культуры і дамінавання ў мысленні дарвінаўскай канцэпцыі: мацнейшым дазваляецца больш, бо такая чалавечая прырода. Папа ўсведамляў сябе як пастыр усіх народаў, без нацыянальнай дыферэнцыяцыі, і спрабаваў на аснове галоўных хрысціянскіх прынцыпаў угаварыць палітыкаў спыніць вайну. Ён заклікаў да спынення баёў, асабліва ў час святаў Божага Нараджэння. Аднак, за выключэннем некалькіх выпадкаў, калі жаўнеры абодвух бакоў выходзілі з акопаў, яго заклік не прынёс вынікаў. Гэтак жа недаацэненым застаўся яго заклік да святочнага перамір'я ў 1917 годзе. Ён увесь час заахвочваў вернікаў да нястомнай малітвы аб заканчэнні вайны. У 1917 годзе ён дадаў да Ларэтанскай літаніі заклік: «Каралева супакою, маліся за нас».

**Дапамога найслабейшым**

У такой сітуацыі Папу заставалася толькі арганізоўваць гуманітарную дапамогу. Гэтым занялася «Справа палонных», якая ўзнікла па ініцыятыве Святога Айца. Ён пасрэднічаў у дастаўцы тысячаў лістоў і харчовых перадачаў для палонных і галадаючага насельніцтва. З удзелам духавенства тых краінаў, якія былі ахопленыя вайною, ствараліся спісы палонных і

загінуўшых, што давала мностcounterпаў сем'яў шанцы атрымаць звесткі пра сваіх блізкіх. Важнаю часткаю гуманітарных акцый Бэнэдыкта XV былі спробы ыратавання армянаў, якіх з 1915 г. масава забівалі ў Асманскай імперыі (асабліва ў Анатоліі). Вырашальную ролю ў гэтай выратавальнай акцыі адыграў апостальскі дэлегат Луіджы Дольчы. На аснове яго рапартаў у верасні 1915 г. Папа скіраваў султану Мехмеду V ліст, у якім прасіў яго не выкарыстоўваць у адносінах да армянаў прынцып калектыўнай адказнасці і захаваць жыццё нявіннаму насельніцтву. Аднак і ў гэтай справе ён не атрымаў належнай міжнароднай падтрымкі.



Саркафаг папы Бэнэдыкта XV у Ватыканскай базыліцы.

**Навошта ён умешваецца?**

Шанцы на поспех мірных ініцыятываў Папы павялічыліся, калі ў канцы снежня 1916 г. у Вене пачаў правіць Карл І Габсбург, апошні прадстаўнік гэтай дынастыі на імператарскім троне. Ён быў не толькі зацятым праціўнікам вайны, але распачаў таксама канфідэнцыяльныя перамовы з Берлінам, каб схіліць Германію да завяршэння вайны. Усе бакі былі ўжо знясіленыя вялізнымі стратамі. Усё цяжэйшаю станавілася сітуацыя ў тылах. Мірнае насельніцтва цярпела голад, і настроі станавіліся ўсё больш рэвалюцыйнымі. Бэнэдыкт XV усведамляў, што Еўропа з кожным чарговым месяцам вайны ўсё больш становіцца парахавою бочкаю, напоўненаю сацыяльнымі, эканамічнымі і палітычнымі праблемамі, бочкаю, пад якую дастаткова падкласці агонь рэвалюцыйнай агітацыі, каб яна выбухнула, знішчаючы ўвесь сацыяльны парадак. Таму 1 жніўня 1917 г. ён апублікаваў «Мірнае пасланне», суаўтарам якога быў арцыбіскуп Эўджэніо Пачэллі, тады яшчэ Апостальскі нунцый у Мюнхене. Папскі план завяршэння вайны прадугледжваў адступленне Германіі з занятых тэрыторый Францыі, вяртанне поўнага суверэнітэту Бельгіі і вяртанне нямецкіх калоній, занятых Англіяй. Усе бакі павінны былі адмовіцца ад рэпарацый і ўстанавіць міжнародны арбітраж для вырашэння спрэчных тэрытарыяльных пытанняў. На шляху перамоваў павінны былі вырашыцца спрэчкі, якія датычыліся, напрыклад, прыналежнасці Эльзаса і Латарынгіі або італьянска-аўстрыйскага памежжа. У дакуменце таксама вялася размова пра дзяржаўныя інтарэсы палякаў. Гэта быў першы агульны і глыбока прадуманы мірны план, які з некаторымі зменамі быў выкарыстаны Прэзідэнтам ЗША Томасам Вільсанам у студзені 1918 г. і выкладзены ў 14-ці пунктах. Калі б ініцыятыва Папы была прынятая, гісторыя свету набыла б зусім іншы кірунак. Аднак летам 1917 г. кіраўнікі дзяржаваў спадзяваліся, што сілаю зброі здолеюць вырашыць лёс вайны на сваю карысць. Ініцыятыву Святога Айца ігнаравалі ўсе ваюючыя бакі. Прэзідэнт Вільсан хоць і быў ёю натхнёны, але не падтрымаў Бэнэдыкта XV. На пасланне ён адказаў пытаннем: «Навошта ён умешваецца?»

Бэнэдыкт XV быў трагічнаю постаццю. З пачатку свайго Пантыфікату ён выразна бачыў усе жахлівыя пагрозы, перад якімі на парозе вялікай вайны стаяла хрысціянская цывілізацыя. Ён перасцерагаў, спрабаваў ініцыяваць мірныя перамовы, дапамагаў ахвярам вайны. Бэнэдыкт XV памёр у 1922 г. з перакананнем, што Версальская мірная дамова, якой завяршылася Першая сусветная вайна, заснаваная на прынцыпах, якія адрозніваліся ад яго прапановаў, не вытрывае выпрабавання часам. На жаль, і ў гэтым выпадку ён не памыліўся.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле www.gosc.pl*

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША, КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ПЕРШАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ПАЧУЦЦЯЎ

**У якой гаворыцца, што такое «*цёмная ноч*» і чаму неабходна прайсці праз яе, каб дасягнуць злучэння з Богам. У прыватнасці, гаворка будзе ісці пра «*цёмную ноч пачуццяў*» і жаданняў, пра шкоду, якую яны могуць нанесці душы.**

### РАЗДЗЕЛ 13
**У якім апавядаецца, што трэба рабіць, каб увайсці ў «*ноч пачуццяў*».**

1. Нам засталося толькі растлумачыць некаторыя правілы, якія душа павінна ведаць, каб увайсці ў «*ноч пачуццяў*». Пра яе зараз і пойдзе гаворка, але спачатку трэба адзначыць, што душа можа ўвайсці ў «*ноч пачуццяў*» дваякім чынам: дзейным і бяздзейным. Дзейны — калі душа павінна зрабіць нешта сама, каб увайсці ў «*ноч*»; пра гэта будзе апавядацца далей. Бяздзейны — калі душа нічога не робіць, а сам Бог пачынае дзейнічаць у ёй, і душа нібыта церпіць; пра гэта мы пагаворым у чацвёртай кнізе. У ёй я дам парады пачаткоўцам, а таксама, з Божаю дапамогаю, папярэджу іх пра шматлікія недасканаласці, якія падсцерагаюць іх на гэтым шляху. І таму я не буду засяроджвацца і доўга спыняцца на іх, бо тут не месца, а лепей мы звернемся да прычынаў таго, чаму гэты пераход называецца «*ноччу*», у чым яе сутнасць і на колькі частак яе можна падзяліць.

Мне падаецца, што навучанне будзе трохі ўрыўкавым і не зусім карысным, калі не прапанаваць некаторыя правілы і парады, як практыкаваць «*ноч жаданняў*». Гэтыя правілы і парады я вельмі коратка выкладу ў наступных раздзелах. Маю намер зрабіць тое ж самае, калі Бог дапаможа мне, і ў наступных дзвюх частках кнігі, дзе гаворка будзе ісці аб прычынах гэтай «*ночы*».

2. Парадаў, як перамагчы жаданні, нямнога, і яны даволі схематычныя. Але, на маю думку, яны вельмі карысныя і вартыя ўвагі менавіта таму, што яны кароткія, і тым, хто будзе здзяйсняць іх на практыцы, не патрэбна нічога іншага, бо ў іх усё сказана.

3. Па-першае, душа павінна мець сталае прагненне стацца падобнаю да Хрыста ва ўсім, зрабіць сваё жыццё падобным да Ягонага, і для гэтага трэба пастаянна разважаць над Ягоным жыццём, каб ведаць, у чым Яго наследаваць і як дзейнічаць падобна Яму ва ўсім (пар. Ян 13, 15).

4. Па-другое, каб рабіць гэта добра, неабходна, каб душа адмовілася ад усялякага пачуццёвага задавальнення, апроч таго, што вядзе да праслаўлення і хвалы Бога. Яна павінна спустошыцца дзеля любові да Езуса Хрыста, які ў гэтым жыцці не прагнуў ніякага іншага задавальнення, апроч выканання волі Божай, што было для Яго пасілкам (пар. Ян 4, 34). Прывяду прыклады. Калі для вас з'яўляецца задавальненнем слухаць рэчы, якія не маюць нічога агульнага са служэннем Богу і Яго праслаўленнем, адмоўцеся ад гэтых рэчаў. Калі вы любіце разглядваць рэчы, якія не дапамагаюць вам больш палюбіць Пана, не разглядвайце іх. Тое ж самае вы павінны рабіць з нагодаю пагутарыць і з усім іншым, што паўстае перад вамі, не важна, значнае яно ці не. Трэба пазбягаць усяго, свядома

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

ўхіліўшыся ад гэтых рэчаў; калі ж нельга пазбегнуць гэтых рэчаў, дык дастаткова адмовіцца ад іх смакавання. Такім чынам, душа павінна клапаціцца аб умярцвенні, каб вызваліць ад усіх гэтых задавальненняў пачуцці і каб яны засталіся нібы ў цемры. І тады душа за вельмі кароткі час пасунецца наперад на шляху да цноты.

5. Каб умярцвяць і супакойваць чатыры прыродныя пачуццёвыя цягі — задавальненне, спадзяванні, страх і боль, з заспакаення якіх паходзіць столькі дабра, існуе эфектыўны сродак, крыніца ўсіх заслугаў, з якой вынікаюць вялікія цноты, пра што далей:

6. Няхай душа намагаецца заўсёды аддаваць перавагу

- не таму, што больш простае, але таму, што больш складанае;
- не таму, што больш смачнае, але таму, што больш прэснае;
- не таму, што больш падабаецца, але таму, што больш не падабаецца;
- не таму, каб адпачываць, але таму, каб больш працаваць;
- не таму, што суцешыць, але таму, у чым найменш суцяшэння;
- не таму, чаго больш, але таму, чаго найменш;
- не высокаму і ўшанаванаму, але прыніжанаму і пагарджанаму;
- не каб прагнуць нечага, але каб нічога не прагнуць;
- не пошуку найлепшага ў прамінальных рэчах, але бачанню найгоршага ў іх.

Трэба прагнуць увайсці ў «*ноч*» ва ўсёй агаленасці, спустошанасці і ўбогасці гэтага свету дзеля любові да Хрыста.

7. Неабходна, каб душа ўсім сэрцам прыняла гэтыя правілы і зрабіла высілак, каб выхоўваць імі ўласную волю. Бо калі яна ўсім сэрцам будзе намагацца следаваць ім, яна вельмі хутка знойдзе ў іх вялікі спакой і вялікае суцяшэнне і будзе працаваць незаўважна і ўпарадкавана.

8. Калі добра выконваць усе гэтыя парады, гэтага будзе дастаткова, каб душа ўвайшла ў *«ноч пачуццяў»*. Але, каб мяне лепей зразумелі, неабходна дадаць яшчэ некаторыя правілы, якія дапамагаюць умярцвяць пажадлівасць цела, пажадлівасць вачэй і чалавечую пыху, бо яны, паводле святога Яна, пануюць у свеце (пар. 1 Ян 2, 16), і з іх паходзяць усе іншыя жаданні.

9. Па-першае, неабходна навучыцца пагарджаць самім сабою і жадаць, каб іншыя таксама гэта рабілі, што дапаможа супрацьстаяць пажадлівасці цела.

Па-другое, неабходна гаварыць пра сябе з пагардаю і жадаць, каб іншыя гэта рабілі, што дапаможа супрацьстаяць пажадлівасці вачэй.

Па-трэцяе, неабходна ў пагардзе да сябе думаць пра сябе нізка і жадаць, каб іншыя таксама гэта рабілі, што дапаможа супрацьстаяць пыхлівасці.

10. Напрыканцы гэтых парадаў і правілаў будзе слушна згадаць радкі верша, у якіх апісваецца ўзыход на гару Кармэль — асноўны вобраз гэтай кнігі, якая вучыць, як узысці на вяршыню, гэта значыць — на вышыню злучэння з Богам. І нават калі ў кнізе больш гаворыцца пра духоўнае і ўнутранае, у ёй таксама звяртаецца ўвага на недасканалы дух з пункту гледжання пачуццёвага і знешняга. Вобраз гэтага — дзве сцежкі, якія ідуць паралельна з аднаго і другога богу дарогі да дасканаласці. І таму радкі верша могуць мець двайное значэнне. Мы разумеем іх тут з пункту гледжання пачуццёвага, а пасля, у другой частцы «*ночы*», мы будзем разумець іх з пункту гледжання духоўнага.

11. У іх гаворыцца:

Каб знайсці смак ва ўсім,
Трэба не шукаць смаку ні ў чым.

Каб мець усё,
Трэба не жадаць нічога.

Каб быць усім,
Трэба быць нікім.

Каб ведаць усё,
Трэба ні ў чым не шукаць ведаў.

Каб дасягнуць таго, што цяпер не падабаецца,
Трэба прайсці праз тое, што не падабаецца.

Каб дасягнуць таго, чаго цяпер не ведаеш,
Трэба прайсці праз тое, чаго не ведаеш.

Каб дасягнуць таго, чаго цяпер не маеш,
Трэба прайсці там, дзе нічога не маеш.

Каб дасягнуць таго, чым ты не ёсць,
Трэба прайсці там, дзе цябе няма.

12. Як трэба сябе паводзіць, каб не будаваць перашкодаў на шляху да Бога:

Калі спыняешся на нечым,
Ужо не імкнешся да ўсяго.

Каб дасягнуць цалкам усяго,
Мусіш цалкам адмовіцца ад усяго.

І калі дойдзеш да валодання ўсім,
Мусіш валодаць ім, не жадаючы нічога.

Таму што, калі хочаш мець нешта ва ўсім,
Згубіш адзіны скарб у Богу.

13. У гэтай аголенасці духоўная душа знойдзе спачын і супакой, бо яна ўжо нічога не прагне, нішто яе не абцяжарвае і не цягне да долу пры ўзыходзе на гару, бо яна знаходзіцца ў самым цэнтры сваёй пакорлівасці, дзе ўсялякае прагненне нечага — цяжар.

## РАЗДЗЕЛ 14
**У якім тлумачыцца другі радок верша:**
***«З тугою, каханнем узрушаная».***

1. Мы ўжо растлумачылі першы радок верша, дзе гаворыцца пра *«цёмную ноч пачуццяў»*. Мы высветлілі, чаму гэта «*ноч*» менавіта пачуццяў, чаму мы яе называем «*ноччу*» і што павінна рабіць душа, каб дзейным чынам увайсці ў гэтую «*ноч*». Цяпер нам засталося толькі прааналізаваць асаблівасці гэтай «*ночы*» і надзвычайныя вынікі, якія яна здзяйсняе ў душы. Усе гэтыя дэталі выказаны ў радках верша, які прыведзены на пачатку кнігі. Выконваючы маё абяцанне, дадзенае ва ўводзінах, я працытую і коратка растлумачу гэтыя радкі, каб перайсці да другой кнігі, дзе гаворка будзе ісці пра другую частку *«ночы» — «ноч духу»*.

2. У вершы душа гаворыць, што яна, *з тугою, каханнем распаленая*, прайшла праз *цёмную ноч пачуццяў,* выйшла з яе і злучылася з Каханым. Бо каб перамагчы ўсе жаданні і пазбавіцца ўпадабання рэчаў, прывязанасць да якіх звычайна ўзрушвае і задавальняе волю, неабходна, каб яна пачала прагнуць наймацнейшай і найлепшай любові — любові Сужэнца, бо, засяроджваючы на Ім сваё ўпадабанне і ўсю сваю сілу, душа з непахіснаю смеласцю і з лёгкасцю адмовіцца ад усяго іншага. Але, каб гэта здарылася, трэба не толькі перамагчы моц пачуццёвых жаданняў, каб палюбіць свайго Сужэнца, але неабходна, каб душа ўзрушылася і распалілася любоўю да Яго. І гэта адбываецца менавіта так, бо пачуццёвасць, заклапочаная жаданнямі, рушыць услед за прыцягальнасцю пачуццёвых рэчаў. Пакуль духоўная частка не пачне прагнуць найвышэйшых рэчаў — гэта значыць духоўных, яна ніколі не зможа перамагчы прыроднага цяжару і не зможа ўвайсці ў *«ноч пачуццяў»*, у яе нават не хопіць смеласці застацца ў цемры без усіх гэтых рэчаў, вызваліўшыся ад жадання іх.

3. Але тут немагчыма спыняцца на тым, колькі і якія прагненні любові мае душа на пачатку свайго шляху да паяднання з Богам. І таксама вельмі цяжка пералічыць усе намаганні і спосабы, якія яна выкарыстоўвае, каб выйсці са свайго месцазнаходжання, гэта значыць са сваёй волі, падчас «*ночы*» ўмярцвення пачуццяў. І таксама вельмі цяжка растлумачыць, як прагненне Сужэнца робіць больш лёгкімі і больш прыцягальнымі ўсе цяжкасці і небяспеку «*ночы*». Усё гэта станецца больш зразумелым толькі дзякуючы медытацыі і праз чынны досвед, а не праз апісанне і гутаркі. Цяпер жа я перайду да тлумачэння наступнага радка верша.

## РАЗДЗЕЛ 15
**У якім тлумачацца іншыя радкі верша:**
***«О мой шчаслівы лёс!***
***я выйшла, незаўважаная,***
***калі ўжо спачываў мой дом».***

1. Душа, выкарыстоўваючы метафару, параўноўвае сябе з убогім вязнем, які лічыць свой *лёс шчаслівым*, бо ён здолеў вызваліцца з палону і ніводны з яго стражнікаў не змог перашкодзіць яму ў гэтым. Душа пасля прыроднага граху сапраўды падобная да вязня, які знаходзіцца ў вязніцы смяротнага цела. Яна падпарадкаваная сваім жарсцям і прыродным жаданням. Таму яна лічыць шчаслівым свой лёс, бо яна можа незаўважна для іх вызваліцца ад гэтага цяжару і з іх аблогі, прычым гэтак, што ніхто і нішто не зможа ёй перашкодзіць і затрымаць яе.

2. І менавіта дзеля гэтага душа павінна ўвайсці ў *«цёмную ноч»*, якая палягае на вызваленні ад усіх упадабанняў і на ўмярцвенні ўсіх жаданняў ужо адзначаным намі спосабам. І гэта магчыма, бо «ўвесь дом ужо заснуў», гэта значыць уся пачуццёвая частка душы, дом усіх гэтых жаданняў ужо заснуў, бо паснулі ўсе ўтаймаваныя пачуцці. І пакуль усе гэтыя жаданні не заснуць у выніку ўмярцвення ў пачуццёвасці, пакуль сама пачуццёвасць не будзе вызваленая ад жаданняў такім чынам, каб яна ўжо не магла больш супрацівіцца духу, датуль душа не зможа ўзляцець да сапраўднай свабоды і цешыцца паяднаннем са сваім Каханым.

*Канец першай кнігі.*

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

Марына Пашук



Андрэа Вакара. «Рагуэль благаслаўляе сваю дачку Сару перад яе выправаю ў Экбатан з Тобіем». Нацыянальны музей мастацтваў Каталоніі.

# «ДАРОГА ЖЫЦЦЯ».

## *Па старонках Кнігі Тобія*

Кніга Тобія расказвае пра ізраэльскую сям'ю з пакалення Нэфталія, якая была дэпартаваная ў асірыйскую няволю. Галава гэтай сям'і — Табіт[1]— прадстаўлены ў Кнізе як той, хто мае немалыя багацці, бо ў Рагэс у свайго прыяцеля Габаэля ў Мідыі ён пакінуў на захаванне 10 талантаў серабра (1,14; 4,1). Аднак матэрыяльныя багацці не былі для яго абсалютнай каштоўнасцю. Ён быў чалавекам справядлівым і пабожным, памятаў пра Бога ўсёй сваёй душою (1,12) і трымаўся наказаў любові[2]: рабіў дабро для сваіх братоў у няволі, даваў хлеб галодным і вопратку нагім (1,17), хаваў пакінутыя целы забітых землякоў (1,17; 2,4). Але яго дабрачыннасць і рызыка выклікалі незразуменне, насмешкі і здзіўленне сярод іншых выгнаннікаў: «*Гэты чалавек усё яшчэ не баіцца? Бо ўжо шукалі яго, каб забіць за гэта, а ён уцёк і вось зноў хавае мёртвых*» (2,8). На пачатку Кнігі ён сам кажа пра сваю справядлівасць і праведнасць: «*Я, Табіт, хадзіў шляхамі праўды і справядлівасці ва ўсе дні жыцця свайго, даваў вялікую міласціну сваім братам і суайчыннікам, якія пайшлі разам са мною на выгнанне ў Ніневу, у асірыйскі край*» (1,3). Сапраўды, ён быў чалавекам не толькі пабожным, але і адважным: не баяўся ні гневу караля Асірыі, ні здзекаў і папрокаў з боку сваіх родных, калі быў яшчэ ў Ізраэлі, бо з усяго роду толькі ён хадзіў на святы ў Ерузалемскую святыню (1,6). Усё, што рабіў, рабіў згодна са сваім сумленнем і паводле веры. Калі аслеп і страціў сваю маёмасць, згубіў таксама ўпэўненасць у будучыні. Пра тое, што гэта выпрабаванне, Табіт даведваецца значна пазней: «*Паколькі ты не марудзіў, але падняўся і, пакінуўшы сваю гасціну, пайшоў пахаваць мёртвага, я быў пасланы выпрабаваць цябе*» (12,13). Сваю гісторыю Табіт таксама апісвае, так бы мовіць, *ex post*, пасля таго, што ўжо сталася (12,20). Таму ацэньвае сваю справядлівасць з вялікай скрухаю, бо сама па сабе яна не мае ніякай вартасці, калі не злучаная з Богам, калі не напоўненая Яго прысутнасцю і пакораю перад Ім. Ніводзін святы не сказаў пра сябе, што не мае граху. Аднак, каб гэта зразумець, Табіту патрэбны быў час, патрэбны быў Божы дотык, нават самы балючы. Амаль два гады ён плакаў над сабою і скардзіўся на свой лёс, няспынна разважаў пра няшчасце, якое яго напаткала. Ён занурыўся ў сум, уздыхаў і плакаў: «*Глыбока засмучаны, я са стагнаннем заплакаў і, уздыхаючы, пачаў маліцца*» (3,1). Плач над сабою перашкаджае яму ўбачыць старанні сваёй жонкі, што прыводзіць да канфлікту з ёю (2,14). І толькі пасля гарачай малітвы, поўнай пакоры, ён вызнае, што справядлівым з'яўляецца толькі Бог, а ён — грэшнае стварэнне (3,2-3). З гэтага моманту Табіт становіцца чалавекам пакоры і веры, поўнай надзеі[3]. Бог выходзіць яму

**Марына Пашук** – доктар біблійнай тэалогіі, супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993), Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998) і Універсітэт кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (2016).

насустрач і пасылае да яго свайго анёла (3,16-17) — так у дзеянні Кнігі з'яўляецца Бог. Табіт ужо перастае быць у цэнтры ўвагі, перастае думаць пра сябе, а пачынае цвяроза ацэньваць сітуацыю і з надзеяй глядзець у будучыню. Ён успамінае пра грошы, якія пакінуў у Мідыі, успамінае пра сына і жонку, перастае любавацца сваёй справядлівасцю. Адбываецца ў нейкай ступені навяртанне Табіта. Яго імя — Табіт — пачынае гучаць цяпер без адцення іроніі, таму што Бог не толькі праяўляе да яго сваю дабрыню, але сапраўды становіцца яго адзіным дабром[4]. Пасылаючы свайго сына Тобія ў далёкае падарожжа ў Мідыю, каб забраць пакінутыя ў Габаэля грошы, Табіт дае яму маральныя настаўленні, якія становяцца не столькі зборам нарматыўных або павучальных тэкстаў, колькі «дарогаю жыцця». Сваім вельмі канкрэтным настаўленням Табіт дае практычнае і рэлігійнае абгрунтаванне. Гэта свайго роду запавет старога Табіта, які тлумачыць сыну, што такое сапраўдная справядлівасць (1,3). Менавіта ў фрагменце 4, 1-21, а таксама ў фрагменце 14,3-10, заключаны тэалагічны змест кнігі: роля Божага Провіду, які кіруе лёсам ізраэльцянаў, верных Закону; вялікая роля ўчынкаў міласэрнасці, а таксама — ідэал гарманічнага, шчаслівага сямейнага жыцця[5]. Бацька кажа пра шанаванне маці (4,3-4), пра боязь Божую і пабожнасць (4,5-6), пра дабрачыннасць і міласціну (4,7-11), пра чыстасць, цнатлівасць і пакору ў адносінах да сваіх блізкіх (4,12-13), пра справядлівасць і праўдзівасць, спагаду і шчодрасць (4,14-17), пра сціпласць, развагу і падпарадкаванне Божай волі (4,18-19). Змест гэтых настаўленняў сведчыць пра духоўную сталасць і пабожнасць бацькі, а таксама паказвае падабенства гэтых настаўленняў з іншымі біблійнымі тэкстамі.

Фрагмент 4, 3-19 можна падзяліць на дзве часткі: 3b-14a і 14b-19. Першая частка падкрэслівае важнасць учынкаў міласэрнасці, бо ў гэтым заключаецца справядлівасць і праўда. Другая частка змяшчае больш практычныя настаўленні. Тое, што настаўленні дае бацька, сведчыць аб перакананні, што менавіта сям'я стаіць на чале маральнага выхавання, а сам Табіт становіцца прыкладам для наследавання, юдэйскім «святым», які жыве ў дыяспары[6]. У настаўленнях бацькі змешчаны сціслы пераказ штодзённых паводзінаў адносна Бога і людзей, а таксама пералічаны грахі, якіх трэба пазбягаць.

**Шанаванне маці** (4,3-4)

Табіт размаўляе з Тобіем як бацька з сынам, з пазіцый маральнага і рэлігійнага аўтарытэту, як дасведчаны чалавек. У першых словах настаўлення Табіт развівае тэму 4-й запаведзі Дэкалогу (Зых 20,12; Дрг 5,16). У адносінах з бліжнімі найбольшай пашаны заслугоўваюць самыя блізкія сваякі (4,3), таму ў першую чаргу бацька заахвочвае сына шанаваць сямейныя повязі. Пасля смерці бацькі сын павінен учыніць для яго прыгожае пахаванне, але асаблівай апекаю і пашанаю сын павінен атуліць маці. Гэты наказ сведчыць пра высакароднасць бацькі, які, нягледзячы на шматлікія непаразуменні з жонкаю (2,14; 5,18-20; 10,7), загадвае сыну шанаваць яе і памятаць пра яе не толькі пры яе жыцці ($G^{II}$)[7], але нават пасля яе смерці ($G^{I}$). Ёй бацька таксама просіць учыніць годнае пахаванне[8]. Прычынаю шанавання маці з'яўляюцца яе пакуты пры нараджэнні адзінага сына. Такое абгрунтаванне вельмі падобнае да тэксту з Кнігі Сіраха: «*Не забывай пра тую, якая нарадзіла цябе ў пакутах*» (7,27).

Тэма шанавання бацькоў вельмі блізкая для сапенцыяльнай традыцыі. Адмысловым каментарам да 4-й запаведзі Дэкалогу з'яўляецца паэма пра шанаванне бацькоў з Кнігі Сіраха (3,1-16), дзе знявага маці ставіцца на роўні з абразай Бога (3,16), а «*міласэрнасць да айца не будзе забыта*» (3,14). Падобнае павучэнне знаходзіцца таксама ў Кнізе Прыпавесцяў (23,22): «*Слухай айца, які даў табе жыццё, і не пагарджай маці нават у яе старасці*». Жаданне Табіта быць пахаваным разам з жонкаю ўказвае на канкрэтную традыцыю патрыярхаў габрэйскага народу: Абрагам спачывае побач з Сараю, Ісаак — побач з Рэбэкаю, а Якуб — са сваімі продкамі (Быц 25,10; 49,29.31). Гэта пацвярджае біблійнае разуменне сужэнскага саюзу як непарушнага нават пасля смерці. Аднак перш за ўсё тэкст 4,3-4 характарызуе манагамічны сужэнскі саюз Табіта і Ганны з маральнага боку: гэты саюз, нягледзячы на непаразуменні (2,14), з'яўляецца трывалым і моцным, бо заключаны ў межах свайго роду, што падкрэслівае сам Табіт: «*Я ўзяў сабе за жонку Ганну, з нашага бацькоўскага роду*» (1,9). Магчыма, у жаданні мужа быць пахаваным разам з жонкаю, ёсць таксама нейкія далёкія прадчуванні ўваскрашэння, а менавіта жаданне, каб Табіт і Ганна разам спазналі гэтую рэчаіснасць і пры ўваскрашэнні былі разам.

**Пра боязь Божую і пабожнасць** (4, 5-6)

Сутнасць пабожнасці, паводле Старога Запавету, заключаецца ў боязі Божай і ў захаванні Божых запаведзяў: «*Бойся Пана Бога твайго, захоўвай усе пастановы Яго і запаведзі*» (Дрг 6,2); «*Бойся Бога і захоўвай Яго запаведзі*» (Экл 12,13). Пастаянная памяць пра Бога захоўвае чалавека ад граху. У вуснах пабожнага Табіта настаўленне гучыць цалкам натуральна. Яго словы пацверджаныя жыццём і служаць Тобію прыкладам для наследавання. Сын распачынае новы самастойны этап у сваім жыцці, выходзіць з дому ў далёкае жыццёвае падарожжа духоўнага сталення. Цяпер ён будзе далёка ад бацькоў і іх пільнага вока. Цяпер ён сам павінен навучыцца рабіць свой выбар, памятаючы толькі, як кажа св. Павел, што ўсё можна, але не ўсё прыносіць карысць (пар. 1 Кар 10,23). Даючы настаўленні сыну, бацька не кажа пра незвычайныя рэчы, не кажа пра вялікую

аскезу і гераічныя ўчынкі, якія павінен здзейсніць сын. Ён кажа пра ўмовы звычайнага поспеху, пра бяспечнае жыццё. Кажа яшчэ маладому і духоўна няспеламу сыну, што выглядае вельмі кантрасна з развітальнаю моваю Табіта напрыканцы Кнігі (14,3-10), дзе бацька ўжо размаўляе з сынам як з братам, сувызнаўцам. Цяпер самае галоўнае, каб сын разам з псальмістам мог сказаць: «*Пана я маю заўсёды перад вачыма*» (Пс 16, 8). Пастаянная памяць пра Бога звязана са справядлівасцю, увасобленай ва ўчынках міласэрнасці і ў верным спаўненні Закону, а служэнне праўдзе заключаецца ў выкананні Божых запаведзяў. Табіт хоча сказаць сыну пра актыўную веру, якая пацвярджаецца праведнымі ўчынкамі, што мае вялікае значэнне на шляху выбаўлення. Свае настаўленні ён абгрунтоўвае простым сцвярджэннем, згодна з якім жылі людзі часоў Старога Запавету: праведнаму несумненна пашанцуе! Правільныя паводзіны вынікаюць з Божых запаведзяў і служаць на карысць людзям, таму варта ісці шляхам праўды, справядлівасці і міласэрнасці. Хоць у кантэксце гісторыі Табіта гэта гучыць як іронія, бо Табіт за сваё дабро пакуль што не атрымаў ніякай карысці, а нават несправядліва церпіць. Аднак у кантэксце ўсёй кнігі праблема цярпення справядлівага чалавека была вырашана: гэта часовае выпрабаванне, спасланае Богам (12,13). За вытрываласць у цярпенні Бог дае яшчэ большую ўзнагароду, яшчэ большы поспех. Правільныя паводзіны заўсёды прыносяць чалавеку карысць і будуць узнагароджаныя Богам, бо Ён — крыніца сапраўднага шчасця і сапраўднага поспеху. Гэтая простая тэорыя рэтрыбуцыі (адплаты) пазней будзе перагледжаная ў Кнізе Ёва[9].

**Пра дабрачыннасць і міласціну** (4, 7-11)

Настаўленне пра дабрачыннасць і міласціну, змешчанае ў Кнізе Тобія (4, 7-11) — гэта і прыгожая паэма, і вялікі кодэкс. Яго тэкст унікальны, бо ва ўсім Святым Пісанні толькі Кніга Тобія адказвае на простае пытанне: навошта даваць міласціну і ў чым яна заключаецца?

*З чаго даваць міласціну?* Паводле Табіта, міласціну трэба даваць з уласнай маёмасці, з таго, што мае сам чалавек: ἐκ τῶν ὑπαρχόντων σοι (4,7), а не коштам іншых. У даванні міласціны не можа быць шкадавання, сумніўнасці, скнарлівасці, жалю. Міласціну трэба даваць з радасцю ў сэрцы, для Бога, бо, як кажа св. Павел, парафразуючы Кнігу Прыпавесцяў паводле Сэптуагінты (22,8), таго, хто дае з радасцю, любіць Бог (пар. 2 Кар 9,7). Каб даваць міласціну, трэба мець адпаведна настроенае сэрца, падрыхтаванае да радасці і ўдзячнасці.

*Каму трэба даваць міласціну?* На гэтае пытанне таксама ёсць адказ: «*Ніколі не адварочвайся ад беднага*» (4,7), хоць на пачатку верша і ў фрагменце 2,2 гаворыцца пра міласціну выключна для людзей, якія паступаюць справядліва. Пра гэта нагадвае таксама настаўленне з Кнігі Сіраха: «*Давай пабожнаму, не перажывай за грэшніка*» (12,4), і яшчэ: «*Калі хочаш рабіць дабро, зважай на тое, каму яго будзеш рабіць*» (12,1). У вучэнні Дванаццаці Апосталаў гэтая парада Сіраха гучыць яшчэ інакш: «*Няхай спацее міласціна ў тваіх руках, перш чым даведаешся, каму даеш*» (Дзідахэ, 1.6)[10]. Аднак у Табіта ўжо адчуваецца разуменне бліжняга ў катэгорыях Новага Запавету: тваім бліжнім ёсць той, хто побач з табою, г. зн. — кожны: «*Таму, хто просіць у цябе, давай і не адварочвайся ад таго, хто хоча пазычыць у цябе*» (Мц 5, 42), таму што Бог — у кожным чалавеку.

*Хто можа даваць міласціну?* Адказ бацькі вельмі просты: кожны, незалежна ад сваёй маёмасці, можа даваць міласціну, паводле сваіх магчымасцяў. Няма абмежаванняў. Міласціну можна даваць заўсёды і ў рознай форме (4,8). Практыкаванне міласціны вучыць даверу да Бога, таму што Ён не адверне ад цябе свайго аблічча і не пакіне цябе (4,7), бо «*хто мае літасць да беднага, той нібы пазычае Пану*» (Прып 19,17). Бацька кажа аб узнагародзе за такія ўчынкі. Ён кажа пра гэта яшчэ маладому Тобію, які толькі цяпер уваходзіць у дарослае жыццё, распачынае працэс духоўнага сталення. Абяцаны скарб — гэта «*вялікія даброты на дзень патрэбы*» (4,9). Безумоўна, тут не маюцца на ўвазе матэрыяльныя даброты ці звычайная ўдзячнасць людзей. Гэтым скарбам з'яўляюцца духоўныя даброты: знак Божага благаслаўлення (Сір 29,12)[11]. Ім можа быць і шматлікае патомства, і добрыя сваякі, сябры і звычайны поспех.

*Чым ёсць міласціна?* Міласціна — гэта ў першую чаргу вялікае дабро для таго, хто яе дае. Яна вызваляе ад смерці, але не ад фізічнай, бо кожны, нават самы справядлівы чалавек, памрэ. Маецца на ўвазе вызваленне ад духоўнай смерці, ад «*другой смерці*» (Ап 20,4), ад нячуласці сумлення. Як пісаў А. П. Чэхаў у апавяданні «Агрэст»: «*За дзвярыма кожнага прыстойнага чалавека павінен стаяць чалавек са званочкам і пастаянна званіць, нагадваючы, што там, за дзвярыма, ёсць людзі, якія маюць цяжкасці, якім патрэбна падтрымка і дапамога*». Міласціна «*не дазваляе ўвайсці ў цемру*». Гэта габраізм, толькі ў грэцкім гучанні. Напэўна, тут маецца на ўвазе сыходжанне ў шэол, валадарства памерлых, а значыць міласціна ратуе ад вечнай згубы. Яна з'яўляецца перадусім рэлігійным чынам, а не філантропіяй. Да адказу на пытанне «чым ёсць міласціна?» далучаецца таксама арханёл Рафал (12, 9), дадаючы, што яна ачышчае ад кожнага граху. Пра гэта чытаем у Сіраха: «*Вада гасіць палаючы агонь, а міласціна знішчае грахі*» (3,30), і яшчэ: «*Дабрачыннасць — гэта як рай, багаты на ўсё*» (40,17). Дабрачыннасць і міласціна — гэта дар для кожнага (4,11), незалежна ад яго здольнасцяў, умення, прафесіі ці грамадскага статусу. Гэта дар Бога для ўсіх. Але, як кожны дар, яго можна прыняць або адкінуць. Прыняць

або адкінуць магчымасць, якую дае Бог. Бацька заахвочвае сына прыняць гэты дар з удзячнасцю, таму ў папярэднім вершы звяртаецца да аргументацыі, а ў 11-м называе ўмовы рэалізацыі гэтага дару: не для людской пахвалы, не для ўласнага задавальнення і пацвярджэння сваёй справядлівасці, але з глыбіні душы, выключна для Бога, каб наследаваць Яго ў Ягонай міласэрнасці[12].

Міласціна і дабрачыннасць кантраставалі з рэлігійнасцю жыхароў Асірыі, і таму былі вельмі важнымі ў навучанні Табіта, які не жадаў іх згубіць. Гэтыя два паняцці становяцца галоўнай тэмай яго маральнага настаўлення[13]. У развітальнай мове бацькі на заканчэнне Кнігі міласціна акрэсліваецца грэцкім словам φιλελεήμων (14,9), якое азначае не столькі чын, колькі паставу міласэрнага чалавека, заўсёды гатовага праявіць міласэрнасць да іншых справядлівых (1,16; 2,8). Міласціна, як праяўленне справядлівасці, з'яўляецца сведчаннем любові да бліжняга. Яна — крыніца Божага благаслаўлення, якая дапамагае захоўваць у супольнасці правільныя адносіны (Тоб 4,7; Сір 7,32). Шчодрасць да патрабуючых тлумачыцца Табітам як вялікая цнота, якую заўсёды трэба практыкаваць паводле сваіх магчымасцяў, а ўзнагародаю за дабрачыннасць стане Божая міласэрнасць[14]. Бог будзе настолькі міласэрны, наколькі чалавек быў міласэрным да іншых (Прып 19,17; Пс 40,2; Сір 3,31; 29,12).

**Пра чыстасць, цнатлівасць і пакору ў адносінах да сваіх землякоў** (4,12-13)

Кіруючы свае настаўленні да сына, Табіт асцерагае яго ад граху, асабліва ад распусты. Захаванне чыстасці — гэта ўмова для заключэння добрага, цнатлівага сужэнства. Акрамя гэтага, ён хоча, каб сын, згодна з тагачасным габрэйскім звычаем, пабраўся з жанчынаю са свайго роду, бо з гэтым таксама звязана чыстасць. Звяртаючыся да Ноя, Абрагама, Ісаака і Якуба, ён заахвочвае Тобія наследаваць патрыярхаў, якіх называе пракрокамі. Непрыманне сужэнства з язычніцаю становіцца не столькі парадаю і перасцярогаю ў вуснах Табіта, колькі загадам захоўваць габрэйскую тоеснасць нават у дыяспары. На жонцы, будучай маці, ляжыць абавязак рэлігійнага выхавання дзяцей. У падлеткавым узросце яны знаходзяцца дома, у той палове, якая прызначана для жанчын, а значыць іх выхаванне і пераказ сямейных традыцый цалкам залежыць ад маці. Таму будучая жонка павінна паходзіць не толькі са свайго народу, не толькі са свайго пакалення, з таго самага роду, а нават быць блізкай роднай. Гэта ўмова для благаслаўлення і наследавання зямлі (4,12)[15]. Табіт кажа пра гэта вельмі асцярожна, бо габрэі вельмі часта заключалі сужэнствы з жанчынамі з іншых плямёнаў. Бацька жадае стрымаць ад гэтага Тобія, і гэта яму ўдаецца з Божаю дапамогаю. Тобій жэніцца са сваёю цёткаю (паводле Ватыканскага і Александрыйскага кодэксаў: τῷ ἀνεψιῷ μου 'сын брата майго' (7,2))[16], дзякуючы чаму іх сужэнства атрымлівае благаслаўленне за захаванне Божых запаведзяў, а таксама за паслухмянасць бацьку. Сужэнства Тобія і Сары, а таксама самога Табіта і Ганны, падкрэслівае чыстасць племені Нэфталія і роду Табіядаў як сыноў пракрокаў-патрыярхаў, якія дбалі пра завахаванне чыстасці свайго роду (Быц 24, 3).

Пакора становіцца тэмаю наступнага верша. Аўтар кнігі ставіць гэтае павучанне нароўні з агульным прынцыпам: не будзь абыякавым да свайго пакалення — «*не ўзвышайся над сынамі і дочкамі свайго народу*» (4,13), — але прызнавай сябе адным з іх. А выбіранне жонкі сярод тамтэйшых зямлячак павінна стаць сведчаннем любові да іх і пакоры перад імі. Таму бацька асцерагае сына ад пыхі, бо яна вядзе да згубы, а таксама асцерагае ад лайдацтва, бяздзейнасці і непатрэбных справаў, якія вядуць да голаду і галечы. Гэтае настаўленне сугучнае са словамі Кнігі Прыпавесцяў: «*Лайдацтва вядзе да сну, а голад церпіць нядбалая душа*» (19,15).

**Аб справядлівасці і сумленнасці, дабрыні і шчодрасці** (4,14-17)

Любоў у першую чаргу патрабуе справядлівага стаўлення да працуючых. У асірыйскай няволі бедныя габрэі заraблялі на сваё жыццё, наймаючыся на працу. Выкарыстанне працоўных было частай практыкай у старажытнасці, аднак гэта супярэчыла Закону Майсея: «*Няхай плата працаўніка не застаецца ў цябе аж да раніцы*» (Лев 19,13). Бацька ставіцца да гэтага наказу Закону вельмі рыгарыстычна: не толькі да заўтрашняй раніцы нельга затрымліваць плату, але нават на хвіліну. Справядлівая ўзнагарода за працу павінна быць тут жа выплачаная, больш за тое, з удзячнасцю Богу, што дае магчымасць здзейсніць гэтую справядлівасць. Захаванне Закону звязана са служэннем Богу, які ўзнагароджвае справядлівага чалавека ў сем разоў (Сір 35,10). Далей Табіт кіруе да сына агульнае настаўленне, заключанае ў кароткіх выказваннях пра разважлівыя і правільныя паводзіны. Добрае выхаванне, паводле Табіта, — гэта не знешняя прыстойнасць, тактоўнасць і ветлівасць, але жыццёвая пастава адносна Бога. Пазбяганне п'янства з'яўляецца таксама сведчаннем добрага выхавання, якое робіць лёгкім сумеснае жыццё (4,15b). Забарона п'янства — гэта агульная тэма з навучаннем мудрацоў: «*Не ўглядайся ў віно*», бо яно атручвае жыццё ядам, як гадзюка (пар. Прып 23,31-32). Аднак самай славутай сентэнцыяй у навучанні Табіта стала г. зв. *Сярэбранае правіла*: «*Што сам ненавідзіш, не рабі нікому*» (4,15a). Яно найбольш папулярнае і найбольш цытаванае ў сучасным хрысціянстве[17]. Адмоўная форма гэтага правіла ў Евангеллі была заменена станоўчаю: «*Усё, што хочаце, каб рабілі вам людзі, і вы ім рабіце, бо ў гэтым Закон і Прарокі*» (Мц 7,12; Лк 6,31). Сярэбранае правіла часта

паўтаралі рабіны. Талмуд нават прыпісвае гэты маральны прынцып Хілелю ў кантэксце гісторыі пра язычніка, які хацеў вывучыць усю Тору за вельмі кароткі час: пакуль чалавек можа ўстаяць на адной назе. На гэта Хілель адказаў: «Тое, што не прыемна табе, не рабі іншаму. Гэта — уся Тора. Усё іншае — гэта яе тлумачэнне. Ідзі і вучыся»[18]. Ёсць іншыя біблійныя фармуліроўкі гэтага прынцыпу або падобныя да яго: «*Не шукай помсты і не злуйся на сыноў народу свайго. Любі бліжняга свайго, як самога сябе*» (Лев 19,18) і г. д.

У фрагменце Тоб 4,16 у чарговы раз амаль у тых самых словах змешчаны наказ даваць міласціну патрабуючым не толькі хлебам, але таксама і адзеннем. Верш 17 кажа пра дабрачыннасць адносна памерлых. Тут не маецца на ўвазе прынясенне ахвяраў памерлым, што супярэчыць біблійнаму вучэнню (Дрг 26, 14) — гаворка ідзе пра хлеб жалобы і келіх суцяшэння для тых, хто аплаквае смерць сваіх блізкіх. Табіт хоча, каб сын не ўдзельнічаў у язычніцкіх звычаях і ўстрымаўся ад усялякіх зносінаў з тымі, хто не захоўвае Закону Майсея, і вучыць, каб ён умеў дапамагаць сям'і таго памерлага, які вызначаўся справядлівасцю. Гэта быў распаўсюджаны звычай сярод біблійных габрэяў: раздаваць міласціну бедным за памерлых і ўзносіць за іх малітвы і ахвяры перапрашэння[19].

**Пра сціпласць, развагу і падпарадкаванне Божай волі** (4, 18-19)

Парада мудрага чалавека — гэта вялікі скарб, таму трэба карыстацца ёю. Але не кожны з'яўляецца мудрым, і сын павінен пра гэта памятаць. Мудрага чалавека Табіт акрэслівае прыметнікам φρόνιμος, г. зн. той, хто ведае і трымаецца Закону Майсея (Прып 19,20; Сір 37,16). Аднак сапраўднай мудрасці не мае ні адзін чалавек і ні адзін народ — ἔθνος, а па-над усялякаю людскою мудрасцю стаіць Бог. Таму Тобій у малітве павінен праслаўляць Бога і прасіць Яго кіраваць сваім жыццём і сваім выбарам. Малітва Тобія павінна быць перадусім малітваю праслаўлення Бога за тое, што Ён паспяхова завяршае справядлівыя жаданні і намеры чалавека. Зноў узнагароджваю за паслухмянасць Богу становіцца жыццёвы поспех[20], толькі з тою розніцаю, што гэты поспех цалкам залежыць ад Бога, і яго трэба выпрасіць у Яго і маліцца аб ім у кожную хвіліну. Дабро дае сам Бог. Ён паводле сваёй волі кіруе лёсам чалавека. Наказы бацькі сын павінен захоўваць у сваім сэрцы, запісаць іх у сваім розуме, учыніць іх сваім перакананнем і жыццёваю пазіцыяй, бо кожную свабоду чалавека Бог выпрабоўвае як хоча (4,19).

Кніга Табіта паказвае духоўнае сталенне чалавека: бацькі і перадусім яго сына, што выпраўляецца ў дарогу юнаком, якому патрэбны бацькоўскія настаўленні і апека, а вяртаецца як сталы і адказны чалавек. Сведчаннем гэтага сталення становіцца адказ Табіта Рагуэлю, які запрашае яго даўжэй пагасціць у яго: «*О не! Дазволь мне адысці адсюль да майго айца*» (10,9). Усе постаці, уведзеныя ў гэтую гісторыка-дыдактычную навэлу, заслугоўваюць пахвалы. Як і ў Кнізе Рут, тут няма адмоўных герояў і вобразаў, і нават сабака выконвае сваю станоўчую ролю.

Увесь род Табіядаў выступае ў Кнізе як справядлівы род, які нават на выгнанні захоўвае рэлігійныя каштоўнасці сыноў Ізраэля. Праз добрыя прыклады пабожнага жыцця сям'і Табіта і Тобія аўтар Кнігі хоча заахвоціць габрэяў, якія знаходзяцца ў няволі, і ўвогуле ўсіх габрэяў дыяспары, пакланяцца праўдзіваму Богу, вучыцца зносіць цярпенні і весці цнатлівае жыццё. Аднак змест Кнігі можа быць прыдатным для кожнага. Паводле айцоў Касцёла, гэтая Кніга выхоўвае пабожнасць і цнатлівасць, дае павучальныя прыклады нязломнай веры ў Бога, любові да бліжняга і клопату пра самых бедных. Зыходзячы з тэксту павучэння бацькі, змешчаным у Тоб 4,3-19, св. Амброзій з Мілана казаў, што такія цноты павінен мець кожны хрысціянін[21].

---

1 Паводле тэксту Сэптуагінты. У тэксце Вульгаты бацька і сын маюць аднолькавыя імёны – Тобій. Некаторыя пераклады згодна з лацінскай версіяй называюць гэтую кнігу Біблii Кнігаю Тобія, іншыя трымаюцца грэцкай версіі і называюць яе Кнігаю Табіта.

2 Пар. P. Kasiłowski, *Jałmużna w Biblii* [w:] *W trosce o ubogich. Wokół* Reguł rozdawania jałmużn *św. Ignacego Loyoli*. – Kraków, 2011, s. 15; А. Мень, *Исагогика. Курс по изучению Священного Писания. Ветхий Завет*. – Москва, 2000, с. 488-489; K. Bardski, *Księga Tobiasza w interpretacji chrześcijańskiej*, «Collectanea Theologica», 79 (2009), nr 4, s. 47.

3 Пар. I. Nowell, *Księga Tobiasza* [w:] *Międzynarodowy komentarz do Pisma Świętego. Komentarz katolicki i ekumeniczny na XXI wiek*, red. nauk. William R. Farmer. – Warszawa, 2001, s. 590.

4 На габрэйскай і арамейскай мове імя айца Тобій (*ṭôbî*) было напэўна скаротам ад *ṭôbîjâ(hû)* («добры ёсць Ягвэ»). Пар. *Słownik wiedzy biblijnej*, red. nauk. Bruce M. Metzger, Michael D. Coogan. – Warszawa, 1997, s. 393.

5 Пар. *Encyklopedia biblijna*, red. nauk. Paul J. Achtemeier. – Warszawa, 2004, s. 1279; K. Bardski, *Księga Tobiasza..*, s. 434; *Введение в Ветхий Завет*, под ред. Э. Ценгера. – Москва, 2008, с. 380; I. Nowell, *Księga Tobiasza..*, s. 590.

6 Пар. M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita. Wstęp, przekład z oryginału, komentarz* [w:] *Nowy komentarz biblijny. Stary Testament*, t. XII. – Częstochowa, 2005, s. 82; *Słownik wiedzy biblijnej..*, s. 393; P. Kasiłowski, *Jałmużna w Biblii..*, s. 15.

7 Захаваліся дзве версіі грэцкага тэксту Кнігі Табіта, якія адпаведна пазначаюцца $G^{I}$ і $G^{II}$.

8 Пар. S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału, komentarz* [w:] *Pismo Święte Starego Testamentu*, t. VI, część I. – Poznań, 1963, s. 89.

9 Пар. *Międzynarodowy komentarz do Pisma Świętego*, red. nauk. William R. Farmer. – Warszawa, 2001, s. 588; K. Bardski, *Księga Tobiasza..*, s. 434; P. Kasiłowski, *Jałmużna w Biblii..*, s. 15; M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita..*, s. 83. 471; S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 89.

10 Пар. *Учение Двенадцати Апостолов*, «Символ», 1993, №29, с. 276 і каментарый, с. 290.

11 Пар. S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 90; *Słownik teologii biblijnej*, red. nacz. X. Leon-Dufour. – Poznań, 1990, s. 332.

12 Пар. *Encyklopedia biblijna..*, s. 1279; S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 90; *Słownik teologii biblijnej..*, s. 332; *Введение в Ветхий Завет..*, с. 380.

13 Пар. W. Linke, *Literacka ojczyzna Tobiasza. Tło kulturowe Tb jako klucz teologicznej lektury księgi.* – Warszawa, 2013, s. 433; P. Kasiłowski, *Jałmużna w Biblii..*, s. 15.

14 Пар. I. Nowell, *Księga Tobiasza..*, s. 592; W. Linke, *Literacka ojczyzna Tobiasza..*, s. 434; P. Kasiłowski, *Jałmużna w Biblii..*, s. 17; *Encyklopedia biblijna..*, s. 446; M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita..*, s. 37, 38.

15 Пар. S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 90-91; M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita..*, s. 84-85; *Encyklopedia biblijna..*, s. 1279.

16 Пар. *Septuaginta*, ed. A. Rahlfs. – Stuttgart, 1979, s. 1020.

17 Пар. K. Bardski, *Księga Tobiasza..*, s. 47; M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita..*, s. 38.

18 Пар. M. Rosik, «*Co byście chcieli, aby ludzie wam czynili, i wy im czyńcie*». *O «złotej zasadzie» raz jeszcze* [online] http://www.rosik.archidiecezja.wroc.pl/cms/images/stories/food/Zota_zasada.pdf. [доступ: 06.02.2016].

19 Пар. *Słownik wiedzy biblijnej..*, s. 393; S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 92;

20 Пар. S. Grzybek, *Księga Tobiasza. Wstęp, przekład z oryginału..*, s. 91, 93; M. Wojciechowski, *Księga Tobiasza czyli Tobita..*, s. 86.

21 Пар. K. Bardski, *Księga Tobiasza..*, s. 48; I. Nowell, *Księga Tobiasza..*, s. 589; W. Linke, *Literacka ojczyzna Tobiasza..*, 433.

Андрэй Вашкевіч

# У іх быў свой шлях да незалежнасці

## Каталіцкія святары і Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)

Гэтая размова адбылася ў Галоўнай управе Таварыства беларускай школы, што мясцілася на вуліцы Віленскай, 12 у Вільні. Было гэта недзе ў 1925 годзе. У запале чарговай дыскусіі ксёндз Адам Станкевіч кінуў Браніславу Тарашкевічу ў твар: «Забяруць яны ў цябе Беларусь, Бронюсь! Забяруць». «Беларусі нікому не аддамо, ойча Адаме», — адгукнуўся тады Тарашкевіч.

Гэтую гісторыю я пачуў ад Арсеня Ліса. Яму яе яшчэ ў далёкія 1960-я пераказала сведка, Надзея Шнаркевіч, якая шмат гадоў працавала ў Галоўнай управе ТБШ.

На той час Адам Станкевіч і Браніслаў Тарашкевіч ведалі адзін аднаго ўжо многа гадоў са сходак у кватэры Браніслава Эпімаха-Шыпілы, дзе збіраліся студэнты беларусы розных навучальных установаў Санкт-Пецярбурга. У 1918–1919 гг. ім разам даводзілася ўдзельнічаць у многіх палітычных справах, самай важнай з якіх сталі выбары ў Сейм і Сенат Польскай рэспублікі ўвосень 1922 года. Беларусы, пра якіх мала хто ведаў нават як пра этнаграфічную групу, занялі лавы нацыянальных меншасцяў у Сейме, утварыўшы Беларускі пасольскі клуб, старшынём і першым намеснікам старшыні якога сталі Б. Тарашкевіч і А. Станкевіч.

Безумоўна, добрымі былі і асабістыя стасункі гэтых людзей. Увесну 1923 г. ойча Адам вянчаў Браніслава Тарашкевіча з яго маладою жонкаю Вераю Сніткаю, пасля хрысціў іх сына Славіка.

Праз некалькі гадоў, пачынаючы ад лета 1925 г., аб былым адзінстве можна было толькі ўспамінаць. Тарашкевіч узначальваў Пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады, партыі, якая сваім лавінападобным ростам нараджала ў заходнебеларускіх сялянаў амаль містычнае адчуванне хуткага надыходу зямнога раю, акурат такога, які, як здавалася многім, будуецца ў БССР. Гэтак у той час у Заходняй Беларусі думалі многія замучаныя беспрацоўем, нацыянальным прыгнётам і падаткамі беларускія сяляне, яўрэйскія рабочыя, вучні нешматлікіх гімназій, інтэлігенты. Тых, якія думалі інакш, было намнога меней. Яны таксама былі ўражаныя паведамленнямі аб росце беларускага кнігавыдавецтва ў БССР, з цікавасцю слухалі перадачы з савецкага Менска, таксама цягалі ў гміну пачкі дэкларацый на адкрыццё беларускіх школаў і былі бітыя за гэта «w mordę» камендантамі пастарункаў паліцыі. Але гэтыя другія адчувалі, што рашучым «Ад веку мы спалі і нас разбудзілі...», аднамаментным рыўком у бясхмарнае «заўтра» барацьба за Беларусь не скончыцца. Яны не верылі ў шчырасць і бескарыслівасць савецкага ўраду і абвешчанай ім палітыкі «беларусізацыі», хаця ніхто тады не мог прадказаць крывавай расправы 1930-х гг. Яны нават спадзяваліся, што менавіта ў ідэі БНР, у ідэі поўнай дзяржаўнай незалежнасці, будучыня іх краіны. За гэта іх высмейвалі і ганілі першыя, а другія называлі іх «летуценнікамі», а нярэдка і «здраднікамі», якія, не хочучы стаць на грунт беларускай савецкай дзяржаўнасці, льюць ваду на млын ворага.

Сімвалам першых стала Беларуская сялянска-работніцкая грамада, сімвалам другіх — Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД). Гісторыя міжваеннай партыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі заслугоўвае большай увагі грамадства ўжо толькі па той прычыне, што БХД была ці не адзінаю за ўсю гісторыю Беларусі класічнай палітычнай партыяй, якая, абараняючы прынцып незалежнасці Беларусі, мела даволі значны ўплыў на насельніцтва і праіснавала больш як дваццаць гадоў.

Аднак БХД была толькі вярхушкаю, складоваю часткаю больш шырокага руху, скіраванага на пошук «узаемнасці» паміж Каталіцкім Касцёлам і беларускім народам. З беларускіх святароў і

---

**Андрэй Вашкевіч** — гісторык. Нарадзіўся ў Гродне. Закончыў гістарычны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (2004). З 2012 г. узначальвае аддзел найноўшай гісторыі УК ГДГАМ. Даследуе этнаканфесійную гісторыю беларуска-літоўска-польскага памежжа, гісторыю беларускага нацыянальна-вызваленчага руху 1920-1930-х гг., дзейнасць партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя ў 1920-1930-я гг. Займаецца гісторыяй архітэктуры Гродна. Адзін з заснавальнікаў і шматгадовы рэдактар сайта *harodnia.com*. Лаўрэат прэміі імя Юзафа Ядкоўскага (2015).

свецкіх дзеячаў трэба назваць імёны наступных актывістаў і ідэолагаў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, бо без нават павярхоўнага адлюстравання іх дзейнасці немагчыма паказаць у поўнай меры гістарычнае значэнне БХД: Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Уладзіслаў Талочка, Казімір Стэповіч, Люцыян Хвецька, Баляслаў Пачопка, Язэп Германовіч, Янка Татарыновіч, Станіслаў Глякоўскі, Адольф Клімовіч, Адам Бычкоўскі, Янка Пазняк, Янка Шутовіч, Дамінік Аніська, Станіслаў Грынкевіч і многія іншыя.


Кіраўнікі БХД. У першым радзе — ксяндзы А. Станкевіч, Я. Германовіч, В. Гадлеўскі, у другім радзе — ксяндзы Леваш, С. Глякоўскі.

Натхнёныя канцэпцыяй сацыяльнага хрысціянства, сфармуляванай у другой палове XIX ст. каталіцкім біскупам Майнца Вільгельмам Кетлерам, а таксама энцыклікамі Папы Рымскага Льва XIII «*Rerum Novarum*» і «*Graves de communi*», заахвочаныя падтрымкаю такіх каталіцкіх іерархаў, як Юрый Матулевіч і Эдвард фон Роп, маладыя каталіцкія святары кінуліся ў вір культурнай працы і палітычнай барацьбы.

Яны абралі сваім лозунгам прыгожыя словы: «Міласць Бацькаўшчыны — найлепшы праяў міласці бліжняга». Беларускія каталіцкія святары, апрача прапаганды ідэі сацыяльнага хрысціянства, прынеслі ў беларускае палітычнае жыццё высокі ўзровень маральнасці. Мне і маім сябрам даводзілася чытаць шмат дакументаў польскай паліцыі і савецкіх спецслужбаў, дзе даваліся характарыстыкі розным дзеячам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. І паверце, шаноўныя чытачы, нідзе больш не даводзілася чытаць такіх бясспрэчных з пункту гледжання беларускага патрыятызму і асабістай сумленнасці «атэстацый», як у біяграфіях нашых каталіцкіх святароў. Вось, напрыклад, што пісала паліцыя пра ксяндза Адама Станкевіча: «Дзельны, энэргічны, свядомы ваяўнік, з адукацыяй Духоўнай Акадэміі ў Пецярбурзе, вядомы як дзеяч, што адпольшчвае каталіцкі касцёл на Беларусі». У другой характарыстыцы гаварылася, што кс. Станкевіч даўно «нацыянальна і дзяржаўна вызначыўся і вельмі здольны... Стаіць на пазіцыі незалежнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах». Падобныя цытаты характарызуюць, бадай, кожнага нашага ксяндза.

Афіцыйнаю датаю заснавання партыі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі лічыцца 24–26 мая 1917 г., калі ў мінскім катэдральным касцёле адбыўся з'езд прыкладна 30-ці прыхільных да беларускага руху ксяндзоў. Арганізатарамі з'езду былі Л. Хвецька, А. Астрамовіч, Ф. Будзька, А. Цікота і Ф. Абрантовіч — ранейшыя заснавальнікі і ўдзельнікі беларускіх гурткоў у духоўных навучальных установах Вільні і Санкт-Пецярбурга. З'езд фармальна завяршыў стварэнне арганізацыі беларусаў католікаў, якая атрымала назву Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (БХДЗ). У палітычным плане ксяндзы беларусы абмежаваліся рэзалюцыяй аб імкненні да шырокай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай рэспублікі і прынялі шэраг рашэнняў аб неабходнасці ўвядзення беларускай мовы ў касцёльнае набажэнства, навучанні клерыкаў і заснаванні партыйнай газеты.

У Мінску ў пачатку 1920 г. была надрукавана кніжка «Устава і праграма Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці Беларусаў», на старонках якой была змешчана першая праграма беларускіх хадэкаў. У праграме гаварылася аб неабходнасці стварэння рабочага заканадаўства, заснавання прафсаюзаў рабочых, годнай узнагародзе за працу, пенсіях, адпачынках па хваробе і цяжарнасці. Вельмі шмат увагі надавалася рэлігійным справам, пашырэнню ўплываў Каталіцкага Касцёла на грамадскае жыццё, школу, войска і г.д. Для вырашэння зямельнага пытання прызнавалася неабходным падзяліць паміж беззямельнымі сялянамі дзяржаўныя землі, падымаць аграрную культуру вяскоўцаў, абмяжоўваць прыватную ўласнасць, абклаўшы яе вялікімі падаткамі (аб ліквідацыі буйных памешчыцкіх і царкоўных латыфундыяў не гаварылася).

Пасля ўваходу Мінска ў склад Савецкай Беларусі галоўным асяродкам дзейнасці БХДЗ стала Вільня, дзе з восені 1919 г. А. Станкевіч



„KRYNICA“

Bielaruskaja chryscijanskaja demakr. hazeta. Prymajecca padpiska na 1921 h. (IV hod wydannia). Na hod — 150 mk., na pauhoda — 75 mk., na 3 miesiacy — 50 mk. Adpes: Wilna, Sw.-Janskaja wul. 27, kw. 3.

Аб'ява газеты «Kryniсa» на 1921 год
у газеце «Народное дѣло», № 41 (164), 22.02.1921.

выдаваў газету «Крыніца». Усведамляючы неабходнасць работы сярод шырокіх масаў сялянства, беларускія ксяндзы, асабліва з маладзейшага пакалення, пачалі прыстасоўваць хрысціянска-дэмакратычную ідэалогію да мясцовых патрэбаў. А. Станкевіч выдзяляў наступныя задачы ў дзейнасці беларускіх хадэкаў: 1. неабходнасць працаваць выключна сярод сялянскай масы беларусаў у той час, калі заходнееўрапейская хадэцыя існавала як ідэалогія пралетарыяту; 2. неабходнасць пашыраць свае ўплывы на праваслаўнае насельніцтва, што стварала вялікія цяжкасці для каталіцкай партыі; 3. актуалізаваць беларускія нацыянальныя справы.

Для большасці беларускіх ксяндзоў менавіта барацьба за незалежнасць Беларусі і стала найважнейшаю пры выбары жыццёвага шляху. Прывядзем словы аднаго беларускага ксяндза (на жаль, імя і прозвішча нам невядомыя), якія прагучалі ў студзені 1918 г. падчас беларускай канферэнцыі ў Вільні: «Не падлягае пытанню, што ад той пары, як жыве чалавецтва, найвялікшай павагай карысталася асоба маці, нянькі, апекуна, настаўніка. Натуральнай прычынай гэтага шанавання былі адносіны гэтых людзей да жыцця, да дзіцяці, якое расце і развіваецца пад іх апекай, здабывае навуку і культуру сэрца дзякуючы іх працы і так робіцца даспелым чалавекам і добрым сынам свайго народа. З другога боку, мы ўсе ведаем, што няма, бадай, на свеце большага граху і страшнейшай крыўды, чым каінава злачынства, забойства і задушэнне жыцця, гвалт мацнейшага над слабейшым. З гэтага параўнання ўжо відаць, дзе павіннае быць месца каталіцкага каплана: ці побач з тымі, што з мацярынскай клапатлівасцю даглядаюць жыццё народа, ці разам з тымі, хто жадае яму як народу хуткай смерці, знішчэння. Тым лягчэйшым быў для мяне тут выбар, што паходжаннем я звязаны з беларускім народам. Такім чынам, сёння, калі будуць вырашацца лёсы беларускага народа, маё месца з ім, з народам, пакінутым і забытым да гэтага часу ўсімі. Падтрымаць сёння яго справу — гэта для мяне лагічны абавязак, а не нейкая справа густу, часовай сімпатыі ці пачуцця. Я зусім не пытаюся сябе, ці гэта палітычна-нацыянальная праца мне падабаецца, ці лёгкай, ці цяжкай яна акажацца, ці будзе карыснай асабіста для мяне, урэшце, ці дачакаюся, часу, каб пабачыць яе плады...»

24 кастрычніка 1926 года ў Вільні адбылося святкаванне 10-годдзя выдання газеты «Крыніца», якое фактычна было ўстаноўчым з'ездам партыі. Вынікам з'езду стала перайменаванне партыі — цяпер яна называлася партыяй Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У самым першым пункце новай партыі абвяшчалася імкненне БХД да незалежнасці беларускага народа, гаварылася, што партыя ідзе да сваіх мэтаў эвалюцыйным шляхам, найперш праз развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Далей у праграме пералічваліся ўмовы, неабходныя для стварэння незалежнай дэмакратычнай краіны: пашырэнне паўнамоцтваў самакіраванняў, дэмакратызацыя суду, нацыянальная сістэма адукацыі, сацыяльнае заканадаўства і г.д.

Асноваю развіцця гарамадства БХД прызнавала прыватную ўласнасць, аднак выступала за яе абмежаванне і дэкларавала неабходнасць пераходу буйной уласнасці ў калектыўнае карыстанне. У зямельным пытанні праграма БХД была даволі радыкальнаю. Усе буйныя зямельныя ўладанні без выкупу меркавалася перадаць беларускаму сялянству ў межах працоўнай нормы, г.зн. у такой колькасці, якую сям'я магла апрацаваць сваімі сіламі пры дапамозе не больш чым аднаго наёмнага работніка. Усе прыродныя багацці абвяшчаліся ўласнасцю мясцовых самакіраванняў. БХД падтрымлівала стварэнне хутароў, аднак не адмаўляла і стварэння вялікіх калектыўных гаспадарак.

Адно з найважнейшых месцаў у ідэалогіі БХД займалі рэлігійныя справы. Хадэкі звярталі асаблівую ўвагу на два пытанні: неабходнасць беларусізацыі Касцёла і Царквы; адраджэнне на беларускіх землях уніяцтва. Неабходнасць увядзення беларускай мовы ў рэлігійнае жыццё прызнавалася заўсёды, але да адраджэння грэка-каталіцтва хадэкі ставіліся па-рознаму. Так, калі ў праграме 1920 года адкрыта дэкларавалася небходнасць «зблізіць усіх каталікоў і праваслаўных і аб'яднаць іх у аднэй веры з рознымі абрадамі», то ў пазнейшых праграмах аб уніі ўжо не пісалася. Гэта было выклікана палітыкаю польскага ўраду выкарыстаць уніяцтва ў сваіх мэтах, пераважна шкодных для беларускага народа. Менавіта таму з пачатку 1930-х гг. лідары БХД абаранялі тэзіс аб неабходнасці не фармальнага, а фактычнага рэлігійнага адзінства беларусаў шляхам укаранення рэлігійнай талерантнасці ва ўзаемаадносінах беларусаў




Праграма і статут Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, выдадзеныя ў 1926 г.

каталікаў і беларусаў праваслаўных.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў лідары беларускай хадэцыі спрабавалі прыстасаваць праграму партыі да патрэбаў беларускага народа. Беларуская хрысціянская дэмакратыя прайшла доўгі шлях ад спробаў стварэння хадэцыі класічнага еўрапейскага ўзору да сялянскай радыкальнай партыі, якая абвяшчала хрысціянскія прынцыпы і традыцыйную беларускую культуру асноваю развіцця беларускай нацыі. Увага да сацыяльных пытанняў, прынцыповая пазіцыя па пытанні незалежнасці Беларусі, цвёрдая прыхільнасць да хрысціянскіх ідэалаў у спалучэнні з выдатнымі арганізатарскімі здольнасцямі яе правадыроў і далі ёй магчымасць праіснаваць амаль чвэрць стагоддзя і стаць унікальнаю з'яваю ў беларускай гісторыі.

Дарэчы, вывучаючы заходнебеларускую гісторыю, я ўсё больш і больш пераконваўся ў існаванні вельмі шкоднага міфа, які ўмацаваўся ў пасляваеннай беларускай гістарыяграфіі не столькі на гістарычных фактах, колькі на ідэалогіі — міфа аб супрацьстаянні заходнебеларускіх левaрадыкалаў і хрысціянскіх дэмакратаў.

У 1935 годзе, калі Казіміра Сваяка не было сярод жывых ужо больш як дзевяць гадоў, паэт, камуніст В. Таўлай напісаў верш «Цень Сваяка», дзе звяртаўся да паэта і ксяндза як да свайго ідэйнага праціўніка, але, падкрэслю, не як да ворага. Верш гэты здаецца мне своеасабліваю паэтычнаю квінтэсенцыяй прэтэнзіяў заходнебеларускіх камуністаў да хадэкаў. Зразумела, не тых камуністаў, якія лічылі ксяндза Адама агентам дыфензівы. Думаю, варта працытаваць урывак з гэтага верша:

*Выбачайце, — сум ваш патрывожу,*
*бо спакой уцёк ад вас і так...*
*Мне Лукішак мур, зубаты і варожы,*
*права даў вас выклікаць, Сваяк.*
*Мне, паверце, жаль, што сэрца завіруху*
*пахаваць хацелі вы ў сутане...*
*Сэрца толькі сыкне бунтам глуха,*
*непакорным быць не перастане.*
*Рукі ўгору вы ўзнялі з малітвай,*
*Толькі сэрца вам не ўзняць ніяк.*
*І стаіць на ростані вялікай бітвы*
*чарнакрылы роспачы маяк.*
*Шэпчуць вусны: сэрцу пакаруся.*
*І аблій ксяндза няверы жах:*
*бачыць ксёндз, што заўтра Беларусі*
*не цвіце на залатых крыжах...*

Відавочная павага, з якою звяртаецца паэт-камуніст да паэта-ксяндза. Сваяк успрымаецца Таўлаем, чалавекам вельмі радыкальным па сваіх сацыяльных поглядах, як патрыёт сваёй Радзімы. Валянцін Таўлай папракае Казіміра Сваяка ў нежаданні бачыць яўнае: шчасце Беларусі прынясуць не малітвы, а перамога ў вялікай бітве, у барацьбе камунізму і капіталу. Сваяк быццам і бачыць поступ рэвалюцыі і сам пачынае бунтаваць, але рашучага кроку зрабіць не можа...

Сёння і Валянцін Таўлай, і Казімір Сваяк займаюць годнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, але наўрад ці можна адназначна сцвярджаць, што ў гістарычнай дыскусіі аб рэвалюцыі і эвалюцыі перамог менавіта паэт-камуніст.

Пасляваенныя падзеі не далі беларусам магчымасць займацца сваім рэлігійным і нацыянальным жыццём. Віленшчына стала літоўскаю, многія людзі пасля вайны запісаліся палякамі і з'ехалі з СССР, каб пазбегнуць рэпрэсіяў ды іншых «сюрпрызаў» жыцця ў «савецкім раі». Касцёлы зачыняліся. Ксяндзоў альбо павысылалі, альбо знішчылі. Сёння, ужо маючы незалежную дзяржаву, мы мусім памятаць, што БХД годна пранесла ідэю незалежнасці Беларусі праз 1920–1930-я гады, стаўшы прыкладам і для каталікаў, і для праваслаўных.

За магутнымі постацямі лідараў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху стаяць тысячы лідараў і актывістаў асобных гурткоў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, раскіданых у 1920–1930-я гг. па абшарах Заходняй Беларусі. Пра большасць з іх нам сёння невядома амаль нічога, толькі прозвішчы і імёны ў партыйных спісах ды часам кароткія паведамленні ў справаздачах паліцыі і газетных нататках. На падстрэшшах многіх вясковых хатаў яшчэ ляжаць цікавыя дакументальныя сведчанні аб жыцці гэтых вельмі сумленных і адданых Беларусі людзей. Захоўваць памяць пра іх — наш абавязак.



Мемарыяльная дошка ў гонар Францыска Скарыны на будынку Нацыянальнай бібліятэкі ў Празе.

Адам Мальдзіс

# Дзе можа знаходзіцца месца пахавання Францыска Скарыны?

Час бяжыць хутка. Да 500-годдзя старажытнага беларускага і ўсяго ўсходнеславянскага кнігадруку (6 жніўня 2017 года — несумненна, гэта будзе свята ўзроўню ЮНЕСКА) застаецца ўжо нядоўга. Між тым, усе папярэднія юбілейныя мерапрыемствы адбываюцца стыхійна, разрознена, без адзінага агульнабеларускага, агульнага ўсходнееўрапейскага і тым больш сусветнага плану (як гэта было не так даўно, калі адзначаўся юбілей армянскага пісьменства, 500-годдзе з часу нараджэння Францыска Скарыны). Мы нават не ведаем (а шчырыя патрыёты сваёй Радзімы ўжо даўно пра гэта пытаюцца), дзе дакладна памёр Францыск Скарына і дзе знаходзіцца прах першадрукара Святога Пісання, шматбаковага навукоўца, прыхільніка збліжэння ўсіх народаў і канфесій, асабліва хрысціянскіх, надзвычай гуманнай асобы, нязломнага пакутніка за веру, сям'ю, Радзіму, чалавецтва.

За высакародную справу пошукаў праху Францыска Скарыны ў Чэхіі ўзяліся святары касцёла святых Сымона і Алены на чале з ксяндзом пробашчам Уладзіславам Завальнюком. Каб аблегчыць іх пошукі, падзялюся вынікамі сваёй работы як з вуснымі і друкаванымі, так і з віртуальнымі крыніцамі. Асабліва дапамагла мне старонка «Вікіпедыі», прысвечаная помнікам культуры Чэхіі, што сталі як нацыянальнымі, так і ЮНЕСКАўскімі каштоўнасцямі.

Найперш маю ўвагу прывабіў Чэшскі-Крумлаў, дзе, як ужо даўно вядома, пры замку працаваў так званым садоўнікам, а па сутнасці, як і бацька ў Празе, як асветнік, батанік-лекар старэйшы сын нашага першадрукара Сімяон (можа, якраз такое ж імя меў і яго бацька, пакуль заставаўся праваслаўным, перад каталіцкім хростам разам з усёй сям'ёю ў 1498 годзе ў полацкім бэрнардынскім касцёле святога Францішка). Апошнія звесткі я ўзяў яшчэ ў 1988 годзе для даклада на чарговым кангрэсе славістаў у Браціславе з аўтарытэтнай манаграфіі пінскага гісторыка ордэну бэрнардынаў Яна Кантака [1] і надрукаваў у кангрэсным дакладзе [2], які быў успрыняты міжнароднай грамадскасцю без крытычных заўвагаў.

Аднак вернемся да віленскага перыяду жыцця і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны, бо ў чытача могуць узнікнуць пытанні: адкуль жа ў Скарыны ў Чэхіі ўзяліся два сыны, адзін з якіх напэўна, а другі — магчыма, займаўся тым жа, што і бацька, — батанічна-садоўніцка-лекарскай дзейнасцю, якая можа стаць пры пошуках надзейным арыенцірам. І чаму наш славуты суайчыннік вымушаны быў пакінуць родную і блізкую да Полацка Вільню, каб вярнуцца ў больш аддаленую і чужую Прагу? Для гэтага трэба хоць бегла спыніцца на падзеях 1520-х гадоў жыцця і дзейнасці Скарыны. Выдаўшы ў Празе чэшскай не менш за 22 кнігі перакладаў з Бібліі, ён дзеля сувязі са сваім рэальным, пераважна праваслаўным чытачом, паехаў працягваць святую дзейнасць у Вільню, сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, агульнай дзяржавы і для продкаў беларусаў, тады пераважна па саманазве русінаў (але ўжо ў лацінскіх крыніцах, дзеля адрознення, беларусаў) і для продкаў літоўцаў, у той час пераважна па назве жмудзінаў ці жамойтаў. Скарына правёў там звыш дзесяці гадоў. У 1522 годзе ён выдаў агульнахрысціянскую «Малую

---

**Адам Мальдзіс** — доктар філалагічных навук, прафесар, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1965 года. Нарадзіўся 07.08.1932 г. у вёсцы Расолы Астравецкага раёна. Закончыў аддзяленне журналістыкі БДУ (1956). Аўтар шматлікіх даследаванняў, у тым ліку кніг «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (1980), «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя» (1982), «З літаратуразнаўчых вандраванняў» (1987), «Перазовы сяброўскіх галасоў» (1988), а таксама нарысаў, аповесцяў і эсэ, прысвечаных беларускай культуры. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Узнагароджаны медалём імя Францыска Скарыны. Жыве ў Мінску.

падарожную кніжыцу», а ў 1525 годзе — кнігу «Апостол». І ўсё!

Аднак мы ведаем, што Скарына быў працалюбам, які не мог сядзець склаўшы рукі. Ведаем таксама, што ў другой палове 1520-х гадоў ён дапамагаў Віленскаму біскупу Яну, сыну тагачаснага караля першай Рэчы Паспалітай. Мяркую, што менавіта па біскупскім заданні наш першадрукар выконваў адказную і пачэсную работу — складанне першага Статута Вялікага Княства Літоўскага. Па традыцыі лічыцца, што гэтая па сутнасці першая ў Еўропе Канстытуцыя стваралася ў асноўным Альбрэхтам Гаштольдам, з 1522 года адначасова канцлерам ВКЛ і віленскім ваяводаю, уладальнікам Геранёнаў, Астраўца і яшчэ дзясятка іншых маёнткаў. Але ўсебаковае вывучэнне магнацкай постаці майго земляка пераканала мяне, што ён мог толькі арганізоўваць напісанне. Адзінай жа постаццю ў ВКЛ, якая магла спалучыць у Статуце «права Боскае» і «права чалавечае», з'яўляўся тады якраз сакратар біскупа Яна — Францыск Скарына! Толькі ён з грамадзянаў ВКЛ паспяхова, за два гады, закончыў Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве, а пасля стаў доктарам Падуанскага ўніверсітэта ў Італіі. Улетку аўтары Статута, відаць, пад зацікаўленаю апекаю біскупа Яна і яго бацькі, каралеўскай мосці самога Зыгмунта Старога, мужа каралевы-рэфарматаркі Боны Сфорца, а таксама і яе самой, «рэнесансніцы», якая любіла «літоўскія» прасторы, накіроўваліся на ўсход па «каралеўскім гасцінцы»: падсілкоўваліся па дарозе ў спецыяльна адкрытай з іх дазволу карчме ў Касіне Вялікай (цяпер Пакене) і ехалі далей, у Астравец, бліжэйшы маёнтак Гаштольдаў над пакручастымі берагамі Лошы (па-літоўску — Стронга, Фарэль, якая даходзіла сюды з Балтыкі і «ўвайшла» на першы герб Астраўца), па канчатку даўжэзнага «Шоўкавага шляху». Відаць, Скарына павінен быў і выдаць у Вільні першы Статут друкам, бо інача для чаго ж ён выкрадаў у Каралеўцы друкара-габрэя і потым цярпеў за гэта перасled прускага герцага? Але як яно было далей, я пакуль што не ведаю, ва ўсялякім выпадку пасля першага Статута выйшлі ў абноўленых выданнях на працягу таго ж стагоддзя другі і трэці, адрозныя ад першага.

Адначасова з дзяржаўна-грамадскімі Скарына выконваў і сямейныя абавязкі, выхоўваў двух сыноў сваёй жонкі Маргарыты, удавы ягонага віленскага грашовага дабрадзея Рыгора Адверніка, які памёр якраз у 1525 годзе, калі з'явілася другая з віленскіх кніжак Скарыны. Праз год, вытрымаўшы жалобу, Маргарыта (узрост яе нам пакуль невядомы) выйшла замуж за Францыска, але неўзабаве і сама памерла.

Нарэшце ў 1534 годзе, перажыўшы пераслед прускага герцага, прэтэнзіі на спадчыну (камяніцу) сваёй жонкі ў Вільні і, хутчэй за ўсё, заключэнне ў познаньскую турму за даўгі свайго старэйшага брата Івана, які прадаваў скуры звяроў Полаччыны, Францыск Скарына павёз абодвух сыноў з сабой у Прагу, і неўзабаве яны ўжо там памагалі бацьку ў садоўніцтве. Але ў мяне яшчэ ўзнікае пытанне: ці яго гэта былі сыны? Хутчэй за ўсё, праяўляючы хрысціянскую міласэрнасць, Францыск усынавіў іх, даволі дарослых, і навучаў іх знаёмай для сябе (прыгадаем яго экзамены ў Падуі), патрэбнай чалавецтву і прыродзе справе — медыцыне, тады пераважна прыродазнаўству.

А цяпер пра самае важнае: дзе ж Скарына памёр і дзе быў пахаваны? Адны сцвярджаюць, што, безумоўна, у Празе, іншыя — што кароль Чэхіі Фердынанд вывез яго як вопытнага спецыяліста і вернага слугу з сабой у Аўстрыю. Мяне ж найбольш пераконваюць супастаўленыя факты, прыведзеныя ў артыкуле вопытнага скарыназнаўца Вячаслава Чамярыцкага ў шматтомным Энцыклапедычным даведніку «Беларускія пісьменнікі». Працытуем адтуль самы важны для нас абзац: у 1535 годзе Скарына вярнуўся (напэўна ж, з двума сынамі, Сімяонам і Францішкам — А. М.) «у Прагу, дзе ўладкаваўся вучоным садоўнікам у каралеўскім батанічным садзе, які тады закладваўся. У садзе чэшскага караля Фердынанда І прапрацаваў Скарына да лета 1539 г. (відаць, да канца закладкі. — А.М.). Дзе ён жыў і чым займаўся пасля гэтага, мы не ведаем. У Чэхіі (магчыма, у Паўднёвай) (учэпімся за апошняе слова! — А.М.) беларускі гуманіст знайшоў свой вечны спачын. На жаль, нам невядомы ні дата яго смерці, ні месца пахавання. Найбольш верагодна, што памёр ён у 1551 г., бо ў пачатку наступнага года чэшскі кароль выдаў Скарынаваму сыну Сімяону спецыяльную грамату (ад 29 студзеня) на права адшукваць па ўсёй краіне і наследаваць маёмасць свайго бацькі, ужо нябожчыка. У тым жа 1552 г. справа аб нейкай частцы маёмасці разглядалася і ў Вільні, пра што сведчаць два нядаўна выяўленыя судовыя дэкрэты (ад 17 жніўня і 15 снежня) караля Жыгімонта Аўгуста. Сімяон Скарына ў 1570-я гады жыў у Паўднёвай Чэхіі і таксама займаўся лекарствам і садоўніцтвам (вядома ж, пры замку. — А. М.). Другі сын першадрукара Францішак загінуў у 1541 г. у Празе ў часе пажару. Нашчадкі Сімяона Скарыны жылі ў Чэхіі і Славакіі» [3].

Ад сябе дадам, што адзін з далёкіх, але свядомых у сваяцтве нашчадкаў, Ежы Скарына,



Касцёл святога Віта ў Чэшскім-Крумлаве.

які жыў у сталіцы Мексікі, займаўся таксама друкам, актыўна перапісваўся са мною. У адным з лістоў я спытаў у яго: што азначае, калі Францыск Скарына сапраўды перад смерцю «жыў у Паўднёвай Чэхіі», у старэйшага сына? Ён адказаў мне, што гэта быў Чэшскі-Крумлаў, цэнтр нібыта незалежнага герцагства. Ім кіравалі спачатку чэхі, а потым, на поўдні Маравіі, аўстрыйцы ці саксонцы...

І вось цяпер, калі такая інфармацыя вельмі спатрэбілася для пошукаў праху нашага першадрукара, я некалькі дзён, дзякуючы «Вікіпедыі», «падарожнічаў» па Чэшскім-Крумлаве, і аказалася, што рэальныя пошукі ў паўднёвамараўскім горадзе, а таксама пошукі ў архівах суседніх дэканатаў могуць быць вельмі перспектыўнымі [4]. Мяркуйце самі. У Чэшскім-Крумлаве тады былі ўсяго два касцёлы. Адзін, у акружаным мурамі кляштары, адпадае як закрыты. Другі — у імя святога Віта, парафіяльны, стаіць на беразе-паўвостраве Влтавы і якраз паблізу замка, пабудаваны ў гатычным стылі і асвечаны яшчэ задоўга да прыбыцця абодвух Скарынаў: парафіяльным ён стаў у 1329-м, цэнтрам Доўдлебскага дэканата — у 1374-м, а пасля перабудовы быў яшчэ раз асвечаны ў 1439 годзе. Скарынаў, як адказных прызамкавых асобаў, маглі хаваць, прытым з належнымі надмагіллямі, толькі там, а факты пахавання паведамляць і ў дэканат, назва якога мянялася.

Аднак далейшая гісторыя прыдворнага і парафіяльнага касцёла імя святога Віта развівалася, як сведчыць «Вікіпедыя», пакручаста. У 1583 годзе ён стаў месцам пахавання прадстаўнікоў Рожмбергскага дома, у 1591 годзе быў адміністрацыйна перададзены ордэну езуітаў, які, напэўна ж, не дужа шанаваў усходніх славянаў, прытым хрышчаных на каталікаў бэрнардынамі. Да таго ж, у прэзбітэрыі ад надмагілляў, размешчаных нават у цэнтры касцёльнай залы, стала цесна. Таму новая ўладальніца замка, Марыя Эрнесціна фон Эгенберг, у 1717 годзе загадала іх вынесці (але куды, на якія магілкі?). Быў складзены спіс надмагілляў, які, паводле «Вікіпедыі», адзін і захаваўся, а таму мог бы паслужыць каардынатам у пошуках праху нашага першадрукара. Аднак план графіні не быў тады выканы: яна памерла ў 1719 годзе. Нават у 1750 годзе надмагільныя таблічкі з чырвонага мармуру ўсё ж віселі на сценах пры ўваходзе ў капліцу Яна Непамуцкага. Можа, вісяць там і цяпер?

Без пошукавага візіту ў касцёл святога Віта і архівы навакольных дэканатаў тут яўна не абысціся, і ў гэтым мінскаму духавенству з Чырвонага касцёла могуць і павінны дапамагчы сябры арганізацый беларускай дыяспары ў Празе. Паводле даведніка, складзенага і выдадзенага ў Маскоўскім універсітэце ў 2014 годзе, іх там ажно дзевяць [5]. І сярод іх — Беларуская суполка «Скарына ў Празе», «Аб'яднанне імя Францыска Скарыны» з электроннымі адрасамі, прозвішчамі кіраўнікоў. Каму, як не ім, апраўдваць імя свайго апекуна? А да гэтага ж яшчэ можна абвестку-заклік да пошукаў змясціць у чэшскіх часопісах — англамоўным «*Belarusian Reviev*» і беларускамоўнай «Крывіі».

А для пачатку пошукавай работы я падкажу нашым суайчыннікам назву чэшскай кнігі, якую мне ў Мінску так і не ўдалося выявіць. Гэта — «*Encyklopedia mesta Cesky Krumlov*», а ў ёй павінен быць змешчаны артыкул Здэнкі Прокапавай пра касцёльную гісторыю гэтага горада, невялікага, але з вялікай гісторыяй.

Ну то за работу: духоўную, інтэлектуальную, пошукавую! Дакументаў пра Скарыну, нашага першага кнігавыдаўца ў Чэхіі павінна быць многа і ў розных сховішчах.

1. Kantak Jan. Bernardyni w Polsce. — Pińsk, 1934.
2. Мальдзіс А. І. Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння людзей і народаў. — Мінск, 1988.
3. Чамярыцкі В. А. Скарына Францыск // Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік. Том 5. — Мінск, 1995. С. 334.
4. Вікіпедыя. Список национальных памятников культуры Чешской Республики.
5. Весь мир — диаспоры // Бюллетень Научно-исследовательского центра истории диаспор исторического факультета МГУ. Вып. 1. — Москва, 2014. С. 177–181.

# Я ўдзячны Богу за натхненне

На стварэнне музыкі да словаў Францыска Скарыны мяне натхніў Адам Восіпавіч Мальдзіс. Год назад ён нагадаў мне, што ў 2017 годзе будзе адзначацца 500-годдзе беларускага кнігадруку. Адам Восіпавіч вельмі шмат расказаў мне і пра самога Францыска Скарыну, і пра яго пераклад кнігаў Бібліі, узгадаўшы і пра вядомы тэкст з прадмовы першадрукара да Кнігі Юдыты. У выніку мы дамовіліся пра тое, што я пастараюся напісаць музыку на гэтыя словы. Адам Восіпавіч даў мне арыгінальны тэкст Францыска Скарыны, а таксама яго сучасныя пераклады на розныя мовы. Самае цікавае, што менавіта старабеларускі арыгінальны тэкст мне спадабаўся найбольш, на яго я і напісаў музыку. Працаваць было нялёгка, бо гэта не верш. Больш за тое, да такога твора XVI ст. музыку трэба было пісаць адпаведную, таму я пастараўся стварыць стылізацыю грыгарыянскага харалу. Такім чынам і была мною напісаная музыка на словы Францыска Скарыны.

За свой век я напісаў шмат кампазіцый на вершы айчынных і замежных паэтаў. Захапляюся нашай нацыяй, з якой выйшла столькі таленавітых людзей! Я ўдзячны Богу за гэтую працу, за натхненне, бо лічу, што сваім талентам кампазітара хоць крыху спрычыніўся да святкавання вялікай даты ў нашай айчыннай гісторыі і культуры.

*Алег Чыркун,*
*кампазітар*

## Гімн

**«Понеже от прирожения»**

Для змешанага хору

Словы Францыска Скарыны
з прадмовы да Кнігі Юдыты

Музыка Алега Чыркуна




A tempo
да-ють гне-зда сво-я;
Ри-бы, плы-ва-ю-щи-е по мо-рю и
в ре-ках, чу-ють ви-ры сво-я;
con moto
Пче-лы и тым по-доб-на-я бо-ро-нять у-льев сво-
пче-лы у-льев сво-
A tempo
их, та-ко ж и лю-ди, и где зро-ди-ли-ся и у-скор-мле-ны суть по
rit.
бо-зе, к то-му мес-ту ве-ли-ку-ю лас-ку и-ма-ють.
mp
ff



# Захаваць «стыгматы часу»

На самай мяжы вясны і лета святкуе свой 70-гадовы юбілей вядомы рэстаўратар, таленавіты эсэіст і наш шаноўны аўтар Аркадзь Шпунт. Многім старажытным абразам, манументальным фрэскам, скульптурам і ўкрыжаванням падараваў ён другое жыццё, многія вярнуў з нябыту сваёю ахвярнаю карпатлівам працаю, а пасля напісаў пра іх таксама па-свойму — арыгінальна, таленавіта, дасведчана, у тым ліку і на старонках «Нашай веры».

«Рэстаўрацыя — гэта заўсёды рызыка. Раскрываючы твор старога жывапісу, перажываеш стрэсавую нагрузку, — кажа пра сваю прафесію майстра. — Час, які мінае, уваходзіць у твор, пакідае на ім свой адбітак. Для мяне важна захаваць рух твора ў часе і тыя „стыгматы“, якія час на ім пакідае». Гэта творчае крэда рэстаўратара, галоўны прынцып яго нялёгкай і адказнай працы, ад якога ён ніколі не адступае.

З асаблівай любоўю і цеплынёю згадвае спадар Аркадзь адрэстаўраваныя ім абразы Маці Божай — Лагішынскай, Браслаўскай, Дзісненскай, Камайскай, Белагрудскай... Можа таму, што наш шаноўны юбіляр прыйшоў на гэты свет у самым Марыйным месяцы, святыя выявы Марыі сталі яго найбольшым натхненнем і творчым клопатам.

Дык няхай жа Яна, Сталіца мудрасці і наша міласэрная Маці, выпрошвае для Вас, дарагі Аркадзь Самуілавіч, шчодрыя дары Духа Святога, здароўе і сілы для далейшай плённай працы — такой высакароднай і такой неабходнай.

Сардэчна віншуем Вас з юбілеем і заўсёды чакаем вашых публікацый на старонках «Нашай веры».

*Рэдакцыя*



Звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі. Канец XIX – пачатак XX ст.

Аркадзь Шпунт

# ІКОНЫ АРЭАЛУ ПАЛЕСКІХ ГАВОРАК

## *Нататкі рэстаўратара*

...Зайшоў неяк у майстэрню чалавек — прынёс на рэстаўрацыю ікону. Звалі яго Дзмітрый Іванавіч. Паглядзеўшы на яго, я раптам падумаў, што, у адрозненне ад савецкіх часоў, нашы сённяшнія людзі ў сваім аблічча ў большасці не маюць ніякіх сацыяльных прыкметаў, і таму цяжка здагадацца, якою справаю, якою прафесіяй чалавек здабывае свой хлеб штодзённы. А вось з іконамі ўсё прасцей: з першага погляду было зразумела, што прынесены ім наіўны жывапіс прызначаўся не для пазалочаных іканастасаў. Аўтараў такіх іконаў называюць багамазамі, але іх можна назваць і народнымі мастакамі — больш народных і ўявіць цяжка. Іх творы адметныя простасцю формаў

**Аркадзь ШПУНТ** — мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

і... ігнараваннем каларыстычных нюансаў. Зрэшты, гэта можна сказаць пра амаль усё народнае мастацтва кожнага народа. Але ці можна назваць іх аўтараў іканапісцамі?

Неяк у размове са святаром я назваў ікону рэччу, і святар строга мяне паправіў: не рэч, а ікона ці мастацкі твор. Дык можа, у размове пра іконы больш важны «пачуццёвы тон»? Зрэшты, ікону, якая апынулася ў маіх руках, можна назваць своеасаблівая, і некалі яна была хатняю сямейнаю святыняю, і месца яе было ў куце на бажніцы за лампадкаю. А сёння яна стала адзіным напамінам-сведчаннем пра тое, што і хата была, і сям’я была... Не знайшоўшы цвёрдага адказу на пытанне пра тое, ці ёсць у чалавека душа і ці сапраўды яна несмяротная, я заўсёды думаў пра тое, што ў мастацкім творы ёсць нешта нематэрыяльнае, аўтаномнае адносна матэрыі, з якой ён створаны. Магчыма, гэта менавіта тое, чым мастак надзяліў матэрыю ў момант творчасці, тое, што ператварае рэч — тонкія пафарбаваныя сасновыя дошкі, злучаныя шпонкамі, — у Вобраз, Абраз. І асаблівы «пачуццёвы тон», безумоўна, ёсць у гэтых творах жывапісу, і таму, шукаючы большай дакладнасці, я назваў тую ікону *іконаю арэалу палескіх гаворак*. Поўдзень Беларусі і поўнач Украіны — месцы найбольшага бытавання гэтага своеасаблівага, самабытнага мастацтва іканапісу.

...Кожную вясну палешукі, жыхары пакрытых чаротам хатаў, міжволі станавіліся амаль адрэзанымі ад свету астравіцянамі — дабрацца да іх паселішчаў можна было на чоўнах або на лодках, запрэжаных валамі, якія па шыі загразалі ў балоце. Выявы, вартыя пэндзляў егіпецкіх малявальшчыкаў. Неба над палешукамі заўсёды напоўненае бясконцым шумам, шолахам крылаў і галасамі разнастайнага птаства. Напэўна, таму ў масавых рамесніцкіх іконах Палесся натуральна адлюстраваліся глыбінныя калектыўныя вартасці, якія склаліся пад уплывам сутыкнення неадольных чалавекам сілаў, што ўладарна вызначалі яго існаванне.

Ікона памерам 53×42 — своеасаблівае акно, якое дазваляе зазірнуць у свет яе ўладальнікаў, бо функцыя свядомасці, на думку К. Юнга, заключаная не толькі ў свядомасці і засваенні знешняга свету праз брамы нашых пачуццяў, але і ў пераводзе свету ўнутры нас у бачную рэальнасць...



Бог Айцец.
Канец XIX – пачатак XX ст.

...Рэальнасць ледзьве праглядалася пад відавочнаю копаццю, брудам і слоем пацямнелай аліфы. Праз фарбавы слой «чыталіся» смаляныя ходы драўніны, па якіх лакалізаваліся асноўныя страты жывапісу. У ніжняй частцы іконы чорным контррэльефам адбіўся след агню — магчыма, перад іконаю гарэла не лампада на ланцужках, а самаробная танная свечка, а можа, нават і лучына. Падгарэлыя народныя іконы — звыклая з’ява...

Аднак, нягледзячы на страты фарбаванага слою, было зразумела, што намаляваны трохвугольны німб, скіпетр і дзяржава, воблакі і херубімы, сівая барада



Святы арханёл Міхал.
Канец XIX – пачатак XX ст.

і птушка ў палёце — усё тое, што па загадах Сусветнага Сабору 1787 года *«зело нелепо и неприлично»* пісаць, бо хто ж бачыў Бога Айца?

Дзмітрый Іванавіч расказаў мне, што ікону яму падарылі — прыгажосці і каштоўнасці ў ёй няма, але ж шкада, калі зусім прападзе, усё ж такі ікона...

Між тым, калі сабраць на сцяне 10–15 такіх іконаў, відавочнымі стануць і іх дэкаратыўныя, і мастацкія, і культурныя вартасці, і, магчыма, праявіцца ўзровень нізавой рамесніцкай культуры і, напэўна ж, стане бачнаю, зразумелаю іх сувязь з рэлігійным жыццём народа. Ва Украіне такія іконы называюць «народнымі іконамі Сярэдняй Надднянршчыны» і разглядаюць у кантэксце вясковай культурнай прасторы. Ва Украіне ўжо выйшла манаграфія па гэтай тэме, адзначаная ўзнагародамі і Нацыянальнай прэміяй. І ў Расіі, і нават у Канадзе ў музейных залах пачалі актыўна экспанаваць народныя іконы з прыватных збораў, а ў нас у Беларусі, як заўсёды, пакуль чухаюць патыліцы, быццам у нас процьма помнікаў народнай культуры.

...Развітаўшыся з Дзмітрыем Іванавічам, я пачаў вывучаць «стан захаванасці» жывапісу, каб скласці для сябе «план рэстаўрацыйных мерапрыемстваў», але... замест «мерапрыемстваў» у маёй галаве ўзніклі карцінкі, навеяныя чорнаю пазнакаю даўно адгарэлага агню і меланхоліяй твораў Максіма Гарэцкага. Працытую невялікі ўрывак.

*«...пакуль дабіраюцца да „Веруюˮ, Лявонька то пераступае з ножкі на ножку, то крычыць словы на ўсю хату, то гаворыць ледзь чутна, то сашчэплівае рукі на ўсю сілу, то зусім расшчэплівае іх. Забаўляецца — колькі можна ў рамках чалавека, пастаўленага весці гамонку з самім Богам. Матка занята ўжо справамі ля печы, і ён, спачатку здзіўлены яе няўвагаю на яго дурэнне, потым, каб скарыстаць выпадак, пачынае, молячыся, гоцаць так, што аж лава гутаецца пад ім... А ўрэшце заглядаецца на абраз, на сівога чалавека з нейкім вялікім гарбузом у адной руцэ і з кіем у другой. Думкі рояцца ў галаве: чаму гэты, падобны з твару да іхнага дзеда, але неласкавы сівы дзед, чаму Ён — Бог?»*

Напомню, што ў візантыйскай традыцыі з іменем Бога Саваофа іканаграфія ніяк не звязвалася і ўсялякія яго выявы лічыліся неканаічнымі — яны пярэчылі багаслоўскім законам праваслаўнага іканапісу (быў загад Сіноду ад 6 красавіка і 21 мая 1722 г.), аднак выявы Саваофа вядомыя з XVI стагоддзя. Напэўна ж, насуперак забаронам, яны былі нечым блізкія і вернікам, і багамазам.

...Над знешняю немудрагелістасцю вясковага побыту і ўзімку, і ўлетку красаваліся кветкі, а намаляваныя святыя ўслухоўваліся ў бясконцыя малітвы-просьбы, патаемныя жаданні-мары і сны. Гарэў агеньчык перад бажніцаю...

Прызнаючы дваістую прыроду мастацтва, якое аднначасова належыць і мінуламу, і сённяш-

няму, у працэсе рэстаўрацыі даводзіцца расцэньваць «паціну часу» як элемент, уключаны ў просценькі жывапіс самім часам, самім побытам. І міжволі думаеш пра тое, што, напэўна, нельга разглядаць графіку драпінаў, якія адвольна выбудавалі свае перспектывы ці то часу, ці то прасторы, як дэфекты жывапісу, зрэшты — як і след апёку ад агеньчыка свечкі, а пацёртасці фарбаванага слою, здаецца, нават паляпшаюць і паглыбляюць агульны каларыт твора. Дык, можа, варта ўспрымаць гэта ўсё як элементы, што, натуральна ўвайшоўшы з часам у выяву, напоўнілі яе дадатковым сэнсам і памяццю?

Здавалася б, найпрасцейшы іканапіс, і рэстаўраваць яго таксама можна проста — проста зрабіць «як было». Можна і след ад апёку свечкі схаваць, быццам і не было яго — загрунтаваць, затаніраваць. Быццам згасіць тую хатнюю лампадку?.. «Як было» не атрымаецца нават у самага адмысловага рэстаўратара, бо нельга ўвайсці ў адну і тую ж раку двойчы. Зрэшты, рэстаўратар і не імкнецца да гэтага.

...Уявіце сабе кірмаш у старым Пінску. Мноства лодак на кірмашы. Каля берагу і на плошчы каля касцёла святога Станіслава (яшчэ не ўзарванага, але ўжо «навернутага» ў праваслаўе) прадаецца і купляецца. І іконы — таксама.



Маці Божая з Дзіцяткам Езусам.
Канец XIX – пачатак XX ст.

Выстаўляючы на продаж сваю творчасць, кожны багамаз імкнуўся да таго, каб тавар прыцягваў да сябе пакупнікоў і майстэрствам, і цаною. Устойлівасць вобразаў, спосабы іх адлюстравання, сюжэты і эстэтычныя характарыстыкі народных іконаў грунтаваліся на прынцыпе шматразавага паўтору тыповых архаічных мадэляў, як і ў кожнай праяве народнай творчасці. Ікона, хоць і не самім святым Лукою напісаная, была ў хаце не прадметам, а чымсьці самастойным, амаль жывым, адухоўленым носьбітам таго зместу, які лёгка пранікаў у свядомасць. Людзі верылі, што ікона нясе ў сабе штосьці ад намаляванага на ёй святога, які праз сваё адлюстраванне прысутнічае ў хаце і можа праявіць сваю цудадзейную сілу на астраўку цвёрдай зямлі сярод бяскрайняга разліву вясновай вады.

На кірмашы ікона каштавала ад 30-ці капеек да 1 рубля 25-ці капеек (за 30 капеек можна было купіць пуд мукі). Фунт сіняй фарбы, берлінскай лазуры, цаніўся ў 1 рубель і 73 капейкі. Бялілы лічыліся таннаю фарбаю, але з іх пры награванні атрымлівалі жоўты і чырвоны колеры.

На кірмашы было з чаго выбіраць: іконы з раслліннымі палямі пад скань і імітацыя разьбы з раслліннымі матывамі, з сонечна-залацістым фонам і чорным, з буйнымі кветкамі на палях. Аднак чырвоныя кветкі ў зеляніне лістоты, якія ярка гарэлі на чорным фоне, у беларусаў не карысталіся папулярнасцю: у цёмнай хаце нават асветленая лампадкаю ікона выглядала змрочна, у адрозненне ад украінскіх беленых хатаў. Майстар мусіў дапасоўваць свой жывапіс



Маці Божая з Дзіцяткам Езусам і Янам Хрысціцелем.
Канец XIX – пачатак XX ст.

да тых асаблівасцяў побыту, у якім ён уяўляў свой твор.

...Багамаз пісаў ікону на ўмацаванай шпонкамі і пагрунтаванай аліфаю ці клеем аснове. Хутчэй за ўсё, ён працаваў кароткімі зімовымі днямі, напэўна — каля акна, не карыстаючыся ні прамалёўкамі, ні шаблонамі. Пісаў без правак — як атрымалася, так і добра. У крынцы на падваконні стаялі пэндзлі, у сподках — расцёртыя фарбы, у бутэльцы — аліфа. Белая дошка яшчэ пахла жывіцаю...

У Беларусі сосны растуць у сасонніках — лішайнікавых, верасовых, бруснічных, імшыстых, арляковых, кіслічных, чарнічных, прыручэйна-травяных, даўгамохавых, багуновых, асаковых, асакова-сфагнавых, сфагнавых. У тыя часы не трэба было ведаць, што ўтрыманне цэзію ў драўніне залежыць не толькі ад шчыльнасці забруджвання глебы, але і ад пароды і ўзросту дрэва, а найбольшая колькасць цэзію асядае ў кары і верхніх слаях драўніны.

...Углядаючыся ў наіўную выяву голуба, які сімвалізуе Святога Духа, думаю пра тое, што, якім бы простым ні падаваўся гэты жывапіс, ён сапраўды самабытны і своеасаблівы насуперак таму, што беларусы амаль заўсёды жылі паміж молатам і кавадлам, а сёння яшчэ і пры павышаным радыяцыйным фоне, з прынцыпова новаю па сваіх эвалюцыйных магчымасцях мікрафлораю. Нават родны лес — адвечная раскоша — стаў для нас небяспечным. «Заехаў у лес — як у кажух улез», — казалі палешукі. А сёння Палессе — вялікі кацёл, у якім перайначваюцца генныя структуры. «Зара нікому нічога не трэба. Раней людзі душыліся за зямлю, за сенажаць, а зара нікому нічога не трэба — зарастае ўсё», — гэтак гавораць старыя вяскоўцы.

...Макісм Гарэцкі, які яшчэ не ведаў свайго лёсу, глядзеў у акно вагона. Гэта потым яго арыштуюць і расстраляюць, а цяпер за акном праплываюць *«...гаці, ляды і балоты... куча хатак, як куча гною; цераз дзясятак вёрст — убогая цэркаўка мужыцкая ці касцёл, — і ўсё, і ўся спадчына, што мае краіна ад гаспадарання бацькоў, дзядоў і прадзедаў іхных»*.

І на вакзале паўсюль бачна, што: *«...ў першым класе процьма багатых дарожных паноў, пышны цвет расійскае панскае культуры на Беларусі, і побач з гэтым, толькі ў другім канцы будынку, у трэцім класе... Беларусь, нашу беларускую мужыцкую культуру, прадстаўнікі якой, як няшчаснае, бруднае і затуканае быдла, валяюцца покатам на падлозе, у лапцёх, у лахманох, у мэтлухах, з убогімі торбачкамі і з прыцішанаю, схаванаю ад чужой пагарды моваю на засмяглых вуснах»*.

Засмяглыя вусны... І ў царкве яны таксама, як у трэцім класе ў цягніку. І іконы іх хатнія пісаныя не на залатых фонах, не ў кляштары сапраўдным іканапісцам, а суседам вяскоўцам або прышлым рамеснікам...

...Сюжэты і вобразы народных іконаў дэманструюць нам рысы своеасаблівага магічнага рэалізму, які прабіваецца праз кананізацыю кампазіцыі і фарбы.



Уваскрасенне Езуса Хрыста.
Канец XIX – пачатак XX ст.

У шанаванні палескіх народных іконаў і ў іх стварэнні (дзякуючы індывідуальнай ініцыятыве мастака — яго таленту і адначасова неадукаванасці) нямала язычніцкага, што спакон вякоў захавалася ў генах земляробаў, рыбакоў, паляўнічых. Культ пакланення пантэону святых мала чым адрозніваецца ад культу шанавання язычніцкіх бостваў, што «бралі на сябе» ролю пасрэднікаў паміж людзьмі, раслінамі, жывёламі, звярамі і... усёмагутнымі панамі ў мундзірах, якія з'яўляліся з-за лясоў-балотаў, нібы чэрці з табакеркі —ураднікі, канторшчыкі, акцызныя...

Асвяціўшы ікону ў царкве, палешукі ўрачыста ўладкоўвалі набыты на кірмашы абраз у чырвоным куце сваёй хаты, дзе сыходзіліся лавы і стаяла дзяжа з хлебам. Упрыгожаная ручніком ікона асвячала высокі ганак, нізкія дзверы, цёмныя сцены, печ — увесь побыт, нараджэнне і смерць... жыццё. Здаралася, што бацюшка адмаўляўся благаслаўляць ікону, якая не адпавядала канонам — тады абыходзіліся і без благаслаўлення. Сям'я праз ікону набывала яшчэ аднаго святога заступніка і апекуна, і штодзённае рэлігійнае пачуццё напаўнялася асабліваю блізкасцю да Боскага. Кветкі і травы — лугавыя, лясныя, балотныя, пад нагамі, пад касою, пад вяслом — амаль не кранаді эстэтычных пачуццяў прыгнечаных клопатамі палешукоў,




Святы Станіслаў Костка.
Канец XIX – пачатак XX ст.

але кветкі, напісаныя на палях іконы, стваралі адчуванне ўвасобленага на зямлі раю і часам змушалі разгледзець прыгажосць пад уласнымі нагамі.

З тупіка, апісанага Максімам Гарэцкім, багамазы інтуітыўна знаходзілі выйсце ў маляванні дваістай рэальнасці — звыклай штодзённай і прыхаванай, таемнай, далёкай. Яны стваралі сваё мастацтва пра рэчаіснасць, якую можна адлюстроўваць толькі з дапамогаю цудадзейнага, таемнага, міфічнага. А на Палессі сама рэчаіснасць стварае эфектныя сюжэты, да якіх далёка творцам сюррэалізму. Надзелены «відушчым зрокам» часам бачыў недасягальнае для кожнага. Напрыклад, зайца, які варыць піва, або жорсткае да звярынай свірэпасці племя, якое знікла ў густых лясах і смаляных балотах, пакінуўшы след у Вялікай хроніцы пра Польшчу, Русь і іх суседзяў у XI–XIII стагоддзях.

Палессе — экзатычны, амаль фантастычны, асаблівы свет, менавіта свет. Герадотава мора ад Брэста да Мазыра і ад Пінска да Дубровіцы і Валыні нагадвала пра сябе кожны год у час вясновых разліваў. Святар (каталік, праваслаўны ці ўніят), дабіраючыся да нованароджанага або паміраючага, каб здзейсніць неабходныя абрады, амаль «танчыў над пропасцю» з вялікаю жэрдкаю ў руках, змазаўшы сябе да пояса дзёгцем, скачучы з купіны на купіну. Палешукі ранняю вясною, калі і па лёдзе было не прайсці і на чаўне не праплыць, ператваралі свае лапці ў непрамакальныя ледзяныя боты: абматаўшы саломаю, акуналі разам з абутымі ў лапці нагамі ў ваду і давалі заледзянець... А маракі ў Пінску? Чорная форма, ззянне гузікаў, цяльняшкі, гюйсы, бесказыркі, стужачкі, корцікі...

І сёння канфорс-вежа езуіцкага калегіума, што «спаўзае» да ракі, здаецца кармою скамянелай каля берага каравэлы, якая заблукала на прасторах Герадотава мора...

Нягледзячы на многія страты і змены, Пінск па-ранейшаму захоўвае сваю адметнасць, сваё аблічча. Гісторыя працягваецца. І няхай ёй спрыяюць спачылыя ў крыпце пінскага касцёла біскуп Зыгмунт Лазінскі і кардынал Казімір Свёнтэк. Дапамажы, Божа, краю, у якім людзі пачалі забываць свае родныя звычаі і сваю родную дзівосную мову...

Нават калі ў перыпетыях розных падзеяў загінула кожная чацвёртая народная ікона, яны ўсё роўна складаюць найбольш поўны раздзел твораў у мастацтве беларускага жывапісу XIX стагоддзя. Разнастайнасць сюжэтаў не перашкаджае вылучыць індывідуальныя стылёвыя падыходы асобных майстроў і групы твораў, якія належаць іх пэндзлю. Размеркаваўшы іконы па стылёвых асаблівасцях, можна прыблізна меркаваць, колькі іканапісцаў працавала ў арэале палескіх гаворак. А можна сістэматызаваць народныя іконы па іх каларыстычных і дэкаратыў-

на-арнаментальных прыкметах, як гэта зрабіў у сваёй прыватнай калекцыі знаўца беларускай старажытнасці Ігар Вацлававіч Сурмачэўскі.

Але чаму невядомыя імёны саміх іканапісцаў? Іх жа было нямала! Няўжо іх нашчадкам не цікава, чым займаліся іх дзяды і прадзеды? Няўжо гады атэізму да такой ступені вытруцілі іх памяць? Ці, можа, вытруцілі саміх нашчадкаў...

З усіх народных іканапісцаў выпадкова вядомыя толькі браты Геракавы з вёскі Бабічы Рагачоўскага павета (Чачэрскі р-н, Гомельская вобл.), пра якіх гаворыцца ў «Апісанні Магілёўскай губерні» за 1884 год. Адметная індывідуальнасць і свабода ў спалучэнні з майстэрствам дазволілі братам Геракавым стварыць іконы, цалкам не падобныя да іншых у этнакультурным рэгіёне на стыку Беларусі, Украіны і Расіі: унікальную рэгіянальную з'яву Гомельшчыны XIX–XX стст. — *бабіцкую народную ікону*.

У чым жа яе ўнікальнасць? А ў тым, што да Веткі ад Бабічаў усяго 50 вёрстаў, але магутны ўплыў іканапісу стараабрадцаў не ператварыў бабіцкіх майстроў у дробных плагіятараў, а наадварот, спрыяў з'яўленню самабытнага, не шаблоннага, арыгінальнага мастацтва, якое ўвабрала ў сябе стылістыку народнай палескай іконы, узбагачаную ўспрыманнем мастацтва веткаўскіх іканапісцаў.

«Вандруючы» па інтэрнэце, я выпадкова даведаўся, што нашчадкі братоў Геракавых жывуць у Карэліі, куды трапілі разам з перасяленцамі ў 1940–1950-я гады. Відаць, у Бабічах было так «добра», што лепшымі ім падаліся мясціны, у якія высылалі «ворагаў народа». Выгляд пасёлка Тайгінцы Мядзведжагорскага раёна на фотаздымку 1957 года нагадвае зону, праўда, без калючага дроту...

«Ува мне стрэмкаю сядзела жаданне даведацца пра свае карані», — прызналася Ірына Ларыёнава, якая прачытала пра выстаўку бабіцкіх іконаў і братоў Геракавых у інтэрнэце. Бацька неяк гаварыў ёй: «Помні, дачка, што мы з роду багамазаў». Але, нават вывучаючы ва ўніверсітэце стараславянскую мову, якая па сутнасці ёсць царкоўнаславянскаю, яна ў вочы не бачыла Евангелля і нічога не ведала пра іконы. Прадзед Ірыны Ларыёнавай Іван Геракаў прыехаў у Карэлію з Бабічаў па вярбоўцы пасля фінскай вайны. Захавалася толькі адна ягоная фатаграфія — «пан сахі і касы» з беларускага роду багамазаў. Але ж нашчадкі нашых народных іканапісцаў жывуць і яшчэ недзе. Адгукніцеся!

Палескія багамазы не задумваліся пра загады Сабораў — пісалі, адчуўшы творчую патрэбу, для заробку і для людзей, якім гэта падабалася. Малявалі трэцюю руку на іконе, не задумваючыся, што гэта ватыўнае адлюстраванне рукі святога Іаана Дамаскіна. Атрымалася Багародзіца з трыма рукамі: «Траеручніца» — вельмі папулярны і вельмі шанаваны абраз, падобны да палескай гаворкі ў мастацтве іканапісу, з своеасаблівым акцэнтам.

Пісалі Каранаванне Марыі, рабілі копіі Рафаэлевай Мадонны ў крэсле, капіравалі Хрыста Гвіда Рэні. Пісалі па ўзорах, убачаных у царкве, касцёле, на гравюры, літаграфіі, па памяці. Змешвалі праваслаўнае і каталіцкае, не адмаўляючыся ад свабоды самавыяўлення. Асабісты досвед станавіўся неад'емнаю часткаю калектыўнага. Фарміраваліся ўстойлівыя ўзоры, колеравыя вырашэнні, своеасаблівыя манеры і стылёвыя прыёмы.

Відавочна, што большасць іканапісцаў Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Чарнігаўшчыны, Браншчыны, маючы дэкаратыўнае і кампазіцыйнае чуццё, адчуванне каларыту, графічную вытанчанасць, пры гэтым не была знаёмая са школаю кананічнага іканапісу, не мела нават азоў мастацкай адукацыі, але ці можна гаварыць як пра няварты прымітыў пра тое, чаму сёння варта вучыцца і што мы незваротна страцілі: непасрэднасць бачання, жывасць успрымання, лёгкасць і дакладнасць у выкананні задуманага.

...Дзмітрый Іванавіч, напэўна, асэнсаваў усё сказанае мною і, прыйшоўшы ў майстэрню ў другі раз па адрэстаўраваную ікону, пакінуў на рэстаўрацыю іншую, набытую ўжо свядома. Цяпер у яго калекцыі каля пяцісот узораў іканапісу — цікавая мастацкая з'ява, дасканалым вывучэннем якой у Беларусі яшчэ ніхто не займаўся.

...Магчыма, у гэтым немудрагелістым іканапісе заключанае тое, што звязвае чалавека з цэнтрам яго быцця, з тым, што вышэй і значней за ўсе прафесійныя назвы, вызначэнні, каноны, з тым, што можна адчуць толькі душою... калі ўявіць, што гэта ты ў вясновым разліве вады скачаш з купіны на купіну з вялікаю жэрдкаю ў руках — ад «вострава» да «вострава», пад небам, напоўненным гоманам птушак. У арэале палескіх гаворак.

*У матэрыяле выкарыстаны рэпрадукцыі абразоў са збору Дзмітрыя Сабаніна.*

Тамара Габрусь

# ПРЫГАЖОСЦЬ У ПРАСТАЦЕ



Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай у в. Ельня (Лідскі р-н). Фота 1923 г.

У сваім «Дзённіку» ад 20 кастрычніка 1934 года Язэп Драздовіч пісаў: «Я люблю адведваць невялікія, у вясковай глушы, касцёлкі і царкоўкі, так усё там просценька і шчыра...». Сапраўды, прастата касцёлаў і шчырасць іх вернікаў з'яўляюцца найбольш дакладнымі духоўнымі і эстэтычнымі вызначальнікамі традыцыйных беларускіх парафій. Драўлянае дойлідства на працягу стагоддзяў фарміравала эстэтычнае «калектыўнае несвядомае» многіх еўрапейскіх этнасаў, у тым ліку і беларускага. Нашы продкі нараджаліся і жылі ў непасрэдным кантакце з дрэвам: немаўлятак клалі ў драўляныя начоўкі, з дрэва рабілі лавы, посуд, прасніцы і ткацкія станкі, у апошні шлях нябожчыка адпраўлялі ў драўлянай дамавіне. З дрэва будавалі хаты і храмы, якімі нібы асвячалі ўсё паселішча. Вялікі вопыт цяслярскага майстэрства перадаваўся з пакалення ў пакаленне, дзякуючы чаму захоўвалася вернасць традыцыі.

Айчынныя драўляныя храмы XVII–XVIII стст., залатога веку Рэчы Паспалітай, апрануты ў сціплую «вопратку» народнай творчасці. Тым, хто прызвычаіўся да «багатай» архітэктуры з калонамі, ляпнымі ўпрыгожаннямі, залатымі купаламі і інш., драўляныя святыні могуць падацца нецікавымі. Яны не ўражваюць мудрагелістасцю формаў, але зачароўваюць шчырасцю іх стваральнікаў.

Храмабудаўніцтва з'яўляецца адным з галоўных відаў манументальнага дойлідства, у якім праз архітэктурна-мастацкія формы яскрава выяўляюцца глыбінныя філасофска-светапоглядныя ідэі, сацыяльна-палітычныя і канфесійныя арыенціры. Адметнасць драўлянага храмабудаўніцтва як будаўнічага мастацтва ў тым, што яго эстэтычныя і тэхнічныя характарыстыкі надзвычай цесна знітаваныя — яны ўзаемна абумоўліваюць і дапаўняюць адна адну. Драўляныя храмы Беларусі рубіліся спосабам, агульным для этнаграфічнага будаўніцтва ўсіх славянскіх земляў — гарызантальнымі вянкамі, «у чатыры вуглы», у адрозненне ад звычайнай хаты «ў чысты вугал», без выпуску бярвенняў. Пры гэтым даўжыня

---

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, членА карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

берввяна з'яўлялася жорсткім канструкцыйным модулем, што вызначала агульныя параметры зруба, альбо клеці, у плане блізкіх да квадрата. Паняцце «клець» вядомае з глыбокай старажытнасці — гэты тэрмін трапляецца нават у пісьмовых крыніцах X ст. у значэнні «хата», «камора», «келля» і г.д.

Аднак пры агульным базавым архетыпе клеці мастацка-вобразная трактоўка архітэктурных формаў храмаў розных усходнеславянскіх народаў была істотна адметнаю, што абумоўлівалася рознай сацыяльнай гісторыяй краінаў і рознымі мастацка-стылёвымі ўплывамі. Агульнаю рысаю, характэрнаю для беларускіх драўляных храмаў XVII–XVIII стст. усіх рэгіёнаў і канфесій, з'яўляецца аднолькавая вышыня ўсіх частак сакральнай кампазіцыі, незалежна ад іх шырыні і прызначэння. Такі спосаб арганізацыі аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі вядомы пад тэрмінам «будаваць у адзін рум» (ад ням. *Ruhm — памяшканне*). Усе зрубы звычайна завяршаліся агульным карнізам і накрываліся адзіным шматсхільным дахам, што надавала кампазіцыі маналітнасць і цэласнасць. Генезіс азначанай архітэктонікі храмаў відавочна двухбаковы. З аднаго боку, ён адпавядае прыёмам будаўніцтва сялянскіх жылых і гаспадарчых пабудоваў, мае этнаграфічны характар. З другога боку, ён звязаны з уплывам мураванага дойлідства, імітацыяй у дрэве структуры мураваных аднанававых ці трохнававых базылікальных храмаў, якія маюць сакральную старазапаветную семантыку каўчэга, уласцівую заходнееўрапейскай традыцыі. Таму гэты найбольш пашыраны прынцып арганізацыі архітэктурных формаў і ў драўляным, і мураваным храмабудаўніцтве Беларусі XVII–XVIII стст., можа быць ахарактарызаваны як базылікальная канцэпцыя. Яна істотна адрозніваецца ад канцэпцыі формаўтварэння ў храмабудаўніцтве суседніх усходнеславянскіх народаў. Для драўляных цэркваў рускай Поўначы характэрная так званая комплексная канцэпцыя, заснаваная на спалучэнні зрубаў рознай вышыні з самастойным завяршэннем кожнага з іх у выглядзе кілепадобных «бочак» ці высокіх шатроў, рубленых з круглага бярвення. У драўляным храмабудаўніцтве Украіны базылікальная, ці крыжовая, структура зрубаў аднолькавай вышыні ў эпоху Барока спалучалася з маляўнічай шмат'яруснай будовай верхоў.

Прасцейшы матрычны тып клецевага храма, адназрубавы, генетычна найбольш набліжаны да этнаграфічнай сялянскай хаты, ад якой адрозніваецца крыху большым маштабам і наяўнасцю сакральнага сімвала — аднаго, двух ці трох крыжоў у вянчаючых масах збудавання. Тут усе кананічныя часткі хрысціянскага храма (алтар, малітоўная зала-нава і нартэкс-бабінец) размешчаны ў адзіным аб'ёме, накрытым агульным дахам, звычайна вальмавым (ці стажковым, ад ням. *Walm — стог сена*), са схіламі трохвугольнай і трапецыепадобнай формы. Архаічныя адназрубавыя драўляныя храмы з простакутнай ці трохграннай алтарнай часткаю мелі толькі адзін алтар і звычайна служылі капліцамі: у іх не праводзіліся штодзённыя богаслужэнні, і яны былі прыпісаныя да храмаў з самастойным клірам. Характэрным прыкладам з'яўляецца капліца ў Панёмуні (XVII ст.), якая належала гродзенскаму кляштару бэрнардынаў (яна вядомая па фотаздымку пачатку XX ст.). Капліца мела форму выцягнутага васьміграннікa і была накрытая вальмавым гонтавым дахам з крыжам на вільчыку. У XIX ст. камерны тып адназрубавага храма набыў рысы класіцызму, што выявілася ў афармленні галоўных фасадаў 4-калоннымі порцікамі з пакатымі трохвугольнымі франтонамі. Прыкладам могуць быць адназрубавыя капліцы на могілках у в. Галавачы (Гродзенскі р-н), дзе порцік сфарміраваны пад вальмавым дахам, і ў засценку Лозіна (1814 г., в. Навішчына Барысаўскага р-на).

У трохзрубавым варыянце архітэктоніка клецевага храма лагічна развітая ў адпаведнасці з яго сакральнай трохчасткавай структураю. Пры гэтым захоўваецца традыцыйнае размяшчэнне алтара, навы і бабінца па падоўжнай восі ўсход–захад і злучэнне зрубаў «з водступам ад вугла». Яскравым прыкладам трохзрубавай каталіцкай святыні з'яўляецца **касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў вёсцы Тракелі (Воранаўскі р-н),** які прызначаны санктуарыем Божай Маці Тракельскай (Яе цудадзейны абраз каранаваны 5 ліпеня 2009 г. кардыналам Казімірам Свёнткам). Каталіцкая парафія была заснаваная тут у 1500 г. уладальнікам мястэчка Марцінам Гаштольдам. Першы драўляны касцёл, пабудаваны ў 1680 г., быў перабудаваны ў 1738 г., неаднаразова аднаўляўся, а пазней быў закрыты, але вернуты парафіянам у 1975 годзе. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складаецца з трох зрубаў аднолькавай вышыні, накрытых агульным шматсхільным дахам з вальмамі над прамавугольным бабінцам і пяціграннным прэзбітэрыем. На збегу вальмаў размешчаны сціплыя гранёныя купальныя сігнатуркі. Невысокія сіметрычныя сакрыстыі па баках прэзбітэрыя таксама накрытыя вальмавымі дахамі, падведзенымі пад карніз асноўнага, што стварае выразную гармонію формаў. У ас-



Касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў вёсцы Тракелі (Воранаўскі р-н). Фота 1930-х гг.

ноўным аб'ёме пры ўваходзе на чатырох слупках размешчаны арганныя хоры. Пры аднаўленні святыні ў пачатку 2000-х гг. дах быў пакрыты метала-керамічнаю дахоўкаю, а традыцыйная вертыкальная шалёўка з нашчыльнікамі замененая сайдзінгам, які імітуе гарызантальную шалёўку. Сучасныя матэрыялы, на жаль, пагоршылі мастацкае аблічча гэтага архітэктурнага помніка.

Архітэктурна-мастацтвазнаўчы аналіз шырокага кола помнікаў драўлянага сакральнага дойлідства Беларусі XVII–XVIII стст. выяўляе яскравую колькасную перавагу розных мадыфікацый двухзрубавых храмаў над больш традыцыйнымі і блізкімі да этнічнага будаўніцтва адна- і трохзрубавымі клецевымі храмамі. У архітэктоніцы двухзрубавага варыянта храма традыцыйныя канструкцыйныя прыёмы і кананічная семантыка траіснасці былі мэтанакіравана і творча перапрацаваныя мясцовымі майстрамі, што рабілася з мэтаю надання аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі збудаванняў пэўных стылёвых характарыстык, уласцівых мясцовай прафесійнай мураванай архітэктуры барока. Двухзрубавы тып храма ў часы барока быў пашыраны на тэрыторыі Беларусі і этнічнай Літвы ў будаўніцтве ўсіх хрысціянскіх канфесій, але асабліва шырока ў каталіцкіх і грэка-каталіцкіх. Для даследавання намі ўзятыя не толькі ацалелыя помнікі, але і архіўныя звесткі пра ўжо не існуючыя святыні.

Беларускія храмы рубіліся з цёсанага альбо брусованага дрэва. Для надання пабудове падабенства да падоўжных наваў мураваных святыняў беларускага барока, выгляду «карабля», а разам з тым і семантыкі каўчэга, атрымаў пашырэнне запазычаны з архітэктуры краінаў Цэнтральнай Еўропы прыём зрошчвання драўніны ў плоскасці сцяны, што дазволіла рабіць асноўныя прамавугольныя зрубы-навы значных памераў. Плотніцкая тэрміналогія сведчыць пра тое, што многія будаўнічыя прыёмы прыйшлі да нас праз Польшчу з Нямеччыны. Алтарная частка вылучалася звычайна даволі вялікай пяціграннай апсідай, аднолькавай па вышыні з асноўным аб'ёмам, што імітавала магутныя паўкруглыя апсіды прэзбітэрыяў мураваных касцёлаў. Але часам алтарны зруб захоўваў традыцыйную для этнічнага будаўніцтва прамавугольную форму, у плане блізкую да квадрата. Асноўны зруб і алтарную апсіду звычайна аб'ядноўвала шырокая цяга прафіляванага карніза пад шматсхільным кроквенным дахам з агульным падоўжным вільчыкам. Пры гэтым, з прычыны розніцы ў шырыні зрубаў, у месцы іх злучэння абапал апсіды прэзбітэрыя рабіліся трохвугольныя навісі полкі карніза, «застрэшкі» ці «акопы», якія выразнай святлаценню падкрэслівалі рытм аб'ёмаў. З дапамогаю трохвугольных навісяў і вальмаў над алтарным зрубам кампазіцыя храма набывала надзвычайную маналітнасць і цякучасць, жаданую пластыку «карабля».

Дынаміка вянчаючых масаў храма паступова ўзрастала ад алтарнай апсіды да галоўнага фасада, які адпаведна прынцыпам стылю барока вырашаўся як шырма ці завеса для агульнай кампазіцыі збудавання. Галоўны заходні фасад храма ўяўляў з сябе тарэц прамавугольнага зруба, завершаны над карнізам дашчаным шчытом, які закрываў прастору і канструкцыю кроквеннага даху. Падобныя шчыты вызначаюцца намі як «свабодныя» франтоны, таму што канструкцыйна яны неслі толькі ўласную вагу, без нагрузкі дахавага пакрыцця, якая перадавалася на кроквы, што дазваляла вырашаць завяршэнне фасадаў дастаткова адвольна. Шчыты-франтоны маглі спалучацца з даволі шырокім прычолкам ці з некалькімі прычолкамі, а маглі мець разнастайны малюнак дашчанай абшыўкі (шалёўкі): вертыкальны, ромбападобны, «у елачку» і інш.

Уваход у храм звычайна быў адзіны. Пры гэтым мастацкі акцэнт рабіўся на ўваходных дзвярах. У старажытных інвен-

тарах часам адзначана: «дзверы падвойныя вялікія, сталярскай работы, футраваныя цвікамі» ці «дубовыя, жалезам акуты». Калі былі дадатковыя дзверы, іх наяўнасць таксама адзначалася. Пры ўваходзе ў святыню рабілі ўбудаваны «ўнутраны бабінец», не выяўлены звонку асобным зрубам. Звычайна ўнутраны бабінец быў неглыбокі, але распластаны на ўсю шырыню асноўнага зруба. У далейшым ідэя галоўнага фасада-«шырмы» выявілася ў стварэнні высокага плоскага аб'ёма, фланкаванага дзвюма вежамі, параметры якіх абумоўлівалі глыбіню бабінца. Пры гэтым трактоўка франтона як кампазіцыйна адвольнага элемента разнастайна спалучалася з дзвюхвежавымі завяршэннямі фасадаў.

Дынаміку кампазіцыі збудавання па вертыкалі надавалі невялікія службовыя прыбудовы: «крухта» (уваходны тамбур), па баках алтара — сакрыстыі, якія звычайна размяшчаліся сіметрычна і мелі аднолькавую вышыню. У касцёльных інвентарах адзначаецца: «Па баках прэзбітэрыя 2 сакрыстыі роўна, як сам касцёл высокія, маюць уверсе па акну» (Мікалаева, касцёл св. Юр'я, 1652); «звонку справа ад касцёла каплічка драўляная, крыта саломай, пад ёй склеп мураваны, злева сакрыстыя драўляная невялікая», «сакрыстыя гонтам крыта» (Задвея, касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі, 1697), «сакрыстыі з абодвух бакоў» (драўляны ваўкавыскі касцёл езуітаў, 1784).

Архітэктоніку драўляных двухзрубавых касцёлаў часам узбагачалі і надавалі адпаведную канфесійную семантыку сіметрычныя прыбудовы крылаў трансепта, утвараючы ў плане збудаванняў лацінскі крыж. Вышыня крылаў трансепта вар'іравалася ад вышыні сакрыстый да вышыні навы, калі лацінскі крыж захоўваўся і на ўзроўні карніза збудавання. Гэта дазваляла разнастайна вырашаць кампазіцыю вянчаючых масаў, надаваць святыням непаўторнае аблічча. Пакрыццё прыбудоваў магло вырашацца разнастайна: як працяг схілаў асноўнага даху (Багданаў, Янаў), як аднасхільныя асобныя дахі (Стары Свержань, Трабы) ці падведзеныя пад асноўны дах (Волма, Прывалкі), як двухсхільныя з дыяганальным вільчыкам (Амнішава, Дуды, Лявонпаль), двухсхільныя з перпендыкулярным вільчыкам (Валеўка, Небышын, Ельня), трохсхільныя вальмавыя (Камень, Мсціж, Вялікі Корань, Старыя Васілішкі) і ў розных спалучэннях гэтых варыянтаў (Нача). Серабрыстыя гонтавыя двухсхільныя ці вальмавыя дахі прыбудоваў стваралі гарманічнае суладдзе са схіламі асноўнага даху.

Паводле архіўных інвентароў, для пакрыцця дахаў выкарыстоўваліся разнастайныя матэрыялы: гонт, дранка, цёс, дахоўка; для купалоў і «баняў» — гонт, бляха («белае нямецкае жалеза»); зрэдку — медныя лісты: «купалок дошкамі абіты», «дах драніцамі пакрыты», «салома на капліцы» (Задвея), «гонт, 2 вежы бляхай абіты» (Свіслач, Ваўкавыск).

Вертыкальная шалёўка сценаў дошкамі ці «тарціцамі» з нашчыльнікамі, ці «латамі», што з'яўляецца характэрнаю прыкметаю беларускага драўлянага храмабудаўніцтва XVII–XVIII стст., была не толькі канструкцыйным прыёмам, але і адпавядала мастацкай канцэпцыі стылю барока. Рознае на працягу дня асвятленне мяняла глыбіню рэльефа, стварала кантрасты асветленай паверхні і глыбокіх ценяў альбо тонкія нюансы светла-шэрых тонаў. Пры гэтым захоўваліся натуральныя фактура і колер драўніны, у адрозненне ад сучасных тэндэнцый, ніякага разьбянага дэкору ў вонкавым абліччы драўляных храмаў у той час не рабілі. Уверсе сцены звычайна завяршаліся ордэрным карнізам, які часам дапаўнялі цёсінаю-«падзорам» з шэрагам арачак, што па-свойму імітавалі аркатурныя паясы старажытных раманскіх і візантыйскіх мураваных храмаў.

Вокны звычайна былі прамавугольныя, невялікія, у простых ліштвах з тарціцаў ці злёгку прафіляваныя. У часы барока вокны маглі мець лучковыя перамычкі, накшталт мураваных святыняў. Шкляныя лісты ў вокнах ставіліся ў драўляных рамах, нескладаныя вітражныя кампазіцыі, як пазначана ў некаторых інвентарах, былі «з дробнага шкла ў волаў апраўленыя». З пачатку XIX ст., у перыяд класіцызму, атрымалі пашырэнне паўкруглыя завяршэнні вокнаў ці востравугольныя ў стылі несапраўднай готыкі.

Інтэр'еры беларускіх двухзрубавых касцёлаў былі сціплымі і слаба асветленымі з прычыны лапідарнасці і аскетызму іманентна зададзенай архітэктонікі: «унутры сцены не пафарбаваныя, гладкія, з дрэва будавалі» (Мікалаеўскі касцёл, 1652). Нава звычайна мела плоскую столь з тарціцаў ці невысокае дашчанае корабавае скляпенне. Сціпласць архітэктурнай прасторы кампенсавалася багаццем разьбянага дэкору і сакральнага «драўлянага начыння». Амбоны, алтары і канфесіяналы былі выдатнай «сніцарскай работы», пакрытыя чорным ці зялёным лакам у спалучэнні з пазалотаю. У кампазіцыі і аздобе шмат'ярусных прысценных алтароў шырока выкарыстоўваліся ордэрныя элементы, аканты, завіткі-валюты, картушы, выявы вінаграднай лазы, глыбокія нішы-табэрнакулы для аб'ёмнай скульптуры і

пышныя фігурныя завяршэнні — рэтаблі. У апісаннях драўляных святыняў часам адзначаецца, што сафіты дашчаных скляпенняў ці плоскай столі, алтары, хоры «аптычна намаляваныя» альбо размаляваныя «на оптыку» з мэтаю візуальнага павелічэння і стварэння эфекту адкрытасці і святла ва ўнутранай прасторы. Свядомае выкарыстанне аптычных эфектаў сведчыць пра глыбока ўспрынятыя мастацкія прынцыпы стылю барока.

Над бабінцам мясціліся музычныя хоры, абапертыя на два ці болей слупкі, часам у выглядзе аркады; абапал бабінца былі хрысцільня і лесвіца на хоры. Вельмі цікавае інвентарнае апісанне 1652 г. (на лацінцы) унутранага бабінца касцёла св. Юр'я ў мястэчку Мікалаева (Іўеўскі р-н): «Хоры над дзвярмі касцёльнымі з балясаў точаных зроблены, на моцных слупах драўляных абапёрты. З аднаго боку ўнізе ўваход, з другога хрысцільня, зробленая без належных прапорцый». Апошняя заўвага сведчыць пра існаванне ў функцыянальным і кампазіцыйным вырашэнні храмавага будынка пэўных «належных» прапорцый. У шэрагу інвентароў драўляных святыняў пазначана: «над бабінцам хор для кантараў» (задвейскі касцёл, інвентар 1697 г.), «над унутранай крухтай хор» (ваўкавыскі касцёл езуітаў, інвентар 1712 г.). У інвентары 1724 г. драўлянага касцёла ў Сталовічах (Баранавіцкі р-н) адзначана, што «хорак размаляваны патрабуе рамонту».

Яшчэ адным з важных мастацкіх прынцыпаў барока з'яўляецца стварэнне разгорнутага архітэктурна-прасторавага храмавага ансамбля. Касцёл заўжды займаў галоўнае месца ў планіровачнай структуры населенага пункта. Яго тэрыторыя з невялікімі могілкамі (цвінтаром) вылучалася драўлянаю ці мураванаю агароджаю з брамаю, якая часам спалучалася са званіцаю. Вось некалькі фрагментаў са старажытных інвентароў помнікаў XVII–XVIII стагоддзяў: «уваход ад рынка праз дашчаную браму з жалезнымі кратамі» (Наваградак); «агароджаны парканам драўляным з гонтавым дашкам. 2 брамкі крыты гонтам, у іх форткі» (Мінск); «цмянтар агароджаны парканам з брамай» (Нясвіж); «цмянтар парканам добрым абведзены з острангладаў» (жэрдак. — Т.Г.) (Мікалаева, 1652); «цмянтар бярвеннямі вакол агароджаны, на ім званіца аб трох кандыгнацыях» (Давыд-Гарадок, 1649); «званіца, цвінтар у агарожы паваленай» (Сталовічы, 1724); «увесь касцёл штакетам апарканены» (Свіслач, 1804).

Асноўным прынцыпам узбагачэння і развіцця архітэктурнага ансамбля часоў барока была асобна пастаўленая званіца, нават пры наяўнасці высокіх вежаў на галоўным фасадзе храма. У інвентарах неаднаразова адзначаецца, што званіцы былі пабудаваныя «на вязанні ў квадрат» (гарызантальнымі вянкамі) ці «аб чатырох слупах» (каркаснымі), альбо былі змяшанага тыпу з ніжнім зрубавым ярусам і слупковым верхнім (ці двума верхнімі), якія падзяляліся прычокамі і былі накрытыя пакатым шатром-«каўпаком», «абітыя гонтам»: «Ля ўвахода званіца, крыта гонтам» (Мінск); «непадалёку званіца драўляная старая, звонку падпёрта, гонтам крыта» (Нясвіж, 1804); «перад касцёлам званіца аб чатырох слупах, яшчэ моцная, апарканення добрага вакол няма» (Задвея, 1697); «На вуглу першай грані паркана званіца драўляная на вязанні ў квадрат, ... абіта гонтам, трымаецца падпоркамі, мае 2 кандыгнацыі» (Нясвіж, інв. 1688 г., касцёл Міхала Арханёла). Ніжні ярус званіцы часта выкарыстоўваўся як уваходная брама на тэрыторыю храма.

З айчыннай рэлігійнай і архітэктурнай гісторыі відавочна, што першыя касцёлы ў большасці населеных пунктаў, дзе былі заснаваны каталіцкія парафіі, будавалі ў дрэве. Пазней яны часта перабудоўваліся, але мясцовая будаўнічая традыцыя захоўвалася. Пры наяўнасці галоўных традыцыйных прыёмаў стварэння архітэктурна-мастацкага вобраза беларускіх драўляных каталіцкіх храмаў часоў барока, архітэктура кожнага з іх мае свае непаўторныя мастацкія рысы. Прыкладаў двухзрубавых драўляных касцёлаў з архаічным «стажковым» дахам, які мае вальмы і над апсідаю прэзбітэрыя, і над галоўным фасадам, мала, і яны паўтараюць вобраз папярэдніх святыняў, што неслі традыцыю ад часоў заснавання парафіі.

Драўляны парафіяльны **касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Зяльвяны (Зэльвенскі р-н)** пабудаваны князямі Агінскімі ў 1635 годзе. На яго месцы ў 1796 г. быў пастаўлены новы двухзрубавы храм пад агульным гонтавым дахам з вальмамі над алтарным зрубам і гранёнаю сцяною галоўнага фасада. У месцы злучэння асноўнага і алтарнага зрубаў былі глыбокія трохвугольныя застрэшкі. Галоўка з крыжам у цэнтры вільчыка надавала кампазіцыі верха сіметрыю. Касцёл не захаваўся, вядомы па фотаздымку пачатку XX ст.

Каталіцкая парафія ў **в. Мсцібава (Ваўкавыскі р-н)** была заснаваная каралевай Бонай у 1512 годзе. Драўляны **касцёл Яна Хрысціцела** пабудавалі ў канцы XVIII ст. (вядомы па фотаздымку пачатку XX ст.). У ім спалучаліся рысы народнага дойлідства, барока і класіцызму. Храм складаўся з амаль квадратнага ў плане асноўнага і пяцігранннага алтарнага зрубаў

аднолькавай вышыні, але кожны са зрубаў меў самастойны шатровы гонтавы дах. Над асноўным зрубам узвышалася невялікая чацверыковая вежачка з шатром і высокім штыберам. На месцы гэтага касцёла ў 1910—1919 гг. быў змураваны новы касцёл у неараманскім стылі.

Некаторыя старажытныя каталіцкія святыні мелі галоўныя фасады, завершаныя «свабоднымі» фігурнымі франтонамі, і былі падобнымі да вялікай маляўнічай брамы, як, напрыклад, драўляны **касцёл Міхала Арханёла ў Багданаве (Валожынскі р-н),** пабудаваны па фундацыі Пятра Міхала Паца, старосты жмудскага, тагачаснага ўладальніка маёнтка, і асвячоны ў 1690 г. (на званіцы былі званы з гэтаю датаю). У 1792 г. касцёл стаў парафіяльным, быў разрабаваны ў 1812 г., аднаўляўся ў 1846 г., знішчаны пажарам у 1944 годзе. На яго падмурках у 2000-х гг. пастаўлены новы будынак з сілікатнай цэглы.



Фердынанд Рушчыц. «Касцёл у Багданаве». 1900 г.
Нацыянальны музей у Кракаве.

Помнік вядомы па фотаздымках 1930-х гг. сяброў віленскага Таварыства аматараў навукі і карцінах вялікага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца, апошняга ўладальніка Багданава, які пахаваны на могілках непадалёку ад касцёла. Будынак храма звонку нагадваў сялянскую хату. Прамавугольны асноўны зруб і пяцігранны алтарны былі накрытыя агульным кроквенным дахам, схілы якога працягваліся на больш нізкія бакоўкі сакрыстый, што надавала збудаванню тэктанічную цэласнасць і маналітнасць формаў. У месцы злучэння зрубаў быў выкарыстаны распаўсюджаны прыём трохвугольных навісяў даху. Галоўны фасад завяршаўся барочным франтонам пругкага шматлопасцевага абрысу. Сцены былі вертыкальна ашаляваныя дошкамі з нашчыльнікамі. Над уваходам мясцілася ромбападобнае акно, што асвятляла хоры над бабінцам. Па восі ўвахода стаяла двух'ярусная званіца-брама (чацверык на чацверыку), накрытая пакатым шатром. Скразны верхні ярус аформлены ў выглядзе аркады. Званіца ацалела да нашага часу, але яе гонтавае пакрыццё зменена на бляшанае. Архітэктурнае вырашэнне ансамбля вызначаецца лаканізмам і выразнасцю мастацкіх формаў, што захаплялі вялікага мастака.

**Місія ордэну францішканаў у в. Завішына (Лагойскі р-н)** была асаджаная тут у 1670 г. М. Завішам. Драўляны **касцёл св. Антонія Падуанскага,** пабудаваны ў 1770 г. па фундацыі новых уладальнікаў маёнтка Валовічаў, быў асвячоны ў 1808 г. як парафіяльны, але ў 1863 г. перададзены праваслаўным. Двухзрубавы бязвежавы храм з прамавугольнаю наваю, пяцігранаю алтарнаю апсідаю і ўнутраным бабінцам быў накрыты агульным шматсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Сіметрычныя сакрыстыі, роўныя па вышыні з алтарным зрубам, надавалі збудаванню выгляд лацінскага крыжа. Франтон на галоўным фасадзе меў пластычны барочны абрыс і завяршаўся невялікай трох'яруснай сігнатуркай.

Драўляны **касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай у в. Ельня (Лідскі р-н)** быў пабудаваны ў 1788 г. пры кляштары дамініканаў, заснаваным ў 1697 г. па фундацыі Зоф'і Марыі Адахоўскай. Зачынены, як і ўсе дамініканскія кляштары, у 1832 годзе. Касцёл з 1837 г. парафіяльны, існаваў да Першай сусветнай вайны. Вядомы па фотаздымку Я. Балзункевіча пачатку XX ст. Гэта быў двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з прамавугольным асноўным і пяцігранным алтарным зрубамі, накрытымі агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і вялікімі трохвугольнымі застрэшкамі. У канцы XIX ст. да навы прыбудавалі мураваныя



Касцёл св. Апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў в. Лаздуны (Іўеўскі р-н). Фота пачатку XX ст.

рамёны трансепта пад больш нізкімі двухсхільнымі дахамі. Першапачаткова меў вялікія вокны з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі і традыцыйную вертыкальную шалёўку сценаў і франтона, які ўвенчваўся невялікаю сігнатуркаю. Такую ж шалёўку мела трох'ярусная чацверыковая званіца-брама, накрытая шатром-«каўпаком», размешчаная па восі ўвахода ў храм.

У **в. Лаздуны (Іўеўскі р-н)** каталіцкая парафія была заснавана ў 1576 г. Альбрэхтам Радзівілам. У 1746 г. быў пабудаваны драўляны парафіяльны **касцёл св. Апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша**, перабудаваны ў 1791 годзе. Выгляд святыні вядомы па фотаздымку пачатку XX ст. Двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі з прамавугольнаю наваю і пяціграннным зрубам прэзбітэрыя накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і свабодным франтонам. Пастаўлены з бруса, не ашаляваны. Франтон вертыкальна зашыты дошкамі. Перад касцёлам стаяла мураваная трохпралётная арачная брама ў стылі барока (захавалася). У 1904–1910 гг. замест старога драўлянага касцёла быў узведзены новы з элементамі неараманскага стылю, змураваны з цэглы і бутавага каменю, які дзейнічае і сёння.

Драўляны **касцёл на могілках у в. Варонча (Карэліцкі р-н),** пабудаваны ў канцы XVIII ст., не захаваўся. Вядомы паводле фотаматэрыялаў Віленскага таварыста аматараў навукі. Гэта быў тыповы двухзрубавы храм базылікальнай канцэпцыі са свабодным франтонам. Роўныя па вышыні прамавугольны асноўны і пяціграннны алтарны зрубы аб'ядноўваліся агульным дахам з трохвугольнымі застрэшкамі ў месцы злучэння. Пад іх былі падведзены аднасхільныя дахі сіметрычных сакрыстый, зробленых у адну лінію з асноўным зрубам. Над трохвугольным франтонам галоўнага фасада мясцілася маленькая сігнатурка.

Падобную архітэктоніку меў драўляны **касцёл на могілках у в. Воўкавічы (Наваградскі р-н),** верагодна, таксама XVIII ст. Адрозненне было ў сіметрычных прыбудовах сакрыстый з крутымі вальмавымі дахамі, падведзенымі пад трохвугольныя застрэшкі абапал пяціграннага прэзбітэрыя. Быў не ашаляваны. Пры ўваходзе меўся ганак на 2-х слупках. Не захаваўся. Выява вядомая паводле фотаздымка пачатку XX ст.



Касцёл на могілках у в. Варонча (Карэліцкі р-н).

*Заканчэнне будзе.*

# Стаў сапраўднай легендай...

## *Слоўца ад перакладчыка*

Бялыніцкі касцёл стаў ужо сапраўднай легендай, а прысвечаны яму прачулы верш Габрыэлі Пузыні з глыбіні XIX стагоддзя даносіць тую легенду да нас і робіць яе несмяротнай. Гісторыя бялыніцкага касцёла, можна сказаць, цалкам падзяляе велічны і трагічны лёс нашае Бацькаўшчыны...

Калі мне пашчасціла знайсці бібліяграфічную згадку пра верш графіні Габрыэлі, прысвечаны касцёлу ў Бялынічах, знайсці ў архіўных сховішчах Кракава і Вільні сам верш (яго рукапіс і публікацыю ў газеце «*Kuryer Wileński*» за 29 студзеня 1860 г.), захапіцца ім і з ласкі Пана Бога перакласці на беларускую мову гэтую вершаваную перліну, найшчыльнейшым чынам звязаную з нашым краем, мне, натуральна, захацелася паехаць у Бялынічы і падзівіцца на тую велічную святыню, якую называлі ў даўнія часы беларускай Чэнстаховай, і памаліцца ў ёй. Якое ж было маё здзіўленне і расчараванне, калі, адкрыўшы грунтоўны энцыклапедычны ілюстраваны даведнік «Каталіцкія храмы на Беларусі» (Мінск, 2000), я не пабачыла ані яго выявы, ані згадкі пра яго!

У чым справа? Адказы прыйшлося шукаць у іншых выданнях, да якіх адсылаем таксама зацікаўленых чытачоў: брашуры «Белыничскій Рождество-Богородицкій монастырь» Фёдара Жудро, выдадзенай у Магілёве ў 1894 г., артыкула «Бялыніцкі кляштар кармелітаў» Аляксандра Ярашэвіча ў 2-м томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мінск, 1994) і кнігі «Памяць. Бялыніцкі раён» (Мінск, 2000), дзе можна атрымаць вычарпальныя звесткі пра святыню, якой ужо, на жаль, няма. Які ж быў яе лёс? Спынімся коратка на галоўным, паводле вышэй азначаных крыніцаў.

Існаванне касцёла ў Бялынічах звязваецца з заснаваннем у гэтым мястэчку ў 1624 г. Л.Сапегам кляштара кармэлітаў, які праіснаваў да 1832 года. Касцёл, па ўсёй верагоднасці, спачатку драўляны, магчыма, існаваў раней. Мураваны касцёл быў пабудаваны, як і мураваныя будынкі кляштара, у 1742–1761 гг., паколькі ў 1742 г. усе драўляныя пабудовы згарэлі. У 1763 г. касцёл Унебаўзяцця Маці Божай быў кансэкраваны. Уладальнікамі Бялынічаў на той час былі ўжо Агінскія. У касцёле знаходзіўся цудоўны абраз Маці Божай Бялыніцкай, паходжанне якога і час з'яўлення ў мястэчку ахутаныя таямніцаю і маюць некалькі версіяў. Важным момантам у шэрагу перыпетыяў, звязаных з найсвяцейшым абразом, была яго каранацыя ў 1761 г., з гэтага часу мураваны касцёл і цудадзейны абраз у ім робяць бялыніцкую святыню месцам масавых паломніцтваў вернікаў, цэнтрам духоўнага жыцця краю. Тут адбываюцца шматлікія ўрачыстыя фэсты і велічныя працэсіі, тут жа знаходзілася і месца пастаяннай рэзідэнцыі папскага нунцыя.

Страшны пажар у Бялынічах у 1859 г., калі касцёл таксама гарэў, што і стала цэнтральнай тэмай верша Габрыэлі Пузыні, згадваецца ва ўсіх пісьмовых крыніцах, але пасля пажару касцёл быў неўзабаве рэстаўраваны і дзейнічаў, захоўваючы свой статус цудоўнай каталіцкай святыні яшчэ пасля паўстання 1863 года. Спробы зачыніць касцёл актывізаваліся ў 1867 г., і ўрэшце ў 1876 г. ён быў аддадзены праваслаўным і стаў царквою Раства Багародзіцы. У савецкі час святыня была зачыненая, у 1930-я гг. яе ператварылі спачатку ў клуб, потым у склад. Тым не менш будынак ацалеў у Другую сусветную вайну, аднак у чарговую хвалю барацьбы з рэлігіяй у 1960-я гады ён быў зруйнаваны, у 1970-я такі ж лёс напаткаў і муры колішняга кляштара кармэлітаў (у ім з 1877 г. і да савецкага часу быў мужчынскі праваслаўны манастыр). Невядомым дагэтуль застаецца, паводле звестак А. Ярашэвіча, лёс цудатворнага абраза Бялыніцкай Божай Маці.

Якую ж удзячнасць мы, нашчадкі, мусім адчуваць да арыстакраткі паводле духу і паходжання — натхнёнай паэткі нашага краю ў XIX ст. Габрыэлі з Гюнтараў Пузыні — за тое, што адарыла нас, сярод іншых сваіх прыгожых твораў, вершам «Касцёл у Бялынічах», дзе ва ўзрушаным паэтычным слове ажывае і жыве больш чым праз сто гадоў зруйнаваная злачыннымі людскімі рукамі святыня, жыве і прамаўляе да нас, быццам кліча да сваёй адбудовы... Хаця б напачатку — у душах, хаця б ва ўяўленні...

*Ірына Багдановіч*

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), «Залатая Горка» (2016), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

Габрыэля Пузыня

# КАСЦЁЛ У БЯЛЫНІЧАХ

*Верш, напісаны з прычыны пажару ў гэтым касцёле ў жніўні 1859 года*

**I.**

Што ж там бялее на фоне нябёсаў,
Што ззяе ў золаце сонечных косаў?
Куды вядзе той гасцінец-дарога?
— То да святыні, услаўленай цудам,
Ўзнесенай некалі з вераю людам
На чэсць Марыі — на хвалу Бога!
— Краю крыніца адна з найчысцейшых,
Брама да раю адна з найбліжэйшых,
Ласкаў скарбні́ца,
Долі слязніца,
Крыло, «пад якое ўцякаем», таксама
Сястра Жыровіцаў, Вострае Брамы,
Яснай Гары, што над імі святліцца, —
То адзін з тронаў, працаю люду
Ўзнесены Пані Нябёс — на зямліцы,
Дзе бачна веліч Божага цуду,
І не адужаць гэтай хвалы нічым —
Гэта Марыі трон, гэта — Бялынічы!

**II.**

Што ж там крывавіць на фоне нябёсаў?
Што значыць роспач тысячы лёсаў?
Той звон трывогі, звон небяспекі
І плач той моцны, і крыкі-енкі?
Што значаць іскраў узлёты-ўзвівы
І дым, што засціць усё, жахлівы?
На небе ж, ясным яшчэ і чыстым,
Гмах выглядае малюнкам агністым:
Цуды, што творыць абраз там, не вылічыць...
Што ж там гарыць? Гэта — Бялынічы!
Чаму ж? Ах, чаму там натоўп пабожны
Слязьмі пажару згасіць не можа?!
І раптам крык, быццам кліч анёла,
«Абраз ратуйце!» — І дзверы касцёла
Юнак далонню скрушыў! Ўміг у сховы
Натоўп імкнецца... на смерць гатовы!
Бо так яму дарагі спрадвеку
Абраз цудоўны, яго апека!
Святая Марыя! У тыя хвіліны
Ты бачыла з неба адданасць люду,
І толькі Табе, Табе мы павінны
За ласку новага цуду!
Нібы з абраза Ты сышла, жывая
Між намі стала, уся Святая,
І люд Твой верны, між енку, плачу,
Цябе не ў небе, а побач бачыць!
— Яна! Між намі! — Крычаць натхнёна. —
Яе то ўсмешка! Яе карона! —
Ўгару ўзнялася... Люд блаславуляе,
Знікае... Ў сэрцы ж спакой вяртае!
Агонь праз вокны ў касцёл уварваўся,
Ільвом драпежным на ўсё кідаўся,
Сваю здабычу дарэшты вынішчыў...
Што ж — папялішчам? Гэта — Бялынічы!

**III.**

Што ж зноў святлее на фоне нябёсаў?
Зноў ззяе ў промнях сонечных косаў?
— То вежаў знаёмых новыя вярхоўкі —
Новы вулей для Маці зляпілі пчолкі!
Хто ўзнёс касцёл той? Дзіўнае пытанне!
Паўстаў касцёл той з Тваёй волі, Пане!!!
Вышэй за ўсе тыя вежы і дахі,
Ясней за ўсе залацістыя бляхі
Стаіць святыня — велічы не змераць!
Яе вартуюць любоў і вера!
Святыня ззяе ў каштоўных шатах,
Ды для зямнога не бачная вока,
Бо ў сэрцы нашым яе пачатак,
І так, як Неба, яна высока!
Як жа назваць той касцёл багаты,
Што сцеражэ нашы сем'і, хаты?
На якім шчасце людзей збудавана,
Смерць пры якім з весялосцю з'яднана?
— Верай — надзеяй — брамай трывання!
Святым запаветам яднання!
Братняй любоўю, ахвярай служэння,
Чыстасцю сэрцаў, жаданняў, сумлення! —
Ў такім касцёле хто Бога хваліць,

Як нават бачны касцёл хто спаліць,
Адновіць хутка дах, сцены, дзверы,
Бо ў сэрцы ззяе праменне веры!
Агонь ачысціў пабожных цноту,
Збудзіў здранцвенне, надаў ахвоту
Святыню з друзу ўзняць шпарка, годна
Каб дыхаў дух тут святы свабодна!
Ізноў спачыць пілігрыма кліча
Святыня з Маці Святой абліччам.
І не адужаць гэтай хвалы нічым —
Той касцёл новы — гэта Бялынічы!

**IV.**
Зараз і вас я спытаю, о брацці:
Ці ратаваць Найсвяцейшую Маці
Беглі ў Бялынічы вы ў час пажару,
Каб і сваю там пакінуць ахвяру?

Ці мы зладжылі свой дар, хоць маленькі,
Там, дзе пажар нішчыў сцены і енкі?
Наша рука хоць камень ці прынесла,
Каб найхутчэй там святыня ўваскрэсла?

О, нават грош адзін, шчыра адданы,
Хоць адно «Веру...» ці «Будзь прывітана...»,
Але ўсе разам ў Імя Тваё, Пане, —
І касцёл Божы з руіны паўстане!

Думку маю, як аплатку, раздайце
З верай, браты! Ў ёй — ратунак!
І хоць з найменшай падмогай спяшайце —
Быў бы з любоўю дарунак!

*Гарадзілава, 16 студзеня 1860 г.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*



Касцёл кармэлітаў у Бялынічах.
Малюнак 1900 г.



Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля.
Фота Антона Бархаткова.
Пачатак 1950-х гг.
Друкуецца ўпершыню.

Лідзія Камінская

# У суладдзі з Божым светам

*Да 145-годдзя з дня нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі*

Альбом «Музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі» (Мінск, 1988) мне падарыла мая студэнцкая сяброўка Ніна Тарэлкіна — кандыдат філалагічных навук, выкладчыца Гродзенскага ўніверсітэта, якая, на жаль, вельмі рана сышла з жыцця. Будучы інтэлігентным чалавекам, яна памятала, што чужыя кніжкі не прынята падпісваць, а таму паклала ў альбом мілую паштовачку з бела-ружовую яблынькаю на зялёным полі, расквечаным жоўтымі дзьмухаўцамі, і сярод іншага напісала: «Няхай пейзажы нашага мастака паспрыяюць суладдзю думак і суразмернасці пачуццяў». Я бяру ў рукі гэты альбом, калі раптам востра адчуваю Німіну адсутнасць у свеце і, патрымаўшы паштоўку з яе лёгкаю энергетыкаю, пагартаўшы альбом, часам сапраўды прыходжу да «суразмернасці пачуццяў» — усе мы рана ці позна знікнем з зямных пейзажаў... Але што мы пакінем пасля сябе? У чым растворацца наша дыханне, нашы пачуцці, наша існаванне ў Божым свеце? Зрэшты, наша ўдзячнасць Яму за кароткае зямное падарожжа...

Вітольд Бялыніцкі-Біруля пакінуў пасля сябе каля 1000 жывапісных палотнаў, эцюдаў і эскізаў — можна сказаць, што такім чынам увасобілася яго ўдзячнасць Богу за простую (але не ўсім дадзеную!) магчымасць, уменне, талент бачыць зямное хараство — вясну, лета, восень, зіму. І зноў — вясну...

Будучы акадэмік жывапісу (1908), народны мастак БССР (1944) і РСФСР (1947) Вітольд Каятанавіч Бялыніцкі-Біруля нарадзіўся ў 1872 г. у бацькавай сядзібе Крынкі Аршанскага павета (цяпер вёска ў Бялыніцкім раёне), а каля Бешанковічаў, дзе я скончыла школу, у Быстрэі, быў маёнтак Чарноцкіх, які належаў бацькам яго маці — яны былі каталікамі. Калі бацькі мастака жылі на Віцебшчыне ў Краснаполлі, у іх нават была свая капліца. Бацька быў вельмі пабожны, і ўся сям'я жыла ў строгасці. Некаторы час бацька служыў у параходстве і браў Вітольда з сабою ў падарожжа па рэках, і тады шчасцю абодвух не было межаў — прыроду будучы мастак з маленства любіў больш за ўсё на свеце...

Паводле архіўных дакументаў («Оршанский гербовник», Витебск, 1900), на якія спасылаецца «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (Мінск, 1994, т. 2), мастак паходзіў са шляхецкага роду герба «Бялыня» — на блакітным полі гэтага герба паміж рожкамі паўмесяца намаляваны залаты крыж, а вышэй — страла вастрыём угору. Роду Бялыніцкіх-Біруляў, які вядомы па дакументах з XVI ст., належалі ўладанні ў Віцебскім і Аршанскім паветах. З гэтага роду паходзіў вядомы вучоны-на-

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978-1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980-1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986-1992), у часопісе «Роднае слова» (1992-2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.

тураліст, падарожнік Аляксей Бялыніцкі-Біруля (1864–1937), сваяк мастака, які ў 1900–1903 гг. прымаў удзел у вялікай Палярнай экспедыцыі і ўпершыню апісаў расліннае покрыва мыса Чалюскін. Менавіта змест герба Бялыніцкіх-Біруляў стаў назваю для аповесці-эсэ Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе» (Мінск, 1991), прысвечанай знакамітаму мастаку (праўда, на гербе не поўня, а маладзік).

Магчыма таму, што ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў Мінску нязменна вісіць карціна «Зімовы сон. Блакітная капліца» (1912), многія мінчане ўспрымаюць В. Бялыніцкага-Бірулю як майстра зімовых пейзажаў. Між тым, яго любімым вобразам была вясна, і ў першых пейзажах мастака яна займае асноўнае месца, а ўсяго ёй прысвечана каля 200 палотнаў. Адметна, што, нягледзячы на пахмурнасць асобных пейзажаў («Пахмурны дзень», 1892; «Сакавіцкае змярканне», 1903; «Пачатак вясны», 1905), у іх няма песімізму, бо над цёмнымі выявамі панылых хатаў, вады, зямлі, дрэваў і стомленага снегу пануе прасветленае неба, якое ціха сцвярджае неадменнасць хуткага абуджэння прыроды, пераможнасць святла, якім напоўненыя карціны «Пачатак вясны» (1910), «Ранняя вясна» (1919), «Квітнеючы сад» (1907). Некаторыя мастацтвазнаўцы пісалі, што ва ўмовах сацыяльнага проціборства ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. вобраз вясны праецыраваўся мастаком на грамадства і сцвярджаўся як сімвал трыумфу дабра над злом. Магчыма, і так, але ціхая, някідкая лірычнасць пейзажаў В. Бялыніцкага-Бірулі настолькі адразу запалоньвае душу, што не прыходзіць у галаву звязваць яго вёсны з сацыяльнаю абвостранасцю ў грамадстве. «Ён шмат гадоў, — піша В. Карамазаў, — шукаў сваю цішыню,



«Дача ў садзе». Палатно, алей, 96 x 117.
Кастрамскі дзяржаўны аб’яднаны мастацкі музей.

каб ёю адгукнуцца на вечны спакой Левітана. Цішынёю — на вечны спакой... У Мюнхене на выстаўцы загаварылі пра яго як пра майстра срабрыста-перламутравага паветра, якое маўчыць і звініць, як жалоба струны... Ніхто не зразумеў, што гэта не тон, а гук, той самы гук, які ў ім, Бірулі, прадбачыў адно Левітан, калі пытаўся і патрабаваў: “Дзе ваш гук? Я прывык чуць у вас гук на эцюдах”... І вось цяпер, толькі цяпер, у міг цішыні, ён загучаў на карціне так, як раней гучаў у сэрцы. Левітан адно не прадбачыў, што гэты гук у свой час, у час цішыні, ператворыцца ў звон царквы Мікола на Стане, і гэта будзе ўжо не міг цішыні, а звон над вечным спакоем самога Левітана... І цяпер ён, вучань, ведаў, што таямніцу настаўніка нарэшце спасціг».

Загадка карціны І. Левітана «Над вечным спакоем» так замучыла В. Бялыніцкага-Бірулю, што ён за 400 кіламетраў ад Масквы купіў зямлю на беразе возера Удомля, адкуль Левітан убачыў свой «вечны спакой», і паставіў там дом... Можа таму, для мяне было адкрыццём, што В. Бялыніцкі-Біруля, талент якога фармаваўся пад уплывам І. Левітана, яго настаўніка і куміра, Біруля, які сябраваў з Жукоўскім і Рэпіным, напісаў «Люты ў Маскве. Бой ля Нікіцкіх варот» (1923), эцюды на тэму рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і «Азоўсталі» (1930-я гады) і цыкл «Запаляр’е» (1930-я гады), і «Кіраўскі апатытавы руднік» (1937), але звярніце ўвагу на даты ў дужках, і многае растлумачыцца: здрада сацрэалізму паграджала канцлагерам... Ён маляваў не толькі пушкінскія і талстоўскія мясціны (Леў Мікалаевіч прыходзіў у іх мастацкую вучэльню), але таксама і ленінскія (згадаю, што наш выдатны паэт Анатоль Вялюгін напісаў таленавітую паэму «Вецер з Волгі»). Як слушна сказаў вядомы дзяржаўны дзеяч, жыць у грамадстве і быць не залежным ад грамадства нельга, і месца мастака, як дружна пісалі савецкія газеты, — на будоўлях веку. Але ў пейзажах, прысвечаных ленінскім мясцінам, пануе ўсё той жа ўласцівы мастаку лірызм,



«Квітнеючы сад». 1907. Палатно, алей.
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

усё тая ж цішыня, і толькі назвы пад карцінамі нагадваюць, што гэтыя мілыя трапяткія краявіды «належалі» Уладзіміру Ільічу. А яшчэ думаецца пра тое, што людзі прыходзяць і сыходзяць, а створанае Богам хараство прыроды непрамінальнае, вечнае. І рэвалюцыя, і нават самая доўгая вайна калі-небудзь скончацца, а вясна — бясконцая. Пра гэта думаецца каля карціны «Беларусь. Зноў зацвіла вясна» (1947), на якой у полі, дзе ўжо квітнеюць белым цветам тонкія яблынькі, так злавесна-кантрасна выглядае пахілены, абгарэлы фашысцкі танк — жыццё і смерць, дула якой усё яшчэ скіраванае ў жыццё, у наіўную безабароннасць яблынькаў. На гэтай жа карціне на вузкай звілістай дарожцы ў далечыні намаляваныя людскія фігуркі — такія непрыкметныя, нязначныя ў параўнанні з грувасткім злом, увасобленым у выяве танка, усяго толькі падарожнікі на вечнай зямлі...

Адметны цыкл палотнаў, створаных мастаком у Запаляр'і і на Архангельшчыне ў 1930–1940-я гады. «Мастак адкрывае Поўнач, — піша Віктар Карамазаў, — такой, якою бачыць толькі ён, Біруля... Палітра мастака ўсё роўна як чакала поўначы з яе маразамі, снягамі, вятрамі, заледзянелымі і заінелымі контурамі, агорнутымі бляклай марской сінечаю і мёртвай цішынёю, штармавымі хвалямі з каронамі смяротна-жоўтай пены, марознай імглою, заснежаным небам, па вертыкалі прашытым срабрыста-жамчужным ззяннем. Новы свет раптам выявіў яшчэ большую разнастайнасць і насычанасць любімых срабрыстых тонаў, увесь іх спектр, у якім нават тераічнае вяртанне з таго свету ледакола «Садко» не прыглушала тонкага лірычнага пачуцця <...> Ён піша незямную цішыню Поўначы, часам — яе немату, якая ледзяніць сэрца».

У карцінах гэтага часу дамінуе не прырода, а адзінокія цэрквы на фоне высокага, месцамі прасветленага, халоднага неба. Яго цэрквы, нібы зачэпленыя за зямлю — так мала яе на палатне. Мастацтвазнаўцы пішуць, што ў гэты час В. Бялыніцкі-Біруля быў захоплены драўляным дойлідствам паўночнай Расіі, жанрам мемарыяльнага пейзажа, але, напэўна ж, вызначальным было тое, што ў рэпрэсіўна-ваенны час, калі людзі вырубаліся, як безабаронныя дрэўцы, вочы мастака шукалі апірышча ў абарончых сілуэтах цудам ацалелых цэркваў з высока ўзнесенымі крыжамі. Прыехаўшы з Расіі ў Беларусь вясною 1947 года, мастак будзе шукаць гэтыя абарончыя Божыя знакі ў мінскіх ваколіцах, але на яго карціне «Сенніцкая царква» (1947) ёсць толькі царква — без крыжоў. Праўда, яна нібы ўзятая пад ахову пяшчотнаю вясноваю квеценню, яркаю зялёнаю травою і ціхім, чыстым, спагадлівым небам.

Мінск у 1947 годзе яшчэ стаяў у руінах, і Бірулю прапанавалі для жытла дом у Курасоўшчыне, які раней належаў генералу Курасаву і называўся Белаю дачаю. Каля дома быў парк і яблыневы сад, а пад акном стаяла службовая легкавушка Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі, якую ён прапанаваў для карыстання дарагім гасцям, — Біруля прыехаў з маладым мастаком, былым партызанам Антонам Бархатковым, які быў не проста адным з яго вучняў, а тым, каго Біруля пасля вайны заўважыў сам, успрыняў як свой працяг у жывапісе, сагрэў сваёю сардэчнасцю і гасціннасцю (А. Бархаткову прысвечана аповесць В. Карамазава «Антон», якая выйшла ў выдавецтве «Про Хрысто» ў 2006 годзе).

Тады, у маі 1947-га, Біруля разам з жонкаю і Антонам Бархатковым сустрэўся і з Якубам Коласам, а праз год, таксама ў маі, знакаміты творца прыедзе ў Мінск на першы пасляваенны з'езд мастакоў, на якім з трыбуны скажа, што «мастацкая крытыка прыніжае лепшых мастакоў-рэалістаў, якімі мы павінны ганарыцца», — так ён даў адлуп тым, хто сцвярджаў, што заснавальнікам беларускага выяўлен-

чага мастацтва быў Юдаль Пэн. Баронячы беларускае мастацтва, ён гаварыў пра талент М. Селівановіча, які ўпрыгожваў Ісакіеўскі сабор у Пецярбургу, пра С. Заранку, які, нарадзіўшыся ў сям'і прыгоннага селяніна на Магілёўшчыне, стаў акадэмікам жывапісу, настаўнікам Пярова, Макоўскага, Саўрасава, бараніў Апалінарыя Гараўскага, які ў «ЛіМе» «з дзіўным невуцтвам» быў названы ў артыкуле Есакова «вучнем Дзюсельдорфскай школы і прапаведнікам мастацтва для мастацтва» — пра ўсё гэта можна прачытаць у таленавітай, з любоўю напісанай кнізе Віктара Карамазава, які аб'ездзіў усе Бірулевы мясціны і нават начаваў у яго майстэрні. «Што было б з Заранкам ці Гараўскім, — піша В. Карамазаў, — калі б яны засталіся ў вёсках, у якіх яны нарадзіліся, ці ў Бабруйску, у Магілёве, у Мінску, нарэшце, дзе не было сапраўдных прафесійных школ? Ці з ім, Бірулем, калі б не знайшоў бальшак на Мясніцкай у Маскве, школу перадзвіжнікаў, Паленава і Левітана, Рэпіна і Куінджы, Касаткіна і Сцяпанава? <...> Дзе больш душы беларуса — у Пэна ці Заранкі, у Пэна ці Гараўскага?»

В. Бялыніцкі-Біруля свядома, акцэнтавана падкрэсліваў у назвах сваіх твораў сваю далучанасць, сваю любоў да Бацькаўшчыны — згадаем яго карціны, датаваныя 1947 годам: «Беларусь. Зноў зацвіла вясна», «Зазелянелі беларускія бярозкі», «Беларусь. Пачатак лета», цыкл «Мінскія аколіцы». Ён яшчэ раз хацеў прыехаць на радзіму на даўжэйшы час, але здарылася бяда: яго любімая дачка Любаша, якая добра плавала, утапілася ў возеры, а яго самога разбіў інсульт. І, нягледзячы на тое, што неўзабаве ён ачуняе і яшчэ пажыве, і яшчэ будзе пісаць і сваю любімую вясну, і восень, і лён у яго блакітным цвіценні, і бярозкі, ён раптам спакойна, мудра пачынае разумець, што настаў час развітвацца. Ён пачаў пісаць успаміны, свае думкі пра мастакоў — пра кагосьці проста трапныя словы, усяго радок, а пра кагосьці больш. Памятаў пра свайго сябра Станіслава Жукоўскага, закатаванага ў 1944 годзе ў фашысцкім лагеры ў Варшаве, памятаў, што Куінджы аднойчы заплакаў, уражаны захадам сонца над ракою, назваў Шышкіна лясным царом, які чуў галасы дрэваў, як ніхто іншы, і раптам востра зразумеў, што загадка левітанаўскай карціны «Над вечным спакоем» у тым, што ён, Левітан, гадамі жыў прадчуваннем нябыту і таму ў карцінах як бы развітваўся са светам. Біруля напісаў нават своеасаблівы запавет паляўнічым, у якім ёсць і такія радкі: *«Якая б ціхая ні была ноч, а перад самым світаннем, на золаку, старая асіна, што стаіць на ўзлеску, абавязкова прашэпча ў трывозе сваю малітву...»*


В. Бялыніцкі-Біруля з А. Бархатковым і жонкаю Аленаю на Белай дачы пад Мінскам. 1947 г.

Неба, якое ён таленавіта яднаў з зямлёю на палотнах, падарыла яму апошнюю вясну ў 1957 годзе і забрала яго да сябе на пачатку лета, у чэрвені. Прырода развіталася з улюбёным у яе мастаком пяшчотаю сваіх яшчэ няяркіх фарбаў пад жалобныя званы царквы, што стаяла над яго любімым возерам з утульнаю назваю Удомля. Беларуска-рускага мастака са шляхецкага каталіцкага роду пахавалі на Новадзявочых могілках у Маскве, а душа яго, напэўна ж, засталася ў яго палотнах, адно з якіх — «Белы сон. Блакітная капліца», так мудра выбранае з мноства іншых для пастаяннай экспазіцыі ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску. У ім так многа Боскай цішыні і спакою, так многа надзеі, бо пад покрывам белага снегу дрэмле вясна, якая чакае свайго часу для абуджэння, для неадменнага ўваскрашэння, а пакуль яе сон ахоўвае бела-блакітная капліца — і няхай ахоўвае...

Янусь Малец

# СКАЗ ДЛЯ НАС І ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

## *Да гадавіны адыходу ў вечнасць народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча*

«Сказ пра Лысую гару» — геніяльны твор беларускай літаратуры, які доўгі час быў ананімным, а так хацелася знаць імя сапраўднага аўтара, бо рукапісныя і пазней апублікаваныя ў «Вожыку» тэксты ўсхвалявалі грамадства сваёй незвычайнай энергіяй, свежасцю і актуальнасцю. Даведацца, хто ж той смяльчак, які кінуў застойна-затхламу грамадству пад ногі «пальчатку», доўгі час не ўдавалася, хаця належных спробаў, на мой погляд, і не рабілася. Відаць, хацелася, але пужала таямнічая таленавітасць ананіма. Ва ўсялякім разе, калі нейкая няведамая сіла падштурхнула мяне да разгадкі, на гэта спатрэбілася зусім мала часу. Да таго ж, падахвоціла публікацыя твора і палемічныя выказванні ў часопісе «Крыніца» ў 1995 годзе. Дастаткова было пачытаць уважліва творы Ніла Гілевіча, і асабліва раман у вершах «Родныя дзеці», каб зразумець, што менавіта гэта ён аўтар. Пра свае здагадкі я выказаўся ў публікацыі ў «Звяздзе» ў 1996 годзе, а пазней пацвярджаў на працягу доўгага часу сваю перакананасць у дыскусіях у прэсе.

Вядома ж, усё роўна былі сумненні — а раптам памыляюся, бо не прафесійны ж крытык і, можа, падводзіць інтуіцыя і аналітычныя даследаванні амаль навобмацак. Аднак за свае аматарскія пошукі мяне чакала пазней вельмі дарагая ўзнагарода: аўтограф, які ўпрыгожыў «Сказ пра Лысую гару», выдадзены ў выдавецтве «Белфранс» у 2003 годзе. Каштоўны падарунак быў зроблены за некалькі дзён да майго дня нараджэння. Яго з'яўленне было добрым адказам тым, хто іранічна цікавіўся: а што ж гэта Гілевіч аніяк не адрэагаваў на тваё адкрыццё? Дык вось вам, шаноўныя:




*«Дарагому Янусю Мальцу — першаму, хто публічна і без агаворак назваў імя сапраўднага аўтара «Сказа».*
*Дзякую, Іван Вільгельмавіч!*
*З сяброўскаю шчырасцю —*
*Ніл Гілевіч*
*2.II. 2004.*

Пайшоў другі год, як з намі няма Ніла Гілевіча, волата сапраўднага беларускага духу. Ягонае зямное жыццё было прыкладам моцы, мужнасці, працалюбства і вернага служэння свайму народу. З ягоным адыходам як бы нешта надламалася ў душах многіх ( пра гэта чуў не ў адной размове). Ён быў лідарам у грамадскім і літаратурным жыцці. Да яго прыслухоўваліся, на яго раўняліся, у яго вучыліся, называлі настаўнікам. Мне пашчасціла быць блізка знаёмым з Нілам Гілевічам. Лічу, што гэта быў падарунак ад Бога. Відаць, звёў з ім мяне, грэшнага, каб вучыўся быць чалавекам і сумленным літаратарам.

Некалі мая мама сказала словы, якія стрэмкай урэзаліся ў памяць: «Янусь, будзь чалавекам!» Яна сама ім была, добрая, спагадлівая, сумленная і справядлівая, працалюбівая, набожная, мудрая. Калі мама пакінула зямное жыццё, у душы стала востра чагосьці не хапаць. І вось гэты «вакуум»

**Янусь Малец** — паэт, пісьменнік, гумарыст, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нарадзіўся 8 лютага 1951 г. у вёсцы Хрыстова Пастаўскага раёна. Пасля заканчэння васьмігодкі вучыўся ў Полацкім ГПТВ-66, працаваў на Віцебскім заводзе сантэхзагатовак. Скончыў марскую школу ў горадзе Находка на Далёкім Усходзе. Пасля вайсковай службы пад Хабараўскам скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (1983). Працаваў рэдактарам літаратурнага аддзела часопіса «Вожык» (1993-1994). Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў «Лагодны прамень раніцы» (1988), «Асцюкі за каўняром» (1989) і інш. Аўтар зборнікаў паэзіі «Бедны конь» (1992), «Трава ў вушах» (1994), «Родны мацярык»(1995), «Намінальны людзель» (2005) і інш. Жыве ў Мінску.

часткова запоўніла знаёмства з блізкім па духу і творчасці Нілам Сымонавічам.

У нас было шмат асабістых сустрэчаў і прагулак, якія былі вельмі карыснымі для мяне і нешта, напэўна, давалі і яму. Недарэмна ж, думаю, ён мяне запрашаў неаднаразова, каб падпісаць чарговую кніжку і паразмаўляць. Вось як аднойчы напісаў на віншавальнай паштоўцы, калі прыхапіла чарговая хвароба: *«Часта ўспамінаю нашы прагулянкі ў парку — паўтарыць бы калі-небудзь! Як падужэю трохі. Як маецеся самі? Ці пішаце што? Званіце — Ваш Н.Г.»*

А вось яшчэ з аднаго віншавання, навагодняга: *«Хай усё ў Вас будзе добра! Мая просьба застаецца ў сіле: за кнігамі (і наогул для сустрэчы) давядзецца Вам зайсці. Хай сабе ўжо ў новым. Буду рад. Ваш Ніл Гілевіч. 2009, XII.»*

Не ведаю, ці адбылося б наша блізкае знаёмства і пазнейшыя стасункі, каб не знакаміты «Сказ...» і мой даследчыцкі артыкул «Вядзьмак! Рукі ўверх!», які не асмелілася друкаваць «Чырвоная змена», але які быў надрукаваны ў «Звяздзе» ў 1996 годзе дзякуючы яе тагачаснаму галоўнаму рэдактару Уладзіміру Наркевічу. Менавіта з артыкула пачалася чарговая палемічная хваля пошукаў няўлоўнага ананімнага аўтара, у прыватнасці — у «ЛіМе. Асабліва актыўна і вельмі слушна выказваўся Яўген Стасевіч. Як потым аказалася, ён аднагодак Ніла Гілевіча і ў маладыя гады яны разам былі піянерважатымі ў піянерлагеры «Будаўнік» пад Мінскам у 1950 годзе. А значна пазней у іх зарадзілася моцнае і вернае сяброўства. Сцвярджаць не маю права, але ў мяне ёсць здагадкі, што да публікацый прыкладаў руку сам Гілевіч. Няхай ён мне даруе сёння там, у іншым вымярэнні, аднак уважлівыя крытыкі адчуюць, што ягоны стыль надта ж блізкі да стылю Стасевіча і надта ж добра Яўген Дзянісавіч валодаў фактычным матэрыялам. Аднойчы я нават асмеліўся пра гэта сказаць тады яшчэ ананімнаму аўтару, але той ухіліўся з хітраватай усмешкай ад канкрэтнага адказу.

О, гэта ўсмешка з хітрынкай-іскрынкай, калі заходзіла правакацыйная размова ці нейкія дзеянні-намёкі са спробай вывесці на чыстую ваду магчымага аўтара «Сказа...» Ніла Гілевіча! Адчувалася, што яму прыемныя здагадкі пра яго аўтарства, але ён умеў не сказаць ні «так», ні «не». І таямніца трымалася дзясяткі гадоў.

З гэткай усмешкай ён аднойчы гаварыў пра маё перакананне ў яго аўтарстве: «Ну Вы ж ведаеце, што я гэту рэч не пісаў». І калі я адрэагаваў словамі: «Ну, Вы мяне, Ніл Сымонавіч, засмучаеце!», твар яго асвятліўся яшчэ большай хітрынкай: «Што ж, даказвайце, даказвайце, а раптам і мяне пераканаеце!»



Янусь Малец і Ніл Гілевіч. 2001 г.
Фота Міхася Кенькі.

Прывяду нядаўні ўспамін у інтэрнэце Міхася Пазнякова, якому нейкі час давялося быць галоўным рэдактарам «Вожыка»:

*«Калі я пачаў праглядаць у сваім кабінеце галоўнага рэдактара часопіса «Вожык» шафы, то знайшоў каля тысячы экзэмпляраў «Сказа пра Лысую гару». Дарылі, раздавалі на творчых сустрэчах у якасці прызоў. У мяне на стале заўсёды ляжаў стос... Нават Гілевічу пад яго шматзначную ўсмешку падараваў дзясяткі два. Гэтай усмешкай Паэт дапамог мне яшчэ раз пераканацца, што твор ягоны...»*

Анатоль Гармаза, мастак, які разам з калегам Аляксандрам Каршакевічам афармляў першую «вожыкаўскую» кніжачку са «Сказам...», успамінаў у «Народнай волі»: *«Я добра памятаю, як пасля выхаду першай ікніжкі ў рэдакцыю зайшоў Ніл Гілевіч і часам хітравата так усміхаўся. Наогул, у «Вожыку» былі здагадкі, што аўтар паэмы — Ніл Сымонавіч».*

Аднак пры размове, калі пасля публікацыі ў «Звяздзе» і пачатку дыскусій у «ЛіМе» я асмеліўся падысці да Гілевіча і прызнацца, што я той самы Янусь Малец, які даследуе «Сказ...», здаецца, усмешкі не было, а нават праявілася нейкая ўстрывожанасць, асабліва калі мною была выказана думка, што аніякага Яўгена Стасевіча, хутчэй за ўсё, няма. Мне здалося, што ён трошкі разгублена запярэчыў: «Ёсць-ёсць! Ён заходзіў у «ЛіМ», хлопцы яго бачылі».

Думаецца, Ніл Сымонавіч з асцярогай аднёсся да маіх даследаванняў ягонага аўтарства і баяўся, што я магу завесці спрэчкі не ў тым кірунку. Хут-

чэй за ўсё, яму хацелася б, каб адкрыццё зрабілі масцітыя крытыкі. Аднак тыя маўчалі ці шукалі не ў «Сказе...», а ў кулуарных размовах і прызнаннях некаторых ахвотнікаў быць «Ведзьмаком». Хіба толькі Уладзімір Конан быў выключэннем і адчуваў аўтарства. І ўжо пазней, калі Ніл Гілевіч заўважыў, што я сур'ёзна падыходжу да пошукаў аўтара і мы сталі перыядычна сустракацца, усё часцей з'яўлялася памянёная вышэй усмешка. Аднак у аўтарстве ён мне доўга не прызнаваўся, хаця адчувалася, што аднойчы настане момант, калі ён зробіць мужны крок насустрач чытачам. Тым больш што аўтарам шмат хто з калегаў-сяброў стаў называць іншага паэта, які і не пярэчыў, і нават звёў у зман Максіма Танка. Вядома ж, у таго, хто аддаў талент, энергію і нямала каштоўнага часу, хто разумеў сапраўдную сутнасць створанага, несумненна, унутры ўсё кіпела і не магло не вырвацца з душы. Што і было даходліва і праўдзіва зроблена ў «Народнай волі» ў 2003 годзе.

Цяжка сказаць, куды нас занясе сённяшні трывожны і супярэчлівы час. Усё больш заяўляюць пра сябе нахабства, агрэсіўнасць, цынізм, адмаўленне зробленага папярэднікамі. Як быццам у тых не балела душа за мову, за краіну, за стан грамадства. Судзяць дылетанты, хлусы, узносячы сябе саміх як надта правільных, бездакорных і гераічных у змаганні за шчаслівую будучыню, забываючы, а то і не ведаючы галоўных хрысціянскіх запаведзяў. А будуць жа самі асуджаныя і адрынутыя і людзьмі, і Богам! І самае страшнае, што сярод іх нямала тых, хто адносіць сябе да інтэлігенцыі.

Сваім «Сказам пра Лысую гару» Ніл Гілевіч як бы папярэджваў, перасцерагаў нас ад дэградацыі:

*Ды зблытаць базіс з надбудовай*
*Ніхто з дасведчаных не мог.*
*Куды працей ад роднай мовы*
*Было б адмовіцца, дальбог!*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Яны даўно былі гатовы*
*Ажыццявіць «святы» парыў —*
*Ліквідаваць дарэшты мову,*
*Якой Купала гаварыў.*

Не адзін раз мне даводзілася з ім закранаць тэму, пра якую цяпер павёў гаворку. Ён супакойваў мяне, што гэтыя прыхвастні і прахвосты — «пена», якая абавязкова некалі схлыне. Асэнсоўваю радкі:

*Але назло іх крыку: «Знішчыць!»*
*З глыбінь народнага жыцця*
*Увысь ірвалася Янішчыц —*
*Палесся мілае дзіця.*

Асэнсоўваю і бачу глыбіню думкі і прароцтва: выратуе нас прыгажосць і сапраўдная таленавітасць! Выратуе той жа Гілевіч сваёй маштабнай і рознажанравай творчасцю, якая нібы крыніца прарываецца да чытачоў, да будучых нашчадкаў з «глыбінь народнага жыцця». Народ разбярэцца, зразумее, дзе праўда, натуральнасць, а дзе фальш і падман. Хочацца верыць у гэта, бо ўсё-такі людзей разважлівых, разумных, упэўненых у сваіх перакананнях, якія свята берагуць памяць пра бацькоў, пра лепшае, што зроблена папярэднікамі, значна больш. І яшчэ настане час народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча...

Некаторыя «крытыкі» робяць выгляд, што не разумеюць Гілевічаў «Сказ...» і нават імкнуцца прынізіць геніяльную рэч да звычайнага капусніка. Ім, бачыце, ну зусім не смешна! Панове, як сказаў бы аўтар паэмы, хто ж вінаваты, што вам не дадзена Богам належным чынам падключыць мазгі?

А ёсць жа і тыя, хто адчувае таленавітую сатыру і гумар. Напрыклад, Міхась Скобла, які выдатна ў гэтым разбіраецца, назваў нядаўна Ніла Гілевіча беларускім сатырыкам №1 («Верасень», № 14 2016 г.). Цалкам пагаджуся з ім і асмелюся нават назваць Ніла Гілевіча беларускім Каралём смеху.

Несумненна, Кароль смеху быў не бязгрэшным і былі памылкі ў тым жа «Сказе...», калі ён не зусім тактоўна даў характарыстыкі некаторым літаратарам. У пазнейшых выданнях ён выдаліў гэтыя няўдалыя радкі. Можа, і выбар псеўданіма быў не зусім удалым. Помніцца, пра гэта казала Анэля Тулупава. Але гэта спрэчна...

І не абавязкова на кожнай Лысай гары ладзілі свае пачварныя шабашы «ведзьмакі», як адзначаюць некаторыя знаўцы «ведзьмакоўства» і Лысых гор. І ў сваіх паводзінах у жыцці, напэўна ж, наш паэт быў не бездакорным. Пра гэта ён праўдзіва спавядаўся ў сваіх дзённікавых запісах і ў некаторых творах.

*Ты — вечным жыла:*
*Любоўю і дабрынёй.*
*І будзеш вечна.*
*А я — быў рабом часу.*
*Гэтым і пакараны.*

Ягоная гераіня, незабыўная Ніна Іванаўна, разумела яго боль:

*Усё бачыла.*
*Пакутавала. Плакала.*
*І малілася:*
*«Божа, падтрымай яго!*
*Маіх сіл не хапае!..»*

Бог не мог не падтрымаць, хаця б за такія святыя словы:

*Скора ўжо, скора*
*Пройдзе, я веру, Гасподзь*
*Па нашай зямлі.*
*Толькі патрапіць бы нам*
*Ступіць у Яго сляды.*

Ганна Шаўчэнка

# На шалях справядлівасці і міласэрнасці

## *Пра верш Антона Гарэцкага «Смерць здрадніка Айчыны»*




Антон Гарэцкі. Да 1861 г. Адбітак на альбумінавай паперы. Навуковая бібліятэка Польскай акадэміі мастацтваў і Польскай акадэміі навук у Кракаве.

Жыццё і творчасць Антона Гарэцкага, прадстаўніка польскамоўнай паэзіі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя, авеяныя шматлікімі легендамі. «Паэт-жаўнер», «бард Антоній», «прадвеснік Рамантызму» — такія найменні замацаваліся за ім яшчэ пры жыцці дзякуючы вялікай папулярнасці ў літаратурных колах і наватарскім тэндэнцыям у творчасці. Як гэта вельмі часта здараецца з людзьмі таленавітымі і неардынарнымі, у А. Гарэцкага было нямала літаратурных праціўнікаў, якія актыўна цкавалі яго за ўсё нетрадыцыйнае і новае ў творчасці, што не ўкладвалася ў іх уяўленні пра стыль, змест і ролю літаратурнага твора ў тагачаснай культурнай парадыгме. Так у Антона Гарэцкага з'явіліся яшчэ і саркастычныя мянушкі кшталту «смаргонскі Піндар» і «пясняр пінскіх лясоў». Наколькі вялікую славу меў гэты паэт, настолькі шмат з'едлівай крытыкі выцерпеў у свой адрас.

Антон Гарэцкі нарадзіўся ў 1787 годзе ў Вільні — 230 гадоў назад. Ён атрымаў добрае рэлігійнае і патрыятычнае выхаванне. Яго бацька быў адвакатам Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага і прымаў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Маці паэта таксама выглядае ва ўспамінах сучаснікаў як смелая і адданая Айчыне асоба. Францішак Карпінскі ў сваім мемуарным творы пад назваю «Гісторыя майго веку і людзей, з якімі я жыў» распавядае пра тое, як падчас балю ў Вільні, дадзенага генералам камендантам горада пасля паражэння паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, адна толькі пані Гарэцкая ўстрымалася ад танцаў: «Падышоў да яе генерал і, бачачы, што яна ні з кім не хоча танцаваць, просіць, каб яна хоць яму аказала гэты гонар і пратанцавала з ім адзін танец. Яна ж, заліўшыся слязьмі, з усхліпамі кажа яму: „Няўжо ты, васпане, хочаш, каб я на пахаванні сваёй Айчыны-маці танцавала?“ Усе грамадзяне засаромеліся, і танцы скончыліся»[1]. Гэты боль па Айчыне, разбуранай трыма падзеламі Рэчы Паспалітай, пані Гарэцкая не магла не перадаць чацвярым сваім дзецям, малодшым з якіх быў Антон.

Атрымаўшы хатнюю адукацыю, А. Гарэцкі паступіў на літаратурны факультэт Віленскага ўніверсітэта, дзе на ўсю моц пачаў выяўляцца яго літаратурны талент і адбыўся паэтычны дэбют у «*Dzienniku Wileńskim*».

Пасля ўтварэння Варшаўскага княства малады паэт, як і многія іншыя літвіны-беларусы ды палякі, якім быў неабыякавы лёс Рэчы Паспалітай, тайком перабраўся праз Нёман, каб далучыцца да напалеонаўскага войска. З гэтага часу ў жыцці і творчасці А. Гарэцкага распачынаецца новы перыяд, звязаны з вайсковаю кар'ераю. Аднак у хуткім часе паэт расчараваўся ў палітыцы Напалеона Банапарта, пра што вельмі яскрава сведчыць яго

**Ганна ШАЎЧЭНКА** — супрацоўніца выдавецтва «*Pro Christo*». Закончыла філфак БДУ (2007), магістратуру і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Займаецца даследаваннем польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010), манаграфіі «Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай паэзіі ў літаратуры Беларусі XIX ст.» (2015).

знакаміты верш «Бітва на Бярэзіне»[2]. Але ўжо ў гэты перыяд асоба жаўнера і паэта А. Гарэцкага пачынае набываць легендарнасць. Пасля яго смерці пісьменнік Леанард Рэталь пісаў пра адносіны моладзі да вядомага паэта: «Мы ведалі, што ён быў напалеонаўскім жаўнерам, што ў яго на грудзях блішчаў Крыж Ганаровага Легіёну, перад якім мы заўсёды на вуліцы здымалі нашы студэнцкія шапкі»[3].

Паколькі паўстанне 1830–1831 гадоў давала новую надзею на вызваленне і аднаўленне Рэчы Паспалітай, А. Гарэцкі ўзяў у ім чынны ўдзел і быў нават сябрам Віленскага камітэта па падрыхтоўцы паўстання на землях Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая барацьба з яе перамогамі і паражэннямі, спадзевамі і расчараваннямі стала найважнейшаю тэмаю ўсёй творчасці А. Гарэцкага, які ў 1831 годзе быў вымушаны эміграваць у Францыю, дзе і пражыў да канца жыцця, памёршы ў Парыжы ў 1861 годзе. Горыч ад паражэння паўстання наскрозь пранізвае яго лірыку, але перажыванне лірычнага героя А. Гарэцкага глыбока рэлігійнае, напоўненае надзеяй на тое, што ахвяры за Айчыну недарэмныя і на шалях Божага суду стануць выратавальнымі для вечнага лёсу палеглых і зняволеных. Алегарычна паэт выказаў гэтую думку ў знакамітай байцы «Чорт і збожжа», якую Адам Міцкевіч пераказаў у III частцы «Дзядоў». І наадварот, на думку А. Гарэцкага, здраднік Айчыны не мае шанцаў на збаўленне ў вечным жыцці, бо спрычыніўся да знішчэння адной з найвялікшых каштоўнасцяў. У гэтым выпадку мы назіраем элементы сакралізацыі вобразу Радзімы — сакралізацыі, якая затым больш выразна адлюстравалася ў творчасці Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча і Я. Баршчэўскага і якая, паводле сцверджання даследчыка С. Даніленкі, сведчыла пра іх стаўленне да Радзімы-дзяржавы як да «духоўнай каштоўнасці, супастаўімай з вышэйшымі каштоўнасцямі хрысціянства»[4]. «Бура», «Апошні Суд», «Малітва прыгнечанага народа», «Да Бога», «Д'ябал і душа», «Толькі Бог усё бачыць», «Надзея ў Богу», «Давярыцца Богу» — з аднаго верша А. Гарэцкага ў другі перацякаюць матывы пакаяння і веры ў Божую ўсёмагутнасць перад абліччам няшчасцяў, у якіх апынулася Айчына, а таксама надзеі на перамогу справядлівасці[5].

Адною з самых цікавых і неадназначных праблемаў у паэзіі А. Гарэцкага з'яўляецца праблема міласэрнасці і прабачэння ў адносінах да тых, хто спрычыніўся да заняпаду і разбурэння калісьці магутнага роднага краю. Вельмі востра гэты матыў узняты ў вершы-баладзе «Смерць здрадніка Айчыны». Ён быў упершыню апублікаваны ў 1818 г. у «*Tygodniku Polskim i Zagranicznym*», затым увайшоў у першы зборнік твораў А. Гарэцкага «Паэзія Літвіна» (1834 г.) і стаў своеасаблівай візітнаю карткаю паэта на ўсё жыццё. Як піша сучасная польская даследчыца творчасці А. Гарэцкага Яланта Коваль, верш «Смерць здрадніка Айчыны» з'яўляецца «паэтычным увасабленнем яго маральнай пазіцыі і адносінаў да адшчапенцаў народа»[6]. Гэты твор дзякуючы нязменнай актуальнасці тэматыкі і шматлікім наватарскім тэндэнцыям аказаў вялікі ўплыў на чытачоў і літаратараў першай паловы XIX стагоддзя. «Хто ж з нас у сваім таемным архіве, дзе, на жаль, знаходзілася шмат атрутнага плёну, не раз пакрытага шаноўнымі прозвішчамі паэтаў мінулага стагоддзя, не меў перапісанага верша "Смерць здрадніка Айчыны" або "Байкі пра фурманаў"»,[7] — пісаў Леанард Рэталь («Байка пра фурманаў» — яшчэ адзін папулярны верш А. Гарэцкага, у якім алегарычна выкрываецца несумленнасць чыноўнікаў і з-за якога паэту давялося адсядзець у вязніцы). Польскі паэт Тадэвуш Бой-Жаленскі ў лісце да рэдактара «*Wiadomości Literackich*», напісаным у 1936 годзе, сведчыць, што ён яшчэ ў школе «здаваў» на памяць верш «Смерць здрадніка Айчыны»[8], а яго школьныя гады прыпалі ўжо на канец XIX стагоддзя! Такім чынам, верш А. Гарэцкага амаль цэлае стагоддзе фармаваў сэрцы і розумы суайчыннікаў. І гэта невыпадкова. Гістарычныя падзеі самі па сабе актуалізавалі тэматыку і праблематыку твора: здраднік Айчыны, які праліваў кроў сваіх землякоў, доўга не можа заснуць цёмнаю ноччу ў сваім велічным палацы, і набытыя ў злачынствах скарбы ўжо не супакойваюць яго ўстрывожанае сэрца; раптам праз вырваныя віхураю дзверы ў палац заходзіць здань забітай Айчыны — яна прыйшла прабачыць сваё заблукалае дзіця; здраднік жа са страхам страляе ў прывід, пакуль не з'яўляецца «дух з чорным аблччам» і не забірае яго душу ў «цёмныя хмары».

Яшчэ з даўніх часоў у паэзіі існавала вельмі багатая традыцыя выяўлення нацыянальнай здрады. Аднак у вершы А. Гарэцкага яна набыла асаблівы драматызм, што было выразнаю адзнакаю рамантычнага стылю. Дарэчы, у гісторыі айчыннай літаратуры пачаткам эпохі Рамантызму прынята лічыць 1822 год, калі выйшаў з друку першы том «Паэзіі» Адама Міцкевіча, але ў творчасці А. Гарэцкага характэрныя рамантычныя рысы з'явіліся значна раней. Відавочная яўная пераемнасць шматлікіх вобразаў «Смерці здрадніка Айчыны» ў баладах і паэмах А. Міцкевіча. Польскі даследчык Габрыэль Корбут у сваім артыкуле «„Лілеі" і „Смерць здрадніка Айчыны"» параўноўвае творы абодвух паэтаў і сцвярджае: «Уплыў Гарэцкага на Міцкевіча пачынаецца не ў эміграцыі, як лічылася раней, а <...> ужо ў віленска-ковенскі перыяд»[9].

Мастацкі свет твора «Смерць здрадніка Айчыны» пабудаваны паводле прынцыпу рамантычнага двухсвецця. А. Гарэцкі паказвае, што зямны свет мае паралельны сабе іншы свет, моцна звязаны з зямным, вельмі празрысты і праўдзівы, у той час як зямны свет і зямная мудрасць часта бываюць двухаблічнымі. Душа чалавека — гэта месца, дзе судакранаюцца, сыходзяцца гэтыя два светы. Добрыя і злыя духі іншага свету, прыходзячы ў зямны свет, дзейнічаюць у ім менавіта праз душу чалавека. А. Гарэцкі вельмі вобразна адлюстраваў момант «сустрэчы», перасячэння зямнога свету і нябеснага свету з яго добрымі і злымі духамі менавіта ў душы чалавека, які ноччу паглыбляецца ў сон: *«Ужо набліжаліся хвілі, // Як духі таемна з нябёсаў // Па зорных праменнях сыходзяць — // Жабрачыя горкія лёсы // Снамі лагодзяць»*. Рамантычную атрыбутыку гэтага свету А. Міцкевіч амаль даслоўна пераносіць у самы пачатак ІІІ часткі «Дзядоў», дзе анёл-ахоўнік шэпча над спячым вязнем Конрадам: *«Я не раз на просьбу маткі // З-пад нябёс, з дазволам Божым, // Ночкай месячнай, без ценю, // Па канацiку-праменю // Да тваёй спускаўся хаткі, // Над тваім схіляўся ложам»*[10]. Аднак у гэтых надзвычай падобных мастацкіх светах А. Гарэцкага і А. Міцкевіча дзейнічаюць героі-антыподы: у першага — здраднік, у другога — абаронца Айчыны, зняволены ў вязніцы за праўду. Душы аднаго і другога становяцца аб'ектам змагання добрых і злых сілаў — змагання не на жыццё, а на смерць. Што стала вырашальным крытэрыем у гэтым змаганні?

У вершы А. Гарэцкага здраднік памірае пасля прыходу «духа ў чорным абліччы». Але падкрэслім адзін парадокс, які надае твору А. Гарэцкага філасофскую глыбіню: доўгачаканая справядлівасць дасягаецца менавіта сілаю «чорнага» духа. Да яго з'яўлення перад здраднікам паўстае іншая істота — «бледны дух» Айчыны, маркотны і з крывавымі грудзьмі. З дапамогаю гэтых вобразаў А. Гарэцкі, з аднаго боку, паказаў жахлівую сцэну пакарання, аблічча «справядлівага зла», а з другога — магчымасць прабачэння. Іншымі словамі, паэт метафарычна адлюстраваў шляхі Божай справядлівасці і Божай міласэрнасці. Душа здрадніка перажывае сустрэчу з «чорным» і «бледным» духамі менавіта напярэдадні смерці. Паколькі рэакцыя героя — страх, стралянне і гвалт, то перамагае «дух у чорным абліччы»: душа ў тую бяссонную ноч, шукаючы спакою і суцяшэння ў скрынках з каштоўнымі каменьчыкамі, не была гатовая да пакаяння і скрухі, а значыць, і да прыняцця прабачэння.

Для таго, каб больш выразна паказаць сімвалічнае значэнне гэтых вобразаў А. Гарэцкага, узгадаем, што Конрад з ІІІ часткі «Дзядоў» А. Міцкевіча



Дом на вул. Дамініканскай, 15 у Вільні, дзе жыла сям'я Гарэцкіх. Фота аўтара.

таксама перажывае ў сваёй душы барацьбу паміж «духамі з правага боку» і «духамі з левага боку», аднак у дадзеным выпадку герой сам дамагаецца перамогі справядлівасці ў злачынным свеце. Адметна, што ў гэтай барацьбе яго душа сутыкаецца з вялізным птахам у абліччы чорнага крука. Хацелася б звярнуць увагу на пэўныя асацыятыўныя сувязі чорнага крука А. Міцкевіча і «духа ў чорным абліччы» А. Гарэцкага. Як у першага, так і ў другога аўтара няма канкрэтных указанняў на тое, што гэтыя вобразы — увасабленне д'ябла. Ёсць толькі наступныя характэрныя падабенствы: у А. Гарэцкага «дух у чорным абліччы» гаворыць са здраднікам «голасам грымотаў» (*«głosem zagrzmienia»*), у А. Міцкевіча чорны крук называе сябе «валадаром грамоў нябесных» (*«gromowładny»*); у першага гэты персанаж хапае душу здрадніка і забірае яе ў «цёмныя хмары», у другога Конрад сустракае крука і вядзе з ім бойку таксама менавіта ў хмарах. Акрамя таго, звернем увагу на мэты з'яўлення «чорнага» персанажа ў А. Гарэцкага і ў А. Міцкевіча. Да здрадніка Айчыны дух прыходзіць для таго, каб забраць яго на Божы суд. Да Конрада — каб кінуць яго душы выклік у небе, іншымі словамі, пазмагацца за валоданне «часамі наступнымі», бо «чорны крук» з'яўляецца акурат у той момант, калі душа Конрада ў містычным абліччы арла з нябесных высяў рыхтуецца завалодаць падзеямі будучых дзён, як арол — птушкамі, хапаючы іх у свае кіпцюры. Такім чынам, задача крука — спыніць гарачае жаданне Конрада валодаць светам і будучыняй, што цалкам належыць толькі Богу.

Як бачым, і «дух у чорным абліччы» А. Гарэцкага, і чорны крук А. Міцкевіча — гэта той, хто чыніць Божую справядлівасць, указвае душы на яе належнае месца, бо па сутнасці і ў першым, і ў другім выпадках душою была пяройдзена тая мяжа, за якою пачынаецца самаўладства і гвалт,

нават калі гэты гвалт набывае форму барацьбы за справядлівасць, як адбылося з Конрадам (*«Ужо мая песня ў магіле была, // Ды кроў яе раптам пачула, // І вось, як вампір, зноў яна усплыла — // Яе да жыцця кроў вярнула. // Крыві ёй, крыві трэба многа: // На помсту — хоць з Богам, без Бога!»*[11]). Вельмі верагодна, што «чорны» персанаж у перадрамантыка А. Гарэцкага і рамантыка А. Міцкевіча аналагічны біблійнаму «жорсткаму анёлу» (гл. Зых 17, 11) або роднасны «анёлу-губіцелю» (Зых 12, 23; Быц 19, 1; 2 Сам 24, 16; 2 Вал 19, 35).

Не будзем адназначна сцвярджаць, што А. Гарэцкі прыўлашчвае сабе права прарочыць вечны лёс той ці іншай душы ў залежнасці ад яе патрыятычнай пазіцыі. Хутчэй матыў страшнай смерці здрадніка гучыць як перасцярога для тых, хто так і не здолеў вярнуцца на шлях праўды. *«Przyjdzie rachunek, o biada wam, biada!»*[12] (*«Прыйдзе рахунак, бяда вам, бяда!»*) — піша А. Гарэцкі яшчэ ў адным сваім вершы «Спеў на пахаванне палеглых», і ў наступных радках пакідае чытачам шчымлівую малітву ад імя ўсяго народа аб Божай міласэрнасці для гэтых бедных душаў, завяршаючы яе афарыстычнымі і глыбокімі словамі: *«Pozwól ludowi Twemu się odznaczyć, // Że jak Bóg, umiał cierpieć i przebaczyć»*[13] (*«Дазволь Твайму народу паказаць, // Што ён умеў, як Бог, цярпець і прабачаць»*).

Такім чынам, у вершы-баладзе «Смерць здрадніка Айчыны» А. Гарэцкі развівае літаратурны матыў здрады праз увядзенне шэрагу наватарскіх паэтычных тэндэнцый, якія потым трывала замацаваліся ў паэзіі Рамантызму і сталі прадметам наследавання ў творчасці іншых паэтаў, у прыватнасці — А. Міцкевіча. Адначасова А. Гарэцкі глыбока асвятляе праблему пакарання і прабачэння, Божай справядлівасці і міласэрнасці ў адносінах да злачынцаў і ўзвышае вобраз Айчыны як адной з найвялікшых хрысціянскіх каштоўнасцяў.

---

[1] Karpiński, F. Pamiętniki / F. Karpiński; przedm. P. Chmielowskiego. – Warszawa, 1808. – S. 138.
[2] Твор быў перакладзены на беларускую мову Ірынай Багдановіч і апублікаваны ў яе кнізе «Залатая Горка» (Мінск, 2016 г.).
[3] Rettel, L. Przedmowa / L. Rettel // Gorecki, A. Pieśni. – Paryż: Księgarnia Luxemburgska, 1868. – S. 11.
[4] Даніленка, С. І. Сакралізацыя вобраза Радзімы ў беларускай літаратуры першай паловы XIX стагоддзя (у творах Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча): дыс. … канд. філ. навук: 10.01.01 / С. І. Даніленка; АН Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. – Мінск, 1996. – С. 11.
[5] Падрабязна пра біблійныя матывы ва ўсёй паэзіі А. Гарэцкага гл. у нашай кнізе «Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя» (Мінск, «Кнігазбор», 2015).
[6] Kowal, J. Droga na Parnas: O twórczości poetyckiej Antoniego Goreckiego / J. Kowal. – Kraków: Collegium Columbinum, 2008. – S. 81.
[7] Rettel, L. Przedmowa / L. Rettel // Gorecki, A. Pieśni. – Paryż: Księgarnia Luxemburgska, 1868. – S. 3–4.
[8] Boy-Żeleński, T. Listy / T. Boy-Żeleński; oprac. B. Winklowa. – Państwowy Instytut Wydawniczy, 1972. – S. 431.
[9] Korbut, G. Szkice i drobiazgi historyczno-literackie / G. Korbut. – Warszawa, 1935. – S. 62.
[10] Міцкевіч, А. Выбраныя творы / А. Міцкевіч; уклад., прадм. і камент. К. Цвіркі. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. – С. 352–353.
[11] Тамсама, с. 376.
[12] Gorecki, A. Poezye Litwina / A. Gorecki. – Paryż, 1934. – S. 29.
[13] Тамсама, s. 30.

Антон Гарэцкі

# Смерць

Цямнюткая ноч была, ціша паныла
Усё наваколле спакоем пакрыла...
І праблескі месяца ўсцяж засвяцілі,
Бо ўжо набліжаліся хвілі,
Як духі таемна з нябёсаў
Па зорных праменнях сыходзяць —
Жабрачыя горкія лёсы
Снамі лагодзяць.

На беразе рэчкі імклівай,
Якая цячэннем вірлівым
Змутнелыя хвалі ганяе, —
Хароміна велічна ззяе.

Там здраднік айчыны пракляты
На ложку чакаў залацістым,
Што сон пад свае возьме шаты
І сэрца, і розум нячысты.

Агонь у праменьчыках змрочных,
Шыкоўнымі лямпамі скрыты,
Паказваў у ценю той ночы
Дастатак злачынцы набыты.

Здаўна назапашваў ён гэта
З нястомнаю, прагнай ахвотай.
Сабраў хіба ўсе скарбы свету —
Але ж не ставала там цноты.

Вось час утрапёны
З магутнага звону
Дванаццаты ўдар выводзіў
А сон яшчэ не надыходзіў.

Наведваў ён сціплыя хаткі,
Прытульваў у гэту хвіліну
Таго, хто свае ўсе дастаткі
Калісьці аддаў за айчыну.

Дарэмна нягоднік з маркотай
Чакаў, калі сон падкрадзецца.
Ён сох, як увосень лістота,
І смутак яму мучыў сэрца.

Пакінуў вялізны свой ложак,
Замкі адчыняе на скрынях шыкоўных.
Мяркуе, яму дапаможа
У смутку зіхценне каменняў каштоўных.

# здрадніка Айчыны



TYGODNIK

Polski i Zagraniczny.

Tom II.

Kwiecień, Maj i Czerwiec.

rok 1818.

w WARSZAWIE,

w Drukarni przy Nowolipiu Nro 646.

Nakładem i Redakcyą

Brunona Hrabi Kicinskiego.

Тытульны ліст штотыднёвіка, у якім упершыню быў апублікаваны верш А. Гарэцкага «Смерць здрадніка Айчыны».

Ды раптам нябёсы далі знак страхотны,
Маланкі ляснулі,
Агеньчыкі згаснулі,
Віхор вырваў дзверы грымотна.

Пранік спярша месячык цьмяны,
За ім нечакана
Паважная крочыць асоба.
На ёй — жалоба...
З тужлівай паставаю,
Грудзямі крывавымі.

Ад гэтае з'явы жахлівае
Сэрца дрыжыць баязлівае!
Бачыць — не верыць,
Зубы ён шчэрыць,
Крычыць: «Ты хто? Здань? Чыя?
Стой, бо заб'ю цябе я!»

Ды бледная постаць маўкліва
Слухае крык той зласлівы,
Ідзе толькі з ціхімі
Ўздыхамі.

Злачынца схапіў агнястрэльную зброю,
У моц яе верачы, раптам з жудою
Прыцэліўся, цісную —
Агонь мігам бліснуў.
І прагная куля са свістам
Рассекла паветра іскрыста,
Наскрозь яна здань пранізала,
Ды тая няспешлівым крокам
З маўчаннем глыбокім
Бліжэй і бліжэй падступала.

Сваёю рукой абаперлася ціха
Яму на плячо, прыпынілася крыху.
Ды адпачывае.
Ён млее —
Пацее
І зброю другую хапае.

Гаворыць яму дух кабеты
Такім галаском, быццам гэта
Струменьчык цвірчыць або лютня іграе,
Або на магілах вятрыска спявае:
«Пастой! Твая куля мяне б не забіла,
Бо ты ўжо загнаў мяне, сын, у магілу,
Але я хачу ўратаваць цябе, мілы.
Твая душа ў смутак пагружана сёння,
Спачынку жадаеш — на вечнасці ўлонне
Хадзем, я табе прабачаю правіны —
Матуля не помсціць зблукаламу сыну».

У тую хвіліну затрэсліся гмахі,
Уздрыгнулі дахі
І стогн самой ночы раздаўся.
Праз вокны прабраўся
Дух з чорным абліччам
І выкрыкнуў голасам-громам:
«Няма прабачэння такому —
На страшны суд Бог Цябе кліча,
Бо ты праліваў жорстка кроў
Сваіх жа нявінных братоў!»

Сказаў ён — і гнеўным ударам
На ложак злачынцу адкінуў,
Забраў душу ў цёмныя хмары,
За ім завыў вецер, гром грымнуў.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
Паводле: A. Gorecki. *Poezye Litwina.* —
Paryż, 1834.



Фота Яўгена Колчава.

# Георгій Ліхтаровіч

**Георгій Ліхтаровіч —** фатограф, пісьменнік. Нарадзіўся 6 снежня 1947г. у Мінску. Закончыў архітэктурны факультэт БПІ ў 1974 годзе. Аўтар шматлікіх фотаальбомаў, манаграфій беларускіх мастакоў, энцыклапедычных выданняў, плакатаў, камплектаў паштовак, буклетаў. У 2000 г. як фотамастак выдаў фотаальбом «Добры дзень, Беларусь» («Лепшая кніга года» на беларускім конкурсе «Мастацтва кнігі»). У 2000 г. быў прыняты ў Беларускі саюз дызайнераў. Выдаў кнігу паэзіі «Агульны сшытак» (2002). Сябра Рады беларускай інтэлігенцыі (2003) і Рады Беларускага грамадскага аб'яднання «Фотамастацтва» (2004).
Вершамі і перакладамі ўдзельнічаў у выданні дыска беларускіх песняў Галіны і Барыса Вайханскіх «Вяртанне» (2004). Аўтар кнігі вершаў «Ліхтарыкі» (2005) і дэтэктыўнага раман «Газ» (2008). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (2006). У 2015 г. на нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі» ў намінацыі «Майстэрства» прызнаны лепшым фотамастаком 2016 года. Жыве ў Мінску.

### Вандроўная песня Язэпа Драздовіча

Зручны кіёчак, пэндзаль і фарбы...
Толькі мажлівасць даў Уладар бы —
Лёгкую хаду.
Што неабходна мне для вандроўкі —
Ладны сцізорык, правіць алоўкі,
Я і сам знайду.
І за свет пайду,
Каб разагнаць нуду.

Ласкай крыніца сточвае камень,
Бог аздабляе свет дзівакамі.
Ён сапраўдны зух.
Мне не патрэбны грошы і скарбы,
Лепш напаткаўся добры дудар бы —
Падтрымаць мой дух.
Існасць — вечны рух.
Лепш вандраваць удвух.

Чуеш, запелі ў полі мянташкі —
Сена рыхтуе вёска Алашкі.
Пойдзем па дварах.
Шэрасць пануе ў хатах ад працы,
Я намалюю людзям палацы,
Хоць на дыванах.
Хай цвіце вясна —
Будзе лагода ў снах.

Вось і сцямнела, час па вячэры.
Зоркі буйныя спеюць, як бэры,
Іх люляе змрок.
Водар дзівосны сена ў адрыне.
Стомлены ветах спіць на хмурыне —
Сточаны сярпок.
Быццам незнарок,
Зорак сягае зрок.

І на Сатурне і на Венеры
Спяць сенажаці, спяць касінеры,
Ды не спіцца мне.
Вольны, як птушка, я адлятаю
Ў бездань сузор'яў, да небакраю...
Можа, толькі ў сне
Бог мяне кране.
Досвіткам сон міне.
Свет неаглядны ў сэрцы адкрыў я.
Хай не крыўдуе любая Крыўя —

Сам далей пайду.
За далягляды шлях мой не марны.
Хай небакрай мой ясны ці хмарны,
Я туды іду.
Мо святло знайду?
Божа, настрой дуду!

**На Радаўніцу**

Вясной надзей уквеціліся дзічкі,
Зайздросцячы сяброўкам у садах.
Жалобна недзе енчаць электрычкі
Зняволеныя ў рэйках і дратах.

У грукаце сваёй нябеснай брычкі
Пярун-Ілля вязе дзіцячы страх.
Пялёсткаў сны,
Нібыта з неба знічкі,
Страсае долу палахлівы птах.

Агаркам свечкі —
Мары, думкі, звычкі...
Агорвае паволі шлях у прах
Агеньчык,
Як цыбулінка каплічкі,
Што некалі згарэла на кладах.

**Спакой**

Світанак. Вее ветрык свежасцю.
Пяшчота травеньскай красы.
Яліны прывіднымі вежамі
Стаяць, сівыя ад расы.

Галлё бяроз ярчэе кроплямі,
Асіны ціха шапацяць.
У небе доўгімі шматкроп'ямі
Дадому журавы ляцяць.

Усё наўколле росным позіркам
Глядзіць на веснавы дыван.
Зара прачнулася над возерам,
Над полем коўдраю туман.

Страху нябёс трымаюць кроквамі
Хваіны бору над вадой...
Стаю — спужаць не ў стане крокамі
Дзівосны ранішні спакой.

**Зямля**

Рунее даль празрыстаю смугой.
Сцішэлі паплавы, пагоркі, нівы.
Ахопленыя светлаю тугой,
Мінаюць дні ўсё больш і больш імклівa.

Ад Боскай ласкі нам у дар адна
Зямля, як быццам з нейкай дзіўнай казкі.
Ўсё ад Зямлі. Ад хлеба да радна,
Ад моцных каранёў да сціплай краскі.

Яна жыццё і сілы нам дае.
І век, і час, і кожную хвіліну
Нам дорыць казкі, песні нам пяе,
Смуткуе і прымае дамавіну.

Зямля працуе цяжка і здаўна.
Але апошнім часам мне трывожна.
Давай, каб не стамілася яна,
Хадзіць па ёй удзячна, асцярожна.

**Ля затокі**

Стомлена плюхае хваля ў карчах —
Пэўна, крынічнае нешта ёй сніцца;
Пробліск цяпельца амаль што ачах,
Чырванню прысак сузорна іскрыцца;

Месячык дрэмле за борам наўзбоч;
Ветрык прыснуў —
Нашаптаўся з чаротам...
Так і сядзеў бы з разяўленым ротам,
Толькі шкада, што кароткая ноч.

**Вясновая прыгода**

Апошні снег ручаіцца ў бары,
Імкнецца весняй песняю на ўзлессе.
Сумётаў многа намялося ў лесе
Ці што не тое зладзілі бабры?

Прыблытаўся ручай у гушчары
Да стромістай іглічнай пірамiды,
І безнадзейнасць новай Атлантыды
Чакала мурашыны Свет Стары.

Прымоўкла выспа, поўная жуды,
Насуперак вясноваму настрою...
Я нацягаў лаўжоў і сухастою
Ды збудаваў запруду ад вады.

І пазіраў расчулена з гары
На свет, што ўратаваў сваёй рукою.
Раптоўна, паміж ладу і спакою,
Заўважыў я кавалачак кары.

Маленькія мурашкі-бунтары —
Напэўна, ў іх была свая задума —
Сплывалі, каравелаю Калумба,
У Новы Свет, у сінія віры!..

Ева Лявонава

# «ЯК КВЯЦІСТЫ БЫЛІ ТВАЕ ПЕСНІ...»

## Да 175-годдзя з дня нараджэння Марыі Канапніцкай

У маі гэтага года споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння Марыі Канапніцкай — вялікай польскай паэткі, не абыякавай і да лёсу беларускага народа, гісторыю і культуру якога яна добра ведала. Пасля паездкі ў Гродна ў 1888 г. у лісце да паэта Т. Ленартовіча яна пісала: *«Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчай або Літвой, а будзе Беларуссю»*. Амаль усе даследчыкі літаратуры адзначаюць уплыў пісьменніцы на творчасць Янкі Лучыны, Францішка Багушэвіча, Адама Гурыновіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх аўтараў. Янка Лучына падтрымліваў з Марыяй Канапніцкай сяброўскія зносіны, ліставаўся з ёю, і яна высока ацэньвала яго творчасць. У розны час творы М. Канапніцкай перакладалі на беларускую мову Альгерд Абуховіч, Зязюля (Т. Гардзялоўская), Зоф'я Тшачкоўская, Гальяш Леўчык, Янка Купала, Альберт Паўловіч, Язэп Дыла, Зоська Верас, Анатоль Вялюгін, Сяргей Дзяргай, Янка Брыль, Васіль Каваль, Васіль Сёмуха, Ніна Мацяш. Пераствораны па-беларуску Янкам Купалам верш Канапніцкай «Сасонка» паклаў на музыку Мікалай Аладаў.

Нарадзілася Марыя Канапніцкая (Konopnicka) 23 мая 1842 г. у г. Сувалкі, у сям'і юрыста Юзафа Васілоўскага, чалавека надзвычай рэлігійнага, літаратурна адоранага, схільнага да аскетычнага ладу жыцця. Пазней М. Канапніцкая згадвала: *«Атмасфера нашага дзяцінства вельмі адрознівалася ад той, у якой звычайна жывуць дзеці. Мой бацька быў містыкам... любіў адзіноту і быў адданы сваёй працы і дзецям»*. Біблія ў перакладзе Яна Каханоўскага, паэзія польскіх сентыменталістаў і рамантыкаў спадарожнічалі дзяцінству будучай пісьменніцы, а захапленне «Конрадам Валенродам» і іншымі творамі Адама Міцкевіча Марыя Канапніцкая пранесла праз усё жыццё (яна прысвяціла яму кнігу «Міцкевіч, яго жыццё і душа»).

Сваёй адукацыяй Марыя была абавязана пераважна бацьку (маці, Схаластыка Турская, рана памерла). Цягам году дзяўчына выхоўвалася ў варшаўскім кляштарным пансіёне сёстраў сакрамэнтак. Менавіта ў ім яна пасябравала з Элізай Паўлоўскай (Ажэшка), і з таго часу яны былі звязаныя агульнымі памкненнямі і ідэаламі. У дваццацігадовым узросце Марыя Васілоўская выйшла замуж за Яраслава Канапніцкага. У час паўстання 1863 г. яны пераехалі ў Германію, бо сярод паўстанцаў апынуліся брат і дзядзька Марыі (першы загінуў, другі быў сасланы ў Сібір), у сувязях з паўстанцамі падазраваўся і сам Яраслаў Канапніцкі, таму магчымасць рэпрэсій да сям'і была цалкам рэальнай. Аднак у 1865 г. пасля абвяшчэння амністыі паўстанцам Канапніцкія вярнуліся на радзіму.

Дом, шасцёра дзяцей, выхаваннем якіх займалася выключна сама маці, не маглі засланіць ад яе вялікага свету. У лісце да Э. Ажэшкі Марыя Канапніцкая пісала: *«Заўважаеш, што тваё жыццё падобнае да жыцця зачыненай у клетцы птушкі, якая разбівае сваю маленькую галоўку, поўную лясных песенек, аб турэмныя пруты. Сумуеш, прагнеш, гарыш...»*. Ратавалі кнігі — філосафаў, гісторыкаў, пісьменнікаў. Сапраўднай падзеяй стала для Марыі Канапніцкай знаёмства з творамі Мішэля Мантэня; менавіта пасля прачытання яго «Вопытаў» яна «пачала задумвацца» і ўрэшце паспрабавала пісаць сама.

З першымі творамі Марыі Канапніцкай чытач пазнаёміўся ў сярэдзіне 1870-х гг. (верш «Зімовая раніца», паэма «Вясновы раманс»). Сапраўдным жа яе дэбютам стаў цыкл з дзевяці вершаў-эцюдаў «У гарах» — паэтычныя ўражанні ад падарожжа

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных прац, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.



Марыя Канапніцкая.
Гравюра Аляксандра Рагульскага
паводле малюнка Юзафа Бухбіндара. 1885 г.

ў Татры. Усхваляванымі, поўнымі шчырага захаплення словамі адгукнуўся на вершы нікому не вядомай аўтаркі Генрык Сянкевіч: адна з газет апублікавала яго карэспандэнцыю з Амерыкі, дзе ён тады знаходзіўся. Водгук Г. Сянкевіча ўмацаваў М. Канапніцкую ў рашэнні пачаць цалкам новае жыццё. У 1878 г. яна з шасцю дзецьмі накіравалася ў Варшаву, дзе жыў яе бацька. Пачалася штодзённая барацьба за выжыванне ў літаральным сэнсе слова: мужа яна пакінула, бацька, на чыю дапамогу яна спадзявалася, памёр праз год пасля яе пераезду. Аднак дух Марыі Канапніцкай не скараўся. Мара аб служэнні літаратуры, народу, грамадству надавала ёй сілы. У рэдкія гадзіны, вольныя ад урокаў (імі яна зарабляла на жыццё), жанчына нястомна пісала. У розных перыядычных выданнях друкаваліся ўсё новыя яе вершы — «Туга», «У дні самоты», «Credo», «Ці варта» і інш.

Шырокую вядомасць паэтцы прынёс цыкл «Малюнкі» (1879) — вершаваныя навелы, да жанру якіх яна звернецца і пазней. Асноўным зместам яе «Малюнкаў» сталі драматычныя лёсы беднякоў — рабочых і сялян, чыя доля

*...над сумнаю зямелькай*
*Ходзіць, ды не свеціць,*
*І сумліва пазірае,*
*І крывёй свет квеціць...* (Пер. Янкі Купалы)

Яскравым узорам «малюнкаў» з'яўляецца верш «Вольны найміт». Ён быў напісаны праз 15 гадоў пасля праведзеных у краіне сацыяльна-эканамічных рэформаў, якія нібыта мелі на мэце паляпшэнне становішча сялянства, а на справе прынеслі яму толькі адну «свабоду» — *«захлынуцца плачам»* ці *«замерзнуць, як рэчка ад лёду»*:

*Па вузкай сцежцы, ўздыхаючы цяжка,*
*Між грэчак, жыта — сяўбы рук мазольных —*
*Бледны, апрануты рванай сярмяжкай,*
*Шоў найміт вольны.*

*Год той быў цяжкі: улевай тапіла*
*Пасевы, руні — й даспець не даспелі;*
*Зямелька ў слёзах чуць-чуць урадзіла*
*Салому й зелле.*

*З хаты, падаткамі труднымі змучан,*
*Выгнаны, там не пакінуў нікога...*
*Зямлі горсць толькі ўзяў у анучу*
*Й пайшоў дарогай.*

*Капалі слёзы з зялёных бярозаў,*
*Жалейка граннем вітала бяздольных...*
*Стаў, палой світкі сівой абцёр слёзы*
*Ён — найміт вольны!..*

*...Вольны! — бо можа йсці ці стаяць дрэвам,*
*Клясці скрыготам вячыстага болю;*
*Можа захлынуцца плачам ці спевам,*
*Даруе доля.*

*Можа замерзнуць, як рэчка ад лёду,*
*Біць галавой аб сцежку, рваць грудзі, —*
*Ад сонца ўсходу да сонца заходу*
*Змены не будзе...*

*Чаго ж стаіць ён? — то ж вольны, як вецер,*
*Хоча жыве хай, а хоча ўмірае;*
*Ці пойдзе ў працу, ці хопіцца смерці,*
*Ніхто не дбае.*

*І хоць раздзёр бы сябе напалову, —*
*Не запытаюць аб долі мазольнай...*
*Хоць бы паў трупам, не скажуць ні слова...*
*Ён найміт вольны!* (Пер. Янкі Купалы)

Назва верша — па сутнасці, аксюмаран, прызначаны завастрыць палемічную скіраванасць «малюнка», паглыбіць яго драматызм, сфакусіраваць чытацкую ўвагу на безвыходным становішчы героя. Вядомая расійская даследчыца творчасці М. Канапніцкай А. Піятроўская, маючы на ўвазе верш «Вольны найміт», слушна канстатавала, што ён быў «не толькі самым смелым і гучным словам, прамоўленым тагачаснай літаратурай у абарону абяздоленага народа, але і абвінавачаннем супраць

тых, хто асудзіў “вольнага найміта” на галодную смерць».

Сумныя мелодыі гучаць у творах Канапніцкай, напісаных на розных этапах яе літаратурнага шляху. Пра гэта выразна гавораць самі назвы яе паэтычных цыклаў: «Слёзы і песні», «Песні без рэха», «Песні смутку». Тым не менш асноўны настрой яе вершаў — надзея, што нехта людзям *«сцежку ўскажа»*, якая *«весці к шчасцю будзе»*, што *«зорка ясная... пазалоціць хатаў чорных стрэхі саламяны»*, наварожыць *«дзянёчак сонечны і шчасны»*. Філасофія актыўнага, дзейснага жыцця ўвасоблена ў мностве твораў Канапніцкай: у цыклах «Радкі і гукі», «Міцкевічаў дзень», у паэме «Імагіна» (1886—1887), у драматычных фрагментах «З мінулага» (1881), адным з герояў якіх стаў Галілей. Канапніцкая распрацоўвае праблемы рэлігійнай маралі («Без прытулку», «Перазвон») і патрыятызму (*«Кут бацькаў сэрцам сцеражы»*, — скажа яна ў вершы «Родны дом»), звяртаецца да тэмы нацыянальна-вызваленчай барацьбы польскага народа («Фрагменты», «Хадзілі тут немцы»), спавядаецца-разважае аб каханні і шчасці («Preludium», «Як цябе завуць?», «Будзь блаславёнай, ноч...» і інш.):

*...І мучылася і — шчаслівую ж была,*
*І з чары залатой раскошу я піла,*
*Была ў каханні я бяссілай і натхнёнай.*
*Усмешкі шчасця ўсе і безліч горкіх слёз —*
*О, будзь усё, што мне наканаваў мой лёс,*
*Будзь блаславёна!..* (Пер. Ніны Мацяш)

Асаблівую вядомасць набыў верш М. Канапніцкай «Прысяга» (1908), скіраваны супраць рэпрэсіўнай палітыкі прускіх уладаў; у гады Другой сусветнай вайны гэты верш стане гімнам Войска Польскага.

Заклапочанасцю народным лёсам абумоўлены і мастацкі лад паэтычных твораў Канапніцкай. Яны блізкія да народнай песні з яе рэчытатыўнасцю і рытмічнай шматстайнасцю, зачынамі, зваротамі да прыроды, рэфрэнамі і паралелізмамі. Вершам Марыі Канапніцкай уласцівыя глыбокі трагізм, экспрэсіўнасць, вобразная кантраставасць. Яе верш «Як ішоў кароль вайною...» (у перакладзе Янкі Купалы — «Як кароль ў паход выходзіў...») быў вельмі папулярны далёка за межамі Польшчы. Невялікі па памерах, ён мае эпічны характар і па змесце, тыповасці ўвасобленых у ім падзеяў (пакутуюць і гінуць, «кладуцца» на вайне заўсёды простыя людзі, звычайныя, як Стах, ваяры, выйграюць жа войны, пажынаюць лаўры перамогі адно каралі-манархі), і па сваёй паэтыцы, складнікі якой адпавядаюць паэтыцы народнай песні, якую Канапніцкая ўспрымала як *«дакумент народных пакутаў»*.

Адзін з паэтычных шэдэўраў паэткі — верш «На Куявах» — таксама звернуты да народнай песні з яе найбольш характэрнымі рысамі. Ён пабудаваны настолькі па-майстэрску, што выклікае візуальна-слыхавыя і эмацыйныя асацыяцыі і мае эфектам чытацкую прысутнасць, нават міжвольную нашу ўцягненасць у імкліва-віхурны танец куявяка:

*На Куявах скрыпка рэжа:*
*На абэрак — дзейка перша!*
*Падхаплю цябе за станік,*
*Закручу, аж горка стане.*
*Ай, бо ўсенька відна з неба,*
*Ай, бо ладны бохан хлеба,*
*Ай, бо звонкі талер грошай,*
*Ай, бо бусенькі харошай!..* (Пер. Васіля Сёмухі)

У многіх творах паэткі з рэалізмам спалучаны рамантызм, што ўзыходзіць да яе вялікіх суайчыннікаў — Адама Міцкевіча і Юльюша Славацкага, а таксама да яе любімага пісьменніка — французскага рамантыка Віктора Гюго. Магчыма, пад уплывам рамантыкаў Канапніцкая звярнулася да надзвычай распаўсюджанага ў іх жанру ліра-эпічнай паэмы. *«Наша паэзія да той пары не стане сапраўды нацыянальнай, пакуль поруч з «Панам Тадэвушам», гэтай шляхецкай эпапеяй, не ўзнікне эпапея сялянская»*, — пісала М. Канапніцкая.

Гэткай «сялянскай эпапеяй» і стала яе паэма ў актавах «Пан Бальцэр у Бразіліі» (1892–1908). Яна была задумана пасля сустрэч і гутарак паэткі з землякамі-сялянамі, якія, страціўшы ў пошуках лепшай долі на чужыне здароўе і сілы, пахаваўшы ў дарозе ўсіх сваіх дзяцей, дабіраліся на радзіму праз Марсель і Жэневу.

Па мастацкім узроўні гэта адзін з самых значных твораў паэткі. Героі паэмы — каваль Бальцэр і іншыя беднякі, якіх *«бяда ліхая»* прымусіла эміграваць у Бразілію, асудзіўшы на неймаверныя выпрабаванні. Знясіленыя пакутамі і тугой па бацькаўшчыне, перасяленцы вырашаюць вярнуцца ў Польшчу і ў сябе дома шукаць справядлівасці.

Асноўнае дзеянне паэмы разгортваецца на моры, а таксама ў лясах і гарах Бразіліі, але вобраз Польшчы пастаянна прысутнічае ў творы. Да радзімы звернуты шматлікія лірычныя адступленні, у тым ліку заключныя строфы паэмы, што пакідаюць ці не самае моцнае ўражанне. Пераканаўчасць рэалій, моўная дакладнасць у абмалёўцы вобразаў сялянаў-перасяленцаў, жывапіснасць аповеду — усе гэтыя эстэтычныя асаблівасці цалкам адпавядаюць аўтарскай трактоўцы паэмы як сялянскай эпапеі.

Новыя грані таленту Марыі Канапніцкай раскрыліся ў яе апавяданнях, першы зборнік якіх — «Чатыры навелы» — выйшаў у 1888 годзе.

Тады ж М. Канапніцкая пісала: *«Хто ў нашы дні прысвячае сваё пяро народу, той мае перад сабою невычэрпныя багацці новых тэмаў і народжаных сучаснасцю канфліктаў, больш за тое — цэлы свет і запас драматызму, якога хопіць на ўсю літаратуру»*. Сапраўды, яе апавяданні — пры ўсёй адданасці аўтара жыццю «маленькага чалавека» — у праблемна-тэматычных адносінах вельмі разнастайныя: Марыя Канапніцкая паказвае трагічна-безнадзейную будзённасць існавання сялянаў і гарадскіх беднякоў (зб. «Мае знаёмыя»), амаральнасць і жорсткасць багацеяў (апавяданне «Міласэрнасць абшчыны»), барацьбу чалавека са стыхіяй (зб. «На Нармандскім беразе»), нацыянальна-вызваленчы рух у Польшчы і ролю ў ім народа (цыкл «Аповесці Савы»). Бліскучым узорам малога жанру ў М. Канапніцкай з'яўляецца апавяданне «З узломам» (1892) пра жабрацкае жыццё беларускай вёскі. Надзвычай драматычная фабула апавядання. Суд разбірае справу маленькіх падпаскаў, якіх голад зрабіў «зламыснікамі»: яны ўкралі і з'елі сыр і масла, але не асмеліліся дакрануцца да святая святых — хлеба. Суддзі разглядаюць гэты факт інačай: калі на хлеб не паквапіліся, значыць не настолькі былі галодныя, каб красці. Крадзеж *«з узломам»* — так кваліфікуе суд «злачынства» дзяцей і ў адпаведнасці з гэтым выносіць суровы прысуд. Характэрна, што ў апавяданні «З узломам» Марыя Канапніцкая — як гэта часта рабіла ў сваёй прозе і Эліза Ажэшка — выкарыстоўвае беларускую лексіку. Беларускія матывы маюць месца і ў іншых творах пісьменніцы, у тым ліку ў паэме «Пан Бальцэр у Бразіліі», у якіх поруч з іншымі персанажамі апісаныя і выхадцы з беларускага Палесся.

Марыя Канапніцкая вядомая таксама як перакладчыца з чэшскай (Я. Врхліцкі) і нямецкай (Г. Гейнэ, Г. Гаўптман) моваў.

Апошнія дваццаць гадоў (з 1890-га) яна жыла па-за межамі Польшчы (з 1902 года — у Галіцыі), наведала Швейцарыю, Аўстрыю, Францыю, Італію, аднак усё ёю створанае выдавалася на радзіме і мела вялікі поспех. Памерла Марыя Канапніцкая 8 верасня 1910 года ў Львове. Хваласпевам і вялікім жалем напоўнены верш Янкі Купалы «Памяці Мар'і Канапніцкай»:

*І сышла ты, пяснярка народаў,*
*Божы светач жывых пакаленняў,*
*Ў новы край невядомага быту*
*Ад жыццёвых няпраўд і цярпенняў.*

*І пакінула загадку свету —*
*Ўсім няшчасным і зблізка, і здалі:*
*Ці то сонца зайшло назаўсёды,*
*Ці ім долю мо' іх пахавалі?..*



Помнік Марыі Канапніцкай у Варшаве.

*Бо як песня твая ўсёмагутна*
*Безгранічна звінела, будзіла, —*
*Так няма ні граніцы, ні меры*
*Усёй жальбе над тваёю магілай.*

*І хаця сэрца сціхла, заныла,*
*Хоць, як зоры, ўжо вочы не свецяць, —*
*Голас думак тваіх яшчэ будзе*
*Не з адным гаманіці сталеццем.*

*Дух твой з светласцяй неба сальецца*
*І з праменнямі сонца святога*
*Слёзы-росы высушываць будзе*
*І паказываць к праўдзе дарогу.*

*Памяць насып-магілку ўхарошыць*
*З жывых кветак рукою сірочай,*
*Як квяцісты былі твае песні*
*Сярод земскай і сцюжы, і ночы.*

*А з мільёнаў грудзей набалелых*
*Плысці ўздох з веку ў век не пакіне*
*Па заступніцы ўсіх нешчаслівых,*
*Па вялікай пяснярцы-княгіні.*

# СВЯТА ЎЗНЁСЛАГА СЛОВА

## *Пра зборнік «Дабравест» (Гродна, 2017)*

Кожны год на зломе зімы, альбо крыху раней, званы старажытнай Каложы абуджаюць літаратурную Гародню. Адбываецца гэта наступным чынам: у горад з'язджаюцца ўдзельнікі фестывалю праваслаўных песнапенняў «Каложскі Дабравест», а ў яго межах абавязкова ладзяцца яшчэ і вечары духоўнай паэзіі. Спачатку такія імпрэзы выглядалі больш чым сціпла і праходзілі чамусьці на вельмі нізкім мастацкім узроўні, што ніяк не адпавядала міжнароднаму статусу фестывалю. Таму арганізатары задумалі змяніць гэты аматарскі фармат на прафесійны: з духоўнымі вершамі сталі запрашаць вядомых пісьменнікаў, а таксама пачынаючых творцаў, але з вельмі добрым літаратурным густам. А потым паўстала ідэя выдаць кнігу з вершамі ўсіх ўдзельнікаў, каб да свята ўзнёслага слова змагла далучыцца як мага больш шырокая аўдыторыя. І такая кніга выйшла. Яна атрымала назву «Дабравест» і сабрала пад вокладкай адзінаццаць цікавых аўтараў: Вольгу Агапонаву, Алену Бабіч, Дануту Бічэль, Анатоля Брусевіча, Юрку Голуба, Зніча (Алега Бембеля), Паўла Каспяровіча, Андрэя Мельнікава, Аліну Паўлоўскую, Галіну Самойлу і Вікторыю Смолку.



Данута Бічэль падчас выступлення.

Усе гэтыя творцы маюць розны мастацкі вопыт. Так, паэзія Дануты Бічэль ужо даўно ўвайшла ў вучэбныя праграмы сярэдніх школ і ВНУ і зрабілася аб'ектам для шэрагу літаратуразнаўчых даследаванняў. Не адно дзесяцігоддзе на слыху ў беларускага чытача імя Юркі Голуба — выдатнага майстра слоўнай эквілібрыстыкі, альбо Зніча (Алега Бембеля) — паэта-манаха, вядомага на ўсю Беларусь сваімі філасофскімі і маральна-дыдактычнымі вершамі-рэфлексіямі. З вялікім задавальненнем беларусы слухаюць і спяваюць любімыя песні на словы паэта і барда Андрэя Мельнікава, а вось Аліна Паўлоўская і Вікторыя Смолка толькі пачынаюць шлях у літаратуру, хоць ужо і маюць па ўласным выдадзеным зборніку. Маюць свае кнігі і старэйшыя іх калегі — Галіна Самойла і Павел Каспяровіч, якія не абласканыя пакуль належнай увагай літаратурнай крытыкі, аднак ёсць надзея, што гэтыя аўтары з арыгінальным паэтычным светасузіраннем дачакаюцца свайго зорнага часу, магчыма, і дзякуючы публікацыі ў зборніку «Дабравест».

Зрэшты, такі прыклад, калі побач апынуліся настолькі розныя творцы і творы, аказаўся выйгрышным: гэта дало сапраўды ўнікальную магчымасць у межах адной невялічкай па аб'ёме кнігі паказаць даволі вялікі зрэз айчыннага вербальнага мастацтва, прадставіўшы як мінімум чатыры пакаленні творцаў і добры дзясятак жанрава-стылёвых мадыфікацый духоўнай лірыкі — ад класічных вершаў элегічнага характару да эксперыментальных паэтычных формаў. У зборніку, праўда, творцы прадстаўлены не па прынцыпе храналогіі (ад старэйшых літаратараў да пачаткоўцаў) і не паводле сваёй значнасці альбо вядомасці ў беларускай культурнай прасторы, а ў алфавітным парадку, што дазволіць чытачу, асабліва не абазнанаму ў адметнасцях айчыннага літпрацэсу, сфармаваць уласнае ўяўленне пра сучаснае беларускае прыгожае пісьменства, без навязвання звонку пэўных каштоўнасных іерархій. Хацелася б, каб






Аўтары зборніка «Дабравест».

належная чытацкая ўвага ў аднолькавай ступені была звернута на кожнага прадстаўленага ў кнізе паэта, аднак, мусіць, маладзейшым аўтарам яна больш патрэбная для творчага росту. Таму можна было б трошкі даўжэй спыніцца, напрыклад, на вершах Вольгі Агапонавай, якая свабодна пачуваецца ў самых розных лірычных жанрах і формах, спалучае традыцыйныя і наватарскія падыходы ў пабудове твораў, надаючы асаблівае значэнне фармальна-змястоўнаму аспекту:

*Мы чулі спрадвеку*
*ліры*
*адзіныя, ці адзінокія,*
*выратавальныя,*
*з плачам*
*пабраныя.*
*Душаў пазбавілі*
*ліры абраныя —*
*белыя раны*
*таму не крывавяць.*

Вельмі цікавае, арыгінальнае бачанне свету ў Алены Бабіч. Яе паэзія поўніцца яркімі вобразамі, пабудаванымі на дзіўным сугуччы эмоцый і кагніцый, якія натуральна спалучаюцца з актуальным і гістарычным кантэкстам хрысціянскай культуры:

*Ты казаў: «Памятай, ты — з рабрыны».*
*Я ж толькі ад Еўфрасінні да Скарыны*
*памяць маю.*
*Вянок пакутніцкі не ўтрымаю,*
*Адзенне чорнае замараю.*
*Хай у малітве інак памяне.*
*Мой Божа, выращы за мяне.*

Не менш прыцягальныя і запамінальныя вершы Аліны Паўлоўскай — з дасканалай, хоць і вельмі простай на першы погляд формай, з мудрым зместам, здольным перавярнуць стэрэатыпнае ўяўленне аб павярхоўнасці сучаснай паэзіі:

*Адрачэнне — самы кароткі шлях*
*Ад сябе да людзей, ад турмы да волі.*
*Адрачэнне — белы, як сонца, сцяг,*
*Як глухая сцяна паміж шчасцем і болем.*

Своеасаблівы спосаб светабачання, вельмі падобны да таго, які калісьці культывавалі рамантыкі, прапануе Вікторыя Смолка, што ў сваю чаргу ўплыўвае і на тэматыку, і на вобразнасць, і на інтанацыйна-гукавое афармленне яе твораў:

*Зоркая мара, падглядзь мае сны,*
*Зор дзьмухаўцы хай акропяць мой голаў.*
*Чуеш, як дыхае звон цішыні?*
*Ходзяць анёлкі наўкола...*

А ўвогуле, гартаючы зборнік «Дабравест», з кожнай старонкай упэўніваешся, што наша літаратура, прынамсі яе духоўная лірыка, яшчэ не прайшла свой поўны цыкл развіцця: ёй ёсць куды рухацца, ёсць куды расці і адкрываць новыя далягляды, новыя імёны, новае Дабравесце.

*Анатоль Брусевіч*

---

**Анатоль БРУСЕВІЧ** – паэт, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1977 г. у Гродне. Скончыў філалагічны факультэт ГрДУ імя Янкі Купалы (1999), там жа — магістратуру (2000) і аспірантуру (2003) пры кафедры польскай філалогіі. Аўтар кніг паэзіі «Дуэль» (1992), «Падаю ў неба» (2006), «Апошні дзень» (2013), манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча» (2008). Жыве і працуе ў Гродне.



Музей-сядзіба Францішка Багушэвіча «Кушляны».

Міхась СКОБЛА

# БУЙНІЦЫ І ДРАБНІЦЫ УЛАДЗІМІРА СОДАЛЯ

Сустрэчы ён любіў прызначаць «на сваім гародзе» — у Нацыянальнай бібліятэцы. Спачатку я думаў, што слова «гарод» ужывалася як метафара, як вобраз урбленага палетка, з якога дбайны гаспадар заўжды чакае багатых ураджаяў. Але аказалася, што гарбузападобны гмах бібліятэкі сапраўды вырас на колішнім гародзе Уладзіміра Содаля, і там, дзе сёння ў зацішных чытальнях шалясцяць кніжныя старонкі, шаноўны Уладзімір Ілліч, чый дом узвышаецца праз дарогу, садзіў у свой час памідоры і агуркі.

Ён гэтым фактам нібы трошкі і ганарыўся. А і папраўдзе, не кожнаму ўдаецца на ўласных сотках вырасціць гэткі незвычайны «ўраджай». Падпісваючы мне кнігу «Жупранская старонка», аўтар нават зрыфмаваў: «*Як я рады, як я рады сёння і давеку, што іду ў бібліятэку, як на свае грады*».

Але сустракацца з Уладзімірам Содалем было цікава ў любым месцы. Напрыклад, у рэдакцыі часопіса «Роднае слова», дзе я працаваў намеснікам галоўнага рэдактара і куды Уладзімір Ілліч прыносіў свае даследчыцкія артыкулы пра Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янку Купалу, Ядвігіна Ш. Вялікія, падрабязныя, яны звычайна друкаваліся з працягам.

Увогуле, каб прыйшлося адным словам вызначыць сутнасць Содаля-даследчыка, то словам гэтым мне бачыцца *падрабязнасць*. Ён быў надзвычай падрабязны, у даследаванай тэме яго цікавіла ўсё — буйніцы і драбніцы.

---

**Міхась Скобла** — паэт, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова» і выдавецтва «Беларускі кнігазбор», у Міністэрстве культуры і друку. Аўтар кніг паэзіі «Вечны зніч» (1990), «Вочы савы» (1994), «Нашэсце поўні» (2001), «Акно для матылькоў» (2009), зборнікаў пародый «Розгі ў розніцу» (1993), вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), краязнаўчых нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), радыё-дыялогаў «Вольная студыя» (2009), эсэ «Саркафагі страху» (2016). Уклаў фундаментальныя анталогіі паэзіі: «Краса і сіла: беларуская паэзія XX ст.» (2003), «Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX ст.» (2008), збор твораў Л. Генюш ды інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000).

Калі Уладзімір Ілліч пісаў пра Францішка Багушэвіча, то наводзіў сваё даследчыцкае павелічальнае шкло на ўсіх яго сямейнікаў, сяброў, знаёмых, калегаў па працы, суседзяў... Ён мусіў сваімі рукамі абмацаць кожны камень у падмурках Багушэвічавай сядзібы. Ён мусіў ведаць усе легенды і быліцы з усіх свіранска-кушлянска-жупранскіх ваколіцаў. Ён мусіў запісаць тыя песні, якія мог чуць аўтар «Дудкі беларускай».



Уладзімір Содаль. 2013 год.
Фота аўтара.

Помніцца, я прыгадаў у размове з ім сон, які прысніўся мне ў Кушлянах. Неяк заспела нас з сябрамі ноч у дарозе, і дырэктар Багушэвічавай сядзібы Алесь Жамойцін пусціў нас нанач у музейную прыбудоўку. Мы тады за поўнач прагаварылі пра Багушэвіча, пра яго ўдзел у паўстанні 1863 года. Ён мне і прысніўся: схіліўся нада мною, варухнуў вусамі-крыламі і сурова запытаўся: «Чаго ляжыш?».

Уладзімір Ілліч прымусіў мяне запісаць сон падрабязнейшым чынам і нечакана змясціў яго ў адной са сваіх кніг. Прызнацца, пабыць суаўтарам Содаля (хоць на паўстаронцы) для мяне — вялікі гонар.

Ведаю, што не толькі я мусіў занатоўваць нешта па ласкавай камандзе Уладзіміра Ілліча. Даймаў ён і класікаў. Неяк па запрашэнні Ірыны Міхайлаўны Быкавай быў я на кватэры Васіля Уладзіміравіча, з дазволу гаспадыні агледзеў кабінет пісьменніка, дзе ўсё засталося ў нязменным выглядзе. На пісьмовым стале зверху ляжаў кароценькі ліст — ад Содаля, які Ірына Міхайлаўна дазволіла мне сфатаграфаваць.

Ліст быў, вядома ж, пра Багушэвіча. Думаю, ён будзе да месца ў гэтых нататках: «*Шаноўны Васіль Уладзіміравіч! Часта лаўлю сябе на думцы: я жыву з Вамі ў адным часе, у адной эпосе. Але да гэтае пары ні разу з Вамі блізка не размаўляў. Гэта ж калі-небудзь будзе недаравальна для мяне. Карыстаючыся нагодаю, хацеў бы спытацца ў Вас пра самае для мяне сакрамэнтальнае: што для Вас значыць Багушэвічава постаць? Уладзімір*



Адведзіны Зоські Верас. 1981 г.
Фота Лявона Луцкевіча.



Іх кнігарня... Уладзімір Содаль і Вітаўт Мартыненка
на Днях беларускага пісьменства ў Ганцавічах. 2011 г. Фота аўтара.

*Содаль, даследчык Багушэвічавай спадчыны. 24. 09. 2002 г.*».

Невядома, што адказаў свайму карэспандэнту народны пісьменнік (мо ў чыімсьці архіве і знойдзецца той адказ). Маю ўвагу ў тым лісце-просьбе прыцягнулі словы «*самае для мяне сакраментальнае*». Каб жа кожны даследчык з такім пачуццём вывучаў свой перыяд! А то часам і чытаць агідна, як сёй-той пачынае адчыняць «цёмныя каморы белліту», выцягваючы на свет белы... Ды Бог з імі, з тымі «каморамі», не пра іх тут гаворка.

Раздаючы свае даследчыцкія заданні, Уладзімір Содаль умеў быць тактоўна-настойлівым. Ён напісаў безліч лістоў-запытанняў Зосьцы Верас, якая сапраўды «помніла ўсё» (нездарма такую назву атрымала адна з яе кніг) і была для даследчыка невычэрпнай першакрыніцай. На схіле веку Людвіка Антонаўна недабачвала і прасіла зяця Лявона Луцкевіча перапісваць лісты Содаля вялікімі літарамі, называючы іх «уколамі падбадзёрваючага леку».

З усіх сваіх шматлікіх карэспандэнтаў Зоська Верас ці не найбольш шанавала менавіта Уладзіміра Содаля, чуйнага да айчыннай гісторыі і мовы (ён жа яшчэ і тэлеперадачай «Роднае слова» апекаваўся), а таму ўсе яго заданні старалася выканаць у любым выпадку.

Быў сярод віленскіх знаёмцаў Багушэвіча нейкі Крагельскі — вось і ўзялася Людвіка Антонаўна па просьбе свайго маладзейшага сябра высветліць яго асобу. Колькі намаганняў ёй гэта каштавала, відно па зборніку яе мемуарна-эпісталярнай спадчыны «Пакуль рука пяро трымае» (2015). Вось некалькі цытатаў адтуль: «*Што тычыцца Крагельскага, то гэтае прозьвішча мне круціцца, круціцца, круціцца ў памяці... але нічога не выходзіць. Калі Крагельскага ведаў Багушэвіч, ведаў Ян Карловіч, то напэўна ведала яго і Ажэшка. У Варшаве ёсць таварыства miłośników Orzeszkowej. Па гэтай дарозе, можа, куды і зайдзем*» (ліст ад 5 лістапада 1977 г.). Праз пэўны час — вяртанне да тэмы: «*Што да Крагельскага, то з Варшавы абяцаюць. Але яшчэ нічога няма. Мне ўсё здаецца, што гэта быў адвакат. Пачакаем — пабачым*». Гэты ліст напісаны раніцай 4 снежня 1977 года, а ўжо вечарам у Менск пішацца другі ліст з тым жа клопатам: «*Мой знаёмы студэнт меў каляжанку Крагельскую, але не ведае, дзе яна дзелася. Я і мая прыяцелька ў Варшаве ламаем сабе галовы: абедзвюм прозвішча Крагельскі здаецца знаёмым. Але скуль?*». *Праходзіць год, але клопат не сыходзіць з парадку дня: «Аб Крагельскім дагэтуль нічога ніхто не даведаўся. Я на ўсялякі выпадак напісала ў гэтай справе гісторыку Аляксандры Бергман...*».

Мне здаецца, што і там, у нябеснай Беларусі, Уладзімір Ілліч і Людвіка Антонаўна шукаюць таго таямнічага Крагельскага. А як знойдуць — абавязкова паведамяць сучасным багушэвічазнаўцам.

І гэта толькі адзін эпізод даследчыцкіх пошукаў Уладзіміра Содаля. А колькі іх было, датычных цьмяных месцаў у біяграфіях нашых Пачынальнікаў...

Заўжды прыемна было бачыць Уладзіміра Ілліча на розных беларускіх імпрэзах — у Ганцавічах на Днях беларускага пісьменства, у Ракуцёўшчыне і Вязынцы, на менскіх літаратурных вечарынах. Ён прымошчваўся навідавоку, раскладаў свае кніжачкі. З зацікаўленымі вёў нетаропкія размовы, мог пра нейкае адно слоўца цэлую лекцыю прачытаць. Часам трымаў абарону, калі да імправізаванага прылаўка падыходзіў які-небудзь прыхільнік «русского мира». А аднойчы нават у пастарунак трапіў, бо не меў ліцэнзіі на кнігагандаль (як не меў яе і Багушэвіч, але ў яго быў сябра Зыгмунт Нагродскі, які прадаваў «Смык беларускі» ў сваіх крамах разам з сячкарнямі).

«Жупранская старонка», «Свіранскія крэскі», «Кушлянскі кут», «Сцежкамі Мацея Бурачка»... Я люблю перачытваць напісаныя з любоўю *падрабязныя* кнігі Уладзіміра Содаля, яны і для мяне — «укол падбадзёрваючага леку». Ён сеяў сваё зерне з цвёрдай перакананасцю — узыдзе. І яно абавязкова ўзыдзе, і ўжо ўзышло, як той бібліятэчны гмах на ўробленай нястомнымі рукамі дзялянцы-гародзе.

Данута Бічэль

# «Шчаслівыя ўбогія духам...»



Фрагмент афорта «Жабрак на драўляшцы». Рэмбрант Хармэнс ван Рэйн. 1630 г.

Шмат у жыцці было рознага тлуму. Але сны мае застаюцца вернымі свайму прызначэнню. Я сню сваё жыццё ў бацькавай хаце, на хутары Загасцінец, дзе ў любові і шчасці, у зрэбнай кашулі, басанож улетку і ўзімку, праз акно аглядала космас сусвету, а калі неасцярожна акно адчынялася, сусвет урываўся ветрам і зліваўся з маім дыханнем. Той кручок, які трымаў акенца, не згарэў падчас пажару, я яго павесіла каля абразоў, і ён калыхаецца цяпер у маіх успамінах, да яго дацягваюцца лапкамі кошачкі, яны муркаюць, мяўкаюць, часам крычаць. І я крычала ў тую студню космасу, але пераважна ў лесе ці ў лузе, адпыняючы непаслухмянага бычка Лазіка. Калі тату пахавалі, памінкі справілі ў той хаціне, якую ён нам пабудаваў. Калі людзі нас пакінулі, я пайшла далёка ў гушчар лесу і пачала дзіка, нема галасіць. Накрычалася — і камяк у грудзях растварыўся болем па ўсім целе. Так я і сумаўлялася ў сваім свеце — больш з кароўкамі, з птушкамі, з дрэвамі ды з кветкай арнікай...

Калі ж на гасцінцы з'яўляўся нейкі вандроўнік ці анучнік з падводай або жабравалі пагарэльцы з іншых месцаў — гэта была падзея... Але вёска жабраваць не хадзіла... А ў таты быў прынцып — ён нічога не пазычаў... Такую пастанову ён прыняў, калі аднойчы пайшоў пазычыць жыта на сяўбу да ксяндза, а той яму не пазычыў: «Ты бедны, ты не вернеш...», — а пазычыў праваслаўнаму.

Па Беларусі заўсёды вандравалі старцы. У даўнія часы людзі старцаў шанавалі. Старцы — носьбіты духоўнасці, маральнасці, мудрасці. Такі старац у драме Купалы «Раскіданае гняздо». «*Беларускія старцы мелі сваё самакіраванне, сваіх настаўнікаў (майстроў), якія вучылі на-*

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016). Жыве ў Гродне.

*вічкоў спеву песень і малітваў... У канцы XIX ст. пад прыгнётам капіталістычных адносін разрушаліся ў беларускай вёсцы асновы патрыярхальнага быту і пачало выраджацца старцаванне...*

*Па-мыслярску: старац — выхад праз вандраванне з жыцця ў жыццё, «са свету ў свет»... (Ул. Конан).*

Вандроўнікаў па гасцінцы майго жыцця прайшло шмат. Гаршкалепы з Морына прывозілі гаршкі, міскі, збанкі, церлы, свістулькі.

У верасні 1939 года па гасцінцы падвечар прайшла калона савецкіх войскаў, якія «вызвалялі» Заходнюю Беларусь ад Польшчы, на якую з захаду напалі гітлераўскія войскі. Вясной 1943-га з Місураў напрасткі агнявою лаваю па полі ішлі немцы, а мы ўцякалі па раллі. Каля вушэй, здавалася, ціўкалі птушкі, але гэта былі кулі, мы схаваліся ў гліняную яму, а цётка Броня нас засланіла сабою зверху — ды немцы па нас не стралялі, лавілі партызанаў.

Прыходзілі партызаны і салдаты Арміі Краёвай. Адну ноч начаваў атрад Бельскага, які вызваліў з лагера каля Навагрудка сваіх людзей, габрэяў. Зморанyя і хворыя, яны варылі ў нашай печы ежу, спалі на ложках і на таку, на гарышчы і ў адрынцы. Толькі печ нам пакінулі. А я ранкам з габрэечкай пагуляла ў лялькі, і яна мне каснічок пакінула. Цяпер чую па радыё, што сярод вызваленых з гета габрэяў быў Чарльз Кушнер, унук якога жанаты з дачкою амерыканскага прэзідэнта Трампа...

Па гасцінцы немцы вялі палоннага хлопца з кучараваю чупрынаю, а мы стаялі на падворку ў цёткі Броні. Я трымала кубачак з сырадоем і спытала, ці можна *яму* аддаць малачко. Немцы дазволілі, а ён узяў з маіх рук кубачак і паглядзеў мне ў вочы: як успомню той позірк, так і заплачу... Хлопца расстралялі ў нашым сасонніку, тата яго пахаваў. Я шмат часу праводзіла каля той магілкі і там, нібы гуляючы, пачала складаць і запісваць вершы ў школьны сшытак. Гэта былі малітвы за майго героя вайны!

Яны стралялі і стралялі, то здалёк, то зблізку. Мы хаваліся і хаваліся. Адзін партызанскі атрад зімой забраў у нас усё, што можна было забраць, і ўжо загадвае раздзетаму тату ісці з імі, а тут з'явіўся другі атрад — імя Матросава, і першаму атраду загадаў усё вярнуць і тату дома пакінуць... Пасля вайны Гурген Амярханавіч Марціросаў выкладаў філасофію ў Гродзенскім педінстытуце, у якім я вучылася (яго дзеці і ўнукі жывуць у нашым горадзе), а Матросаў – гэта яго партызанскае імя...

Не памятаю, каб па гасцінцы хадзілі гусляры, лірнікі, трубадуры, сляпыя музыкі ды прарокі. Мусіць, хадзілі, бо пры выпадку людзі казалі, што самы страшны грэх — пакрыўдзіць убогага, сляпы — гэта святы...

Каля нас хадзілі казачнікі, апавядальнікі розных гісторый...

Неяк салдат адстаў ад войска, прыбіўся да Юркавай Мані, і яны павянчаліся ў царкве. Але як толькі надарылася магчымасць, салдат уцёк да партызанаў. Маня нарадзіла сына і пражыла пры ім усё жыццё... Ніхто яе болей не ўзяў замуж.

Прыходзілі аднекуль пастухі, пасвілі за ежу, а зімой жабравалі. Толькі пра пастуха Лейбу засталася показка: *«Спіць, як Лейба, Мялёгава здаўшы»*. Бо калі статак заставаўся ў хлявах, то Лейба хаваўся ў лес і там адсыпаўся...

У канцы вайны пайшлі бежанцы са Смаленшчыны. Архібель не навучыў нашых плесці лапці з лазы, але сам плёў, калі хто папросіць. Сястра Рэня на ёлачку ў першым класе мяне прыбрала «сняжынкай» — у мяне была сукенка з выбеленага палатна, карона з бліскучай паперы, некалькі сняжынак прымацавалі на падалок. Настаўніца выбрала мяне таньчыць польку з бежанцам Аркадзікам, але ўсе ўбачылі, што ён падскоквае шырока, а я скачу дробненька — не атрымалася ў нас полечка. І вёска не перайшла на расейскую мову дзеля бежанцаў, як цяпер перайшла тая ж вёска ў горадзе ўслед за начальнікамі.

Галька, дачка маёй сястры, успамінае, што яе бабуля Юля частавала Архібеля аладкамі за малітву. Ён маліцца не ўмеў, аб чым Юля яму сказала, а ён адказаў: *«Ты многа ведаеш, з цябе перад Богам і спрос вялікі, а я ведаю мала, з мяне і спрос малы»...*

Найдаўжэй і рэгулярна пасля вайны ў нашу вёску прыходзіў Вохаха, яго яшчэ называлі Кукулька. Ён быў вольны жабрак, за ежу і куток не адчуваў сябе вінаватым. Наша вёсачка жыла па катэхізісу: *накарміць галоднага, напаіць сасмяглага, адзець, абмыць абарванага, прыняць у дом падарожнага, дапамагчы абмарожанаму.* Вохаху прымалі як Божага пасланніка, выганялі з яго цела насякомых, абмарожаныя рукі лячылі. Зімой хадзіў басанож; начаваў па чарзе з хаты ў хату або жыў у некага аднаго... Вопратку мянялі на ім — аддавалі, хто што меў. Калі ён трапляў у нашу вёску зімой, то мог жыць да вясны. Але сыходзіў з хаты, калі ўсе спалі. Нашы мужчыны

стрыглі і галілі адзін другога, нібы ўсе вучыліся на цырульнікаў, але Вохаха хадзіў, як мядзведзь, не даваўся падстрыгчыся.

У пляменніцы Галькі пра Вохаху застаўся свой дзіцячы ўспамін. Было вяселле. Ён зайшоў у хату, ухапіў са стала акраец пірага, схаваў за пазуху... Нехта ўбачыў і кажа: «Пакладзі назад!». Калі ён выцягнуў пірог, то на ім ужо былі вошы...

Я то і думала, што Вохаху так называлі ад слова «вошы», але гэта няпраўда.

З людзьмі і з Богам ён сумаўляўся без слоў, ведаў адно слова — во-ха-ха, быў глухім... А Гальчын муж Пеця вырас на хутары каля Дакудава, і да іх прыходзіў Вохаха, то ён кажа, што Вохаха — немец, які схаваўся ад вайны... І нібыта быў ён нам усім патрэбны, калі ўсе яго памятаюць.

Вохаха памёр пад крыжам на свята Божага Цела. Яго пахавалі на могілках каля капліцы, а сястра Франя кажа, што Вохаха меў хату ў Залейках, і не быў ён бязродным, меў імя Ёхім і свае карані...

Калі Вохаха зразумеў, што ён памёр, рукі і ногі яму перасталі балець, ён адчуў сябе здаровым. Таму і памёр у капліцы, куды ўваходзячы, трапляеш у іншую рэальнасць. Гэтаксама, як у смерць. Ніхто не заплюшчыў яму вочы. Толькі нядаўна я даведалася, што Валодзю Высоцкага таксама пахавалі з расплюшчанымі вачыма. І пачала я думаць, хто мне вочы закрые... Не хацелася б спаць, як зайчыку пад кустом.

У дзяцінстве мы не баяліся гуляць на могілках. У кожнага была магіла бабулі ці дзядулі, якія нас абаранялі з таго свету. У той капліцы мы таксама гулялі, пакуль дах не зваліўся... Капліцу разабралі і спалілі на могілках...

І Франя падзялілася са мной сваімі перажываннямі. Аднойчы прыйшоў да іх пад вароты жабрак і прасіў у яе, каб яна аддала яму бульбу, што не з'еў сабака. Але Франя была дома адна. Мама, выходзячы з хаты, сказала, каб нікога ў хату не пускала, бо ходзяць цяпер жабракі і могуць яе, малую, пакрыўдзіць. Ёй было шкада жабрака, але яна памятала, што сказала мама...

І Галька расказала, як яны былі ў Сайковых адны дома і прыйшлі жабракі, стукалі ў дзверы, але яны ім не адчынілі, бо дома былі адны малыя...

*Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае*... Нашу Краіну насяляюць бедныя людзі, але жабракоў мала. Нашы продкі перадавалі нашчадкам незафіксаваны статус паводзін: жыць у сваёй хаце па сваіх магчымасцях. Збіраць сродкі праз інтэрнэт хвораму, бездапаможнаму творцу, пакінутаму мастаку — гэта зневажаць, прыніжаць маральна і духова, рабіць жабраком і творцу, і яго мастацтва, бо інтэлігенцыя павінна быць моцнай духам. Збіраць сродкі аб'явамі ў інтэрнэце на выданне кнігі — невялікі гонар для кнігі. Лепей дапамагаць без рэкламы — з рук у рукі, калі ў цябе ёсць шмат, а ў твайго сябра няма зусім. Але сучасныя, прывязаныя да інтэрнэту, думаюць, што калі напісаў у інтэрнэт, то ўжо дапамог... На чорную работу знойдзецца нейкая *бабка*...

Памятаю, як я здабыла ў аптэцы ў нашай сяброўкі Марыі Рудзь лек для таты, ад якога тата вылечыў язву страўніка без лекараў, а па гасцінцы ішла жанчына з Бурносаў, спынілася яна перад нашай хатай і расказала тату, як ёй баліць страўнік, і тата аддаў ёй лек, які выпіў не да канца...

Мы ўбогія духам, але абароненыя Духам Святым.

Наш народ цярпліва пераносіць нягоды жыцця і жыве па Хрыстовай канстытуцыі, а яна супадае з народнай... Так, мы ўслед за Евангеллем спытаем: «*Пане, калі мы бачылі Цябе галодным або сасмяглым, або госцем, або голым, або хворым, або ў вязніцы і не паслужылі Табе?*» Тады Ён адкажа нам: «*Сапраўды кажу вам: чаго вы не зрабілі аднаму з тых найменшых, таго і Мне не зрабілі*» (пар. Мц 25,45).

Вандроўнікаў тут прымаюць як Бога Жывога, асабліва, калі пілігрымы ідуць да святых санктуарыяў. Але не толькі. Не так сабе прыдумаў Валодзя Караткевіч сваю гісторыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», а з народных паданняў. І Максім Танк напісаў прыгожы дыялог з вандроўнікам, у якім ёсць такія радкі: «*...хлеб на стол кладзецца толькі для гасцей// хоць на лаве мулка, перасні начлег*»...

*Люты 2017 г.*

## CONTENTS

We open the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the essay of Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz "Theology of Fatima apparitions and their topicality in our time", given by the Belarusian hierarch at symposium in Zhodzina, dedicated to the 100th anniversary of the Fatima apparitions. A. Grajewski in his article "Pope who wanted to stop the war" talks about Holy Father Benedict XV, whose pontificate was during World War I and Fatima apparitions (p. 2-9).

We continue to publish translation of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (translated from Spanish by S. Gresvi) (p. 10-12).

Teacher of Sacred Scripture, Doctor of Biblical Studies M. Pashuk offers the readers article "Road of Life", where she tells the readers about one of the most interesting books of the Old Testament, Book of Tobit (p. 13-17).

Historian A. Vashkievich dedicates his article "They had their way to independence" to Belarusian Catholic priests and the Belarusian Christian Democracy party (p. 18-21).

Doctor of Philology A. Maldzis in his article "Where can the burial place of Frantishak Skaryna be?" talks about the secret of burial of the first Belarusian printer (p. 22-24).

Belarusian composer A. Chyrkun in his material "I thank God for the inspiration" presents his music with the words of Frantishak Skaryna (p. 25-26).

Restorer A. Shpunt in his article "Icon of Palessie area dialects" presents an interesting story of folk icons from Palessie region and their authors (p. 27-35).

Article "Beauty in simplicity" by Doctor of Arts T. Gabrus is dedicated to the Belarusians wooden shrines (p. 36-42).

Candidate of Philology I. Bagdanovich offers her translation of a poem by G. Puzynia "The Church in Bialynichy" (p. 43-45).

Article "In harmony with God's world" by L. Kaminskaya is dedicated to the outstanding Belarusian artist V. Byalynitsky-Birulya, who belonged to the Catholic noble family (p. 46-49).

Y. Malets dedicates his article "A tale for us and for future generations" to the last national poet of Belarus Nil Gilevich (p. 50-52).

H. Shauchenka in her article "On the balance of justice and mercy" tells the readers about the talented representative of Polish poetry A. Gorecki and his works. Here we also publish a poem "Death of the traitor of the Fatherland" by A. Gorecki translated from Polish (p. 53-57).

In column "Poetry" we publish poems by talented photographer and poet G. Lihtarovich (p. 58-59).

Article "How colorful were your songs..." by professor, candidate of philological sciences E. Liavonava is dedicated to the 175th anniversary of famous Polish poetess M. Konopnicka, whose poems were loved by Y. Kupala (p. 60-63).

Literary critic A. Brusievich in his article "The feast of the sublime words" tells the readers of collection of spiritual poetry "Dabravest" (Grodna, 2017) (p. 64-65).

In the essay "The big and the small of Uladzimir Sodal" by M. Skobla the author warmly recollects Belarusian zealous researcher (p. 66-68).

Poetess D. Bichel in her essay "Blessed are the poor in spirit..." meditates on difficult human life (p. 69-71).

## RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift beginnt mit dem Referat von Erzbischof Tadeusz Kondrusiewicz „Theologie der Phänomene von Fatima und deren Relevanz in unserer Zeit", mit dem der belarussische Hierarch auf einem Symposium in Zhodino sprach, das zum 100-jährigen Jubiläum der Phänomene von Fatima gewidmet war. Im Material von A. Grajewski „Der Papst, der den Krieg stoppen wollte" geht um Papst Benedikt XV., auf dessen Pontifikat der Erste Weltkrieg und die Phänomene von Fatima entfallen sind (S. 2-9).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Traktates „Aufstieg auf den Berg Karmel" des heiligen Johannes vom Kreuz (aus dem Spanischen von S. Greswi) (S. 10-12).

Die Dozentin der Heiligen Schrift und Doktorin der Bibelwissenschaft M. Paschuk berichtet den Leserinnen und Lesern in ihrem Artikel „Der Weg des Lebens" über eines der interessanten Buches des Altes Testaments – Buch des Tobit (S. 13-17).

Belarussische katholische Priestern und die Organisation Belarussische Christliche Demokratie (BChD) wird im Artikel von Historiker A. Waschkewitsch „Es war bei ihnen ein eigener Weg zur Unabhängigkeit" behandelt (S. 18-21).

Der Doktor der philologischen Wissenschaften A. Maldzis reflektiert im Artikel „Wo kann sich der Ort der Bestattung Frantsysk Skaryna befinden?" über das Geheimnis der Grabstätte des Ersten belarussischen Druckers (S. 22-24).

Der belarussische Komponist A. Tschyrkun in der Publikation „Ich danke Gott für die Inspiration" präsentiert seine Musik auf die Worte der Frantsysk Skaryna (S. 25-26).

Im Artikel „Ikonen im Areal der polesischen Dialekten" erzählt der Restaurator A. Spunt über völkische Ikonen aus Polesien und ihren Autoren (S. 27-35).

Die hölzerne Heiligtümer von Belarus werden im Artikel „Schönheit in der Einfachheit" von Doktorin der Kunst T. Gabrusj behandelt (S. 36-42).

Die Kandidatin der philologischen Wissenschaften I. Bagdanowitsch bietet den Leserinnen und Lesern ihre Übersetzung des Gedichtes von G. Puzynja „Die Kirche in Bialynitschy" (S. 43-45).

Der Persönlichkeit des bekannten belarussischen Malers W. Bjalynizki-Birulja, der aus einem katholischen Adelsgeschlecht stammt, ist der Artikel von L. Kaminskaja „In Harmonie mit dem Gottes Welt" gewidmet (S. 46-49).

Zur Erinnerung an letzteren Volkspoeten von Belarus Nil Hilewitsch ist der Artikel von J. Maliec „Die Saga für uns und für die Nachkommen" gewidmet (S. 50-52).

Im Artikel „Auf der Waage der Gerechtigkeit und der Barmherzigkeit" denkt G. Schautschenka über einer des talentierten Vertreters der Poesie im Polnischen A. Garezki und über seint Werke nach. Es ist hier auch eine Übersetzung aus dem Polnischen des Gedichtes von A. Garezki „Der Tod des Vaterlandesverräters" veröffentlicht (S. 53-57).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte vom begnadeten Meister der Fotografie und Poet G. Lichtarowitsch (S. 58-59).

Anlässlich des 175. Geburtstags der berühmten polnischen Dichterin M. Kanopnicka, deren Werke Janka Kupala liebte, ist der Artikel von der Kandidatin der philologischen Wissenschaften, Professorin E. Ljawonawa „Wie blumige waren deine Lieder…" gedruckt (S. 60-63).

Der Literaturwissenschaftler A. Brusiewitsch berichtet im Artikel „Das Fest des erhabenen Wortes" über der kollektive Sammlung der geistlichen Poesie „Dabrawest" (Hrodna, 2017) (S. 64-56).

M. Skobla erinnert sich warm im Essay „Große und Kleine von Uladzimir Sodalj" an diesem fleißigen belarussischen Forscher (S. 66-68).

Über ein schwieriges menschliches Leben reflektiert in ihrem Essay „Selig, die arm sind vor Gott…" die Poetin D. Bitschel (S. 69-71).

## PODSUMOWANIE

Najnowszy numer kwartalnika «Nasza wiara» rozpoczyna się referatem arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza «Teologia objawień fatimskich i ich aktualność w nasze czasy», który hierarcha białoruski wygłosił na sympozjum w Żodzino, poświęconym 100-leciu objawień fatimskich. W publikacji A. Grajewskiego «Papież, który chciał wstrzymać wojnę» jest mowa o papieżu Benedykcie XV, na którego pontyfikat przypadła pierwsza wojna światowa i objawienia fatimskie (s. 2-9).

Kontynuujemy publikację traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi) (s. 10-12).

Wykładowca Pisma Świętego, doktor biblistyki M. Paszuk proponuje uwadze czytelników artykuł «Droga życia», w którym opowiada o jednej z najciekawszych ksiąg Starego Testamentu — o Księdze Tobiasza (s. 13-17).

Białoruskim kapłanom katolickim i organizacji Białoruska Chrześcijańska Demokracja poświęcony został artykuł historyka A. Waszkiewicza «Oni mieli swoją drogę do niepodległości» (s. 18-21).

Doktor filologii A. Maldis w artykule «Gdzie może znajdować się miejsce pogrzebu Franciszka Skaryny» rozważa tajemnicę pogrzebu pierwszego białoruskiego drukarza (s. 22-24).

Białoruski kompozytor A. Czyrkun w publikacji «Jestem wdzięczny Bogu za natchnienie» prezentuje swoją muzykę do słów Franciszka Skaryny (s. 25-26).

Restaurator A. Szpunt w artykule «Ikona obszaru gwar poleskich» ciekawie opowiada o poleskich ikonach ludowych i ich autorach (s. 27-35).

Drewnianym świątyniom Białorusi poświęcony został artykuł doktora historii sztuki T. Habruś «Piękno w prostocie» (s. 36-42).

Kandydat nauk filologicznych I. Bohdanowicz proponuje uwadze czytelników swoje tłumaczenie wiersza G. Puzyni «Kościół w Białyniczech» (s. 43-45).

Osobie wybitnego białoruskiego malarza W. Białynickiego-Biruli, który pochodził z katolickiego szlacheckiego rodu, poświęcony został artykuł L. Kamińskiej «W harmonii z Bożym światem» (s. 46-49).

Pamięci ostatniego narodowego poety Białorusi Niła Hilewicza poświęcony został artykuł J. Malca «Opowieść dla nas i dla potomków» (s. 50-52).

O utalentowanym przedstawicielu polskojęzycznej poezji A. Goreckim i o jego twórczości opowiada H. Szewczenko w artykule «Na szalach sprawiedliwości i miłosierdzia». Tutaj też drukuje się tłumaczenie z języka polskiego wiersza A. Goreckiego «Śmierć zdrajcy Ojczyzny» (s. 53-57).

W rubryce «Poezja» zostały umieszczone wiersze utalentowanego mistrza fotografii i poety H. Lichtarowicza (s. 58-59).

Z okazji 175-tej rocznicy z dnia urodzin wybitnej polskiej poetki M. Konopnickiej, której poezją zachwycał się J. Kupała, drukuje się artykuł profesora, kandydata nauk filologicznych E. Lawonawaj «Jakże kwieciste były twe pieśni…» (s. 60-63).

Literaturoznawca A. Brusiewicz w artykule «Święto wzniosłego słowa» opowiada o zespołowym zbiorze poezji duchownej «Dabrawiest» (Grodno, 2017) (s. 64-65).

W eseju «Bujnice i drobnice Uładzimira Sodala» M. Skobła z wielkim szacunkiem wspomina o tym gorliwym białoruskim badaczu (s. 66-68).

O niełatwym życiu człowieka rozważa poetka D. Biczel w swoim eseju «Błogosławieni ubodzy w duchu…» (s. 69-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con relazione dell'arcivescovo Tadeuzc Kandrusevič "La teologia delle apparizioni di Fatima e la loro attualità" presentata dal gerarca bielorusso al simposio di Žodina dedicato al 100° anniversario delle apparizioni di Fatima. Il testo di A. Graeusky "Il Papa che voleva fermare la guerra" si racconta del Papa Benedetto XV, il cui Pontificato ha coinciso con la Prima guerra mondiale e il fenomeno delle apparizioni di Fatima (p. 2-9).

Continua la pubblicazione del Trattato di San Giovanni della Croce "La salita al monte Carmelo" (tradotto dallo spagnolo da S. Gresvi) (p. 10-12).

La Docente di Sacra Scrittura, Dottoressa di biblistica M. Pašuk sottopone all'attenzione dei lettori l'articolo "La strada della vita" nel quale racconta di uno dei più interessanti libri della Sacra Scrittura, il Libro di Tobia (p. 13-17).

L'articolo dello storico A. Vaškevič "Hanno avuto la propria strada verso l'indipendenza" è dedicato ai sacerdoti cattolici bielorussi e all'organizzazione della Democrazia cristiana bielorussa (p. 18-21).

Il Dottore di ricerca in letteratura A. Maldis nell'articolo "Dove potrebbe essere il luogo di sepoltura di Franzysk Skaryna?" riflette sul mistero della sepoltura del primo editore bielorusso (p. 22-24).

Il compositore bielorusso A. Čyrkun nella pubblicazione "Sono grato al Dio per l'ispirazione" presenta la sua musica sulle parole di Franzysk Skaryna (p. 25-26).

Il restauratore A. Špunt nell'articolo "L'icona proveniente dalle zone di parlate di Palessie" racconta delle icone popolari di Palessie e di loro autori (p. 27-35).

L'articolo della Dott.ssa di ricerca in arte T. Gabrus "La bellezza sta nella semplicità" è dedicato agli oggetti sacri in legno (p. 36-42).

La Dott.ssa di ricerca in letteratura I. Bagdanovič offre all'attenzione dei lettori la sua traduzione della poesia di G. Pusynia "La Chiesa cattolica di Bialyničy" (p. 43-45).

Alla personalità di eccellente pittore bielorusso V. Bialynizky-Birulia proveniente da una nobile famiglia cattolica è dedicato l'articolo di L. Kaminskaya "Nell'armonia con il mondo Divino" (p. 46-49).

Alla memoria dell'ultimo poeta insignito del titolo "Il Poeta del popolo di Belarus", Nil Ghilevič, è dedicato l'articolo di J. Malez "Un racconto per noi e per gli eredi" (p. 50-52).

H. Šaučenka nell'articolo "Sulla bilancia della giustizia e della misericordia" riflette sul rappresentante della poesia in lingua polacca dotato di talento A. Garezky. Accanto si pubblica anche la poesia di A. Garezky "La morte " tradotta dal polacco (p. 53-57).

Nella pubrica *Poesia* sono collocati i versi del famoso fotografo e poeta G. Likhtarovič (p. 58-59).

In occasione del 175° anniversario della nascita dell'eccellente poetessa polacca M. Kanapnizkaya le cui opere amava J. Kupala, si pubblica l'articolo della Professoressa, Dottoressa di ricerca in letteratura E. Liavonava "Come erano fiorenti le tue canzoni…" (p. 60-63).

Il critico letterario di A. Brusevič nell'articolo "La Festa della parola sublime" racconta della raccolta collettiva di poesie spirituali "Suono di campane" (Grodna, 2017) (p. 64-65).

Nel saggio "Grossezze e piccolezze di Uladzimir Sodal" M. Slobla ricorda con calore questo meticoloso studioso bielorusso (p. 66-68).

La poetessa D. Bicel nel suo saggio "Beati i poveri di spirito" riflette sulla difficile vita umana (p. 69-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — Фердынанд Рушчыц, «Ля касцёла», 1899 г. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (80)/2017.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 25.05.2017 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 000 экз. Зак № 587.*

*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*

*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

# У суладдзі з Божым светам

*Да 145-годдзя з дня нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі*



«Зімовы сон», 1911. Палатно, алей, 97x116.
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.



«Святагорскі манастыр. Пушкінскія мясціны», 1936.
Палатно, алей, 58,4x45.
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.



«Дзевяціглавая драўляная царква», 1944.
Палатно, алей, 78,8x98,6.
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.



«Зімовы пейзаж», 1912. Палатно, алей, 93 x 113.
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.



*Укаранаванне Панны Марыі.*
*Ікона арэалу палескіх гаворак.*
*Канец XIX – пачатак XX ст.*
*Са збору Дзмітрыя Сабаніна.*